• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • кошт 3000 рублёў

29 верасня 1998 г.
аўторак
№ 193-194
(23544-23545)

# ЗВЯЗДА

## ПРЭЗІДЭНТ НЕ ЗАДАВОЛЕНЫ РАБОТАЙ СВАІХ ПРАДСТАЎНІКОЎ У РЭГІЁНАХ

**Дзейнасць інстытута інспектараў у абласцях і Мінску выклікае нямала нараканняў. Аб гэтым заявіў Аляксандр Лукашэнка 28 верасня на сустрэчы са сваімі прадстаўнікамі ў рэгіёнах.**

Ён нагадаў, што інстытут інспектараў пры Адміністрацыі Прэзідэнта створаны для таго, каб кіраўнік дзяржавы быў цесна звязаны з усімі рэгіёнамі краіны. Інспектары назначаюцца прэзідэнтам і падсправаздачныя непасрэдна яму.

На думку Аляксандра Лукашэнкі, інспектары, якія павінны інфармаваць прэзідэнта аб усіх найбольш значных праблемах у абласцях, пакуль не поўнасцю выконваюць ускладзеныя на іх задачы. «Павінен адкрыта сказаць, што я атрымліваю вельмі мала інфармацыі па сітуацыі ў абласцях і горадзе Мінску», — адзначыў прэзідэнт. Ён асабліва падкрэсліў, што галоўнай задачай інспектараў з'яўляецца пастаянная сувязь з рэгіёнамі рэспублікі, і інфармацыя аб становішчы спраў павінна паступаць кіраўніку дзяржавы рэгулярна, а не толькі пры ўзнікненні канфліктных сітуацый.

**БЕЛТА.**

## «ЗВЯЗДА» ЕДЗЕ Ў ЛУНІНЕЦ

**29 і 30 верасня ў Лунінцы і Лунінецкім раёне праводзіцца «выязная прыёмная» газеты «Звязда», Федэрацыі прафсаюзаў, міністэрстваў па надзвычайных сітуацыях, сацыяльнай абароны, жыллёва-камунальнай гаспадаркі і аховы здароўя.**

**«Выязная прыёмная» пачне працаваць 29 верасня ў 8.30 раніцы ў саўгасе «Міжлескі» Вулькаўскага сельсавета. У 15 гадзін сустрэчы з насельніцтвам пройдуць у Чучавіцкім сельсавеце, а ў 18 гадзін — у будынку раённага Дома культуры.**

**30 верасня ўдзельнікі «выязной прыёмнай» у 8.30 раніцы будуць знаходзіцца ў калгасе «Авангард» Лунінецкага сельскага Савета. У 13 гадзін сустрэчы з насельніцтвам адбудуцца на дзяржаўным прадпрыемстве «Граніт» рабочага пасёлка Мікашэвічы.**



### НАРАЎЛЯНСКІЯ ГАРБУЗЫ

У Беларусі не вядзецца ўлік даных па ўраджайнасці гарбузоў, але, напэўна, усе паказчыкі былі б перакрыты сёлетнім ураджаем у Нараўлянскім раёне. Сведчанне таму — здымак з вёскі Загалле.

**Фота Максіма МАЛІНОЎСКАГА.**

**Павел ШЫПУК:**

## «У нелегітымны парламент афіцыйныя дэлегацыі не прыязджаюць»

**Кіраўніцтва беларускага парламента, у прыватнасці Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу, вельмі задаволена вынікамі візіту ў Мінск дэлегацыі Саэйма Латвійскай Рэспублікі. Павел Шыпук называе сустрэчу не інакш, як вельмі паспяховай і ўдалай. Гэта ён асабліва падкрэсліў у мінулую суботу на сустрэчы з журналістамі.**

Галоўным вынікам візіту можна лічыць сам факт прыезду ў Беларусь прадстаўнічай дэлегацыі парламента Латвіі, паколькі гэта адбылося ўпершыню. Вялікае значэнне ў Нацыянальным сходзе сустрэчы з латвійскімі калегамі надаюць не выпадкова. Пасля рэферэндуму 1996 года афіцыйная Рыга падтрымлівала прынятыя заходнімі дзяржавамі санкцыі байкоту ў адносінах з беларускім парламентам, які, у сваю чаргу, адчуваў сябе з-за гэтага не зусім утульна. Цяпер жа, паводле слоў П. Шыпука, латышы перадолелі негатыўныя стэрэатыпы і пайшлі на ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва. І гэты прыезд тым больш каштоўны, што Латвія — адзіная еўрапейская краіна, якая зрабіла гэты крок. П. Шыпук пацвердзіў, што, напрыклад, з тымі ж Літвой і Эстоніяй парламенцкіх сувязяў зараз няма.

Ён таксама расказаў, што Нацыянальны сход накіраваў запрашэнні наведаць Беларусь амаль усім парламентам свету, але водгукаў на іх прыйшло няшмат. «Не было ніводнай адмовы, з некаторымі краінамі ўдакладняюцца тэрміны сустрэч. Але я прама скажу, што ёсць краіны, якія, хоць і заяўляюць аб нежаданні разрыву кантактаў, на справе ў гэтым адмаўляюць. Гэта дзяржавы Еўрапейскага саюза, — кажа П. Шыпук. — Пасля сітуацыі з «Драздамі», якая нам моцна нашкодзіла, становішча яшчэ больш ускладнілася. Але я веру, што ў далейшым пагаршэння адносінаў ужо не будзе, будзе павольнае паляпшэнне». Пры гэтым кіраўнік Палаты заўважыў, што візіт латвійскай дэлегацыі «павінен даць падставы іншым дзяржавам падумаць пра тое, як паводзіць сябе ў адносінах з Беларуссю».

Падчас знаходжання латышоў у Мінску высветлілася яшчэ адна цікавая акалічнасць. Аказалася, маці кіраўніка Саэйма Алфрэдса Чэпаніса нарадзілася на Віцебшчыне. У 1938 годзе яна пераехала ў Латвію, дзе выйшла замуж і нарадзіла шасцёра дзяцей. Усе яны маюць латвійскае грамадзянства, але той жа А. Чэпаніс па нацыянальнасці лічыць беларусам. Такім чынам, ён, прыехаўшы ў Беларусь, наведаў і сваю этнічную радзіму. А факт абрання яго спікерам Саэйма, дарэчы, сведчыць пра добразычлівае стаўленне ў Латвіі да беларусаў. Члены дэлегацыі пацвердзілі, што адносіны да беларускай дыяспары зусім не такія, як можа падацца са сродкаў масавай інфармацыі, асабліва расійскіх. Нашых суайчыннікаў у Прыбалтыцы цэняць і паважаюць.

Зразумела, паездка латышоў насіла не толькі палітычны характар, але і эканамічны, паколькі ў састаў дэлегацыі ўваходзілі кіраўнікі буйных прадпрыемстваў краіны, мэры гарадоў Вентспілс і Лiепая. Падчас сустрэч у Мытным камітэце Беларусі была дасягнута дамоўленасць аб спрашчэнні мытнага афармлення грузаў, якія перасякаюць беларуска-латвійскую мяжу.

Не выключана, што для аператыўнага вырашэння набалелых пытанняў у хуткім часе краіны абмяняюцца прадстаўнікамі мытных камітэтаў, якія будуць на месцы вырашаць узнікшыя праблемы. Абмяркоўваліся магчымасці ўкладання ў беларускую эканоміку латвійскіх інвестыцый. У якасці даведкі прыводзілася інфармацыя аб наяўнасці ў суседзяў інвестыцыйных магчымасцяў у памеры 1 млрд. долараў ЗША. Таксама ішла гутарка аб стварэнні сумесных латвійска-беларускіх тэрміналаў у портах гэтай прыбалтыйскай краіны для абслугоўвання нашых грузаў.

П. Шыпук заявіў, што ў бліжэйшы час беларускі і латвійскі бакі збіраюцца падпісаць пагадненне аб рэадмісіі. Як вядома, пачалася дэмаркацыя беларуска-латвійскай мяжы. «А без ратыфікацыі гэтых дакументаў парламентамі яны не змогуць дзейнічаць», — падкрэсліў Старшыня Савета Рэспублікі.

З кастрычніка ў Латвіі адбудуцца новыя парламенцкія выбары, таму надаўні прыезд латвійскіх дэпутатаў быў апошнім замежным візітам сённяшняга саставу Саэйма. У вышэйшы заканадаўчы орган суседняй краіны хутка прыйдуць новыя людзі, дзеянні якіх складана сёння прадказваць. Але П. Шыпук сцвярджае, што гэта не паўплывае на характар адносінаў, паколькі госці запэўнілі: сённяшняя палітычная сітуацыя ў Латвіі дае падставы сцвярджаць, што ў Саэйм прыйдуць разумныя разважлівыя палітыкі, якія не будуць радыкальна мяняць цяперашнюю лінію парламента. Менавіта па прычыне выбараў зараз нельга гаварыць і пра візіт беларускай дэлегацыі ў адказ. Такая паездка плануецца, але яе парадак і тэрмін прыйдзецца ўжо ўзгадняць з новым кіраўніцтвам латвійскага Саэйма.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

*СКАНДАЛ*

## БІЗНЕС НА КРЫВІ

***Людзі ў белых халатах стварылі «чорны рынак» дэфіцытных лекавых прэпаратаў***

Грошы, як вядома, не пахнуць. І ўсё ж ад гэтых грошай, што круціліся на «чорным рынку» лекаў патыхае смерцю.

Наогул, гэты падпольны бізнес і ў прамым, і ў пераносным сэнсе замешаны на чалавечай крыві.

Але аб усім па парадку...

### «Аптэка» на колах

У ліпені гэтага года ў Магілёве быў затрыманы аўтафургон, у якім, скажам так, асобы «каўказскай нацыянальнасці» спрабавалі вывезці за межы Беларусі буйную партыю лекаў. І хоць гаспадары «аптэкі» на колах прад'явілі міліцыі адпаведныя дакументы на груз, у вартавых правапарадку ўсё ж узніклі пэўныя сумненні. Аўтамашыну вырашылі затрымаць, каб праверыць больш дасканала падазроных «экспарцёраў». Як потым аказалася, інтуіцыя міліцыянераў не падманула. Дакументы на вываз лекаў аказаліся несапраўднымі. Дакладней, у адной з мінскіх фармацэўтычных фірмаў, якая нібыта прадала гэтыя медыкаменты каўказцам, тэрмін дзейнасці адпаведнай ліцэнзіі скончыўся яшчэ ў 1995 годзе.

Так што лекі вывозіліся з Беларусі незаконна і тавар быў канфіскаваны ў даход дзяржавы. Але на гэтым справа не скончылася.

### Адкуль альбумін?

Супрацоўнікі ўпраўлення па эканамічнай злачыннасці МУС Беларусі, вядома ж, зацікавіліся, дзе ж на самай справе набылі дэфіцытныя лекі прадпрымальныя каўказцы. Асабліва насцярожыла барацьбітоў з эканамічнай злачыннасцю тое, што сярод асартыменту лекаў у «аптэцы на колах» было больш за 300 бутэлек альбуміну ёмістасцю 200 мл кожная. Гэта вельмі дарагі лекавы прэпарат, які вырабляецца з донарскай крыві і шырока прымяняецца для лячэння многіх хвароб, і ў прыватнасці анкалагічных.

Па звестках «Звязды», вялікім попытам альбумін карыстаецца зараз у «гарачых кропках» СНД, паколькі гэта незаменны прэпарат для лячэння параненых. Вядома ж, і цана альбуміну ў гарачых кропках намнога вышэйшая, чым у мірнай Беларусі. Напрыклад, бутэлька альбуміну ёмістасцю 200 мл нават на «чорным рынку» Беларусі каштуе 10—15 долараў. У месцах баявых дзеянняў цана гэтага прэпарату ўзрастае да 500 долараў за флакон. Словам, сітуацыя класічная: попыт нараджае прапанаванне. Незвычайнае хіба тое, што «чорны рынак» гэтага лякарства стварылі нядобрасумленныя беларускія медыкі.

Варта адзначыць, што альбумін у свабодны продаж не паступае. Гэтае лякарства вырабляюць спецыялісты Рэспубліканскай станцыі пералівання крыві толькі па заяўках медыцынскіх устаноў. Больш таго, кожны флакон альбуміну пранумараваны, мае таксама сваю серыю і канкрэтны «адрас». Таму аператыўнікі хутка пераканаліся, што ўцечка гэтага лякарства на «чорны рынак» адбылася не са станцыі пералівання крыві, а непасрэдна з бальніц, якія заказвалі альбумін. Схема, па якой дзейнічалі нядобрасумленныя медыкі, была даволі простай. Атрыманы для канкрэтных людзей альбумін хворым не ўводзіўся, а прадаваўся, звычайна праз адпаведныя рэкламныя аб'явы.

Адметна, што некаторыя медыкі «эканомілі» гэтае лякарства нават на хворых, якія знаходзіліся ў рэанімацыйным аддзяленні. І хто ведае, можа камусьці з хворых сквапнасць людзей у белых халатах каштавала жыцця. У прыватнасці, следствам устаноўлены выпадак, калі альбумін быў украдзены ў чалавека, які праз некалькі дзён памёр у рэанімацыі. Злоўленыя за руку медыкі, праўда, кажуць, што чалавек гэты быў безнадзейна хворы і выратаваць яго ўжо не дапамаглі б ніякія лекі. Магчыма, у дадзеным выпадку гэта сапраўды так. Але не выключана, што следства ў хуткім часе выявіць іншыя, больш жахлівыя факты.

### Хворае сумленне

Як стала вядома «Звяздзе», зараз у полі зроку праваахоўных органаў знаходзяцца некалькі сталічных клінік, з якіх дэфіцытны альбумін нейкім чынам трапіў у арыштаваную «аптэку на колах». Няма сумненняў, што следства здолее разблытаць гэтую справу і знойдзе вінаватых.

Вось толькі наўрад ці пацыенты медыцынскіх устаноў надалей будуць застрахаваны ад нядобрасумленных медыкаў. І справа не толькі ў вельмі нізкіх заробках урачоў і медсёстраў, што і падштурхоўвае некаторых з іх на гандаль крадзенымі лекамі. Відавочна, нельга патлумачыць гэтыя прыкрыя выпадкі таксама і адсутнасцю належнага кантролю. Хоць строгую сістэму кантролю за выкарыстаннем лекаў ужо не пашкодзіла б. Праўда, нядобрасумленныя людзі звычайна знаходзяць «слабыя месцы» і ў самых дасканалых сістэмах кантролю. Таму, як гэта ні банальна гучыць, але найлепшы кантралёр у дадзеным выпадку — чалавечае сумленне.

У любым выпадку факт крадзяжу жыццёва неабходнага лякарства ў хворых, ды яшчэ медыкамі, якія павінны рабіць усё магчымае для выратавання чалавека — гэта само па сабе надзвычайнае здарэнне. Пагадзіцеся, гэта больш чым крадзеж, і ўкрадзенае тут нельга вымяраць толькі грашовымі знакамі. Гэта — хвароба сумлення.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

## УСМІХНЁМСЯ!

*У цырульні:*

*— Ніна, — кажа майстар дзяўчыне, — пагалі гэтага грамадзяніна, толькі глядзі не парэжся.*

❑

*Наведвальнік рэстарана раздражнёна:*

*— Афіцыянт, калі гэта біфштэкс, то я ідыёт!*

*— Гэта біфштэкс, — адказвае афіцыянт і, крыху падумаўшы, дабаўляе. — Гэта самы сапраўдны біфштэкс!*

❑

*На пляжы ляжаць малады хлопец і дзяўчына.*

*— Вась, — кажа дзяўчына, — а ты ведаеш, аб чым я зараз падумала?*

*— Ведаю, — адказвае хлопец.*

*— Які ж ты бессаромны, Вася!*




Малюнак Яўгена ЦАРКОВА.

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 28 ВЕРАСНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| **Мінск (017)** | | | | | | | |
| «Славнефтебанк» | 72900 | 73000 | 43720 | 43780 | 3000 | 4680 | 222-0750 |
| Пріорбанк | 71500 | 73000 | 42900 | 43700 | 3000 | 4600 | 245-5721 |
| Белпрамбудбанк | 72000 | 73000 | 42500 | 43750 | 4000 | 4680 | 233-2110 |
| Нацыянальны банк РБ афіцыйны курс (курс для безнаяўных разлікаў) | 53100 | | 31489.06 | | 3400 | | Курс на 29.09.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 15.9932 | | 9.5084 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваццa ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

***Першы выпуск штогадовага даведачнага альманаха «Курсы Нацбанка РБ і Цэнтрабанка РФ» за перыяд з 1990 па 1997 гады можна набыць, пазваніўшы па тэл. (017) 228-59-80.***

Сяргей ЛІНГ

# ЗАКЛАДЗЕНА АСНОВА ДЛЯ ДАЛЕЙШАГА ЭКАНАМІЧНАГА РОСТУ

## ПА МАТЭРЫЯЛАХ ДАКЛАДА НА ПАСЯДЖЭННІ САВЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АД 22 ВЕРАСНЯ 1998 г.

У адпаведнасці з прынятай Праграмай дзейнасці ўрада, а таксама Прагнозам сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1998 год, зацверджаным Указам прэзідэнта краіны, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, з'яўляючыся цэнтральным органам дзяржаўнага кіравання, ажыццяўляе бесперапынны аналіз рэальнага становішча спраў у эканоміцы, кантралюе функцыянаванне ўсяго народнагаспадарчага комплексу ў разрэзе галін, міністэрстваў, аб'яднанняў і рэгіёнаў, прымае неабходныя аператыўныя меры.

### 1. АГУЛЬНАЯ АЦЭНКА ВЫКАНАННЯ ПРАГНОЗНЫХ ПАКАЗЧЫКАЎ САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАГА РАЗВІЦЦЯ ЗА 8 МЕСЯЦАЎ 1998 ГОДА

Вынікі работы народна-гаспадарчага комплексу за студзень—жнівень 1998 года паказваюць, што важнейшыя параметры прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця на 1998 год у асноўным выконваюцца.

*(працэнт)*

| *Паказчыкі* | *Прагноз на 1998 г.* | *Вынікі за 8 мес.* |
|---|---|---|
| ВУП | 107-108 | 111,0 |
| Прамысловасць | 108-109 | 112,0 |
| Прадукцыя сельскай гаспадаркі | 104-105 | 100,7 |
| Вытворчасць тавараў народнага спажывання | 110-111 | 120,6 |

Станоўчым момантам з'яўляецца рост інвестыцый у асноўны капітал (127,3 працэнта за 8 месяцаў, па прагнозу — 112-113 працэнтаў). Пры гэтым тэмпы росту інвестыцый у вытворчую сферу (127 працэнтаў) амаль дасягнулі значэнняў невытворчай сферы (128 працэнтаў).

Такім чынам, насуперак усім негатыўным прадказанням апанентаў, і ў гэтым годзе эканоміка рэспублікі дэманструе ўстойлівы рост.

У яго аснове як больш поўнае выкарыстанне раней створанага вытворчага патэнцыялу, так і асваенне новых магутнасцяў.

Істотны ўплыў аказвае збалансаванае дзяржаўнае рэгуляванне рыначных працэсаў, якое выступае як абавязковы атрыбут беларускай мадэлі эканамічнага развіцця.

Станоўчыя зрухі ў эканоміцы далі магчымасць скараціць беспрацоўе, павысіць рэальныя грашовыя даходы насельніцтва, паскорыць вырашэнне сацыяльных пытанняў.

Урад, поўнасцю кантралюючы сітуацыю, разам з тым прызнае: па асобных напрамках ёсць праблемы, ёсць сур'ёзныя збоі.

Так, з сакавіка гэтага года па розных прычынах ліхаманіць спажывецкі рынак, і трэба прыкладаць дадатковыя намаганні па яго стабілізацыі.

Вельмі неспрыяльныя (за ўвесь пасляваенны перыяд) пагодна-кліматычныя ўмовы гэтага года з'явіліся суровым выпрабаваннем для працаўнікоў вёскі, ускладнілі ўмовы ўборкі, абумовілі недабор валавога збору збожжа.

Дыскрымінацыйная палітыка Захаду ў адносінах да беларускіх тавараў ускладняе пераадоленне дэфіцыту знешняга гандлю.

Прыходзіцца пераадольваць негатыўныя вынікі фінансава-бюджэтнага і валютнага крызісу ў Расіі.

Сярод канкрэтных негатыўных момантаў, якія сёння патрабуюць да сябе максімум увагі з боку ўрада, трэба выдзеліць:

1. Інфляцыю.
2. Дэстабілізацыю валютнага рынку і абменнага курса беларускага рубля.
3. Дэфіцыт гандлёвага балансу.
4. Зніжэнне рэнтабельнасці прадпрыемстваў рэальнага сектара эканомікі.
5. Невысокі ўзровень жыцця пэўнай часткі насельніцтва рэспублікі.

### 2. ПЫТАННІ ФІНАНСАВАЙ І МАКРАЭКАНАМІЧНАЙ СТАБІЛІЗАЦЫІ

#### 2.1. ІНФЛЯЦЫЯ. ЦЭНАВАЯ ПАЛІТЫКА

Індэкс спажывецкіх цэн за студзень—жнівень склаў 3,4 працэнта (пры прагнозным сярэднямесячным значэнні на год 2 працэнты), у тым ліку за жнівень — 3,8 працэнта.

Сярод асноўных інфляцыйных фактараў трэба выдзеліць нерэалізаваны інфляцыйны патэнцыял, сфарміраваны на канец 1997 года (індэкс цэн на прамысловую прадукцыю на 25,1 працэнтнага пунктуыа перавысіў індэкс спажывецкіх цэн).

Непасрэдна на росце цэн адбілася зніжэнне абменнага курса беларускага рубля. У выніку прыкладна 50 працэнтаў прыросту цэн абумоўлена «імпартуемай інфляцыяй». Сваё ўздзеянне на фарсіраванне інфляцыі аказваюць і параметры праводзімай Нацыянальным банкам грашова-крэдытнай палітыкі.

Асабліва трэба выдзеліць адсутнасць высокаэфектыўнага процізатратнага механізма (з-за слабай рыначнай канкурэнцыі, з-за праяўленняў манапалізму), калі ўсе магчымыя і немагчымыя затраты, рост заработнай платы без адэкватнага ўздыму эфектыўнасці вытворчасці і г.д. імкнуцца перанесці на выдаткі вытворчасці, потым на цэны і такім спосабам «зваліць» усе фантазіі і страты на канчатковага спажыўца.

Таму сёння інфляцыя — у пэўнай ступені яшчэ і вынік безадказнасці і безгаспадарчасці, іншы раз — безабароннасці перад пастаўшчыком-манапалістам.

Развіццё інфляцыйных працэсаў у рэспубліцы магло працякаць яшчэ больш інтэнсіўна, калі б дзяржава не праводзіла ўзважаную цэнавую палітыку, накіраваную, з аднаго боку, на стрымліванне росту цэн і тарыфаў (абараняючы ўзровень жыцця насельніцтва), з другога — на пераадоленне дыспрапорцый ва ўзроўнях цэн, на ліквідацыю перакрыжаванага субсідзіравання.

Зніжэнне абменнага курса расійскага рубля і рост цэн на расійскім рынку ў пачатку верасня рэзка абвастрылі сітуацыю на спажывецкім рынку. Узнікла неабходнасць прыняцця шэрагу абаронных мераў, у тым ліку і цэнавых зрухаў, каб не агаліць рэспубліканскі рынак. Але лінія на абарону ўзроўню жыцця нашых людзей, на недапушчэнне неабгрунтаванага росту цэн, на індэксацыю даходаў насельніцтва застаецца нязменнай.

#### 2.2. СТАБІЛІЗАЦЫЯ ЎНУТРЫРЭСПУБЛІКАНСКАГА СПАЖЫВЕЦКАГА РЫНКУ

Устойлівыя тэмпы эканамічнага развіцця дазваляюць стабільна напаўняць таварамі ўнутрырэспубліканскі спажывецкі рынак.

Розвічны тавараабарот павялічыўся на 41,4 працэнта (прагноз 8-9 працэнтаў). Нягледзячы на значны рост аб'ёмаў продаж у гэтым годзе (мясапрадукты — 12 працэнтаў, натуральнамалочная прадукцыя — 16 працэнтаў, яйкі, сыр, масла, цукар — 1,3—1,9 раза), удалося ў цэлым захаваць спажывецкі рынак у адноснай раўнавазе. Акрамя таго, па большасці пазіцый павялічаны бягучыя запасы тавараў у гандлёвай сетцы.

Гэтаму садзейнічае ўстойлівая работа галін народнай гаспадаркі, а таксама здольнасць Беларусі да самазабеспячэння асноўнымі відамі прадуктаў харчавання.

У рэспубліцы ствараецца дзяржаўны харчовы рэзерв на асенне-зімовы перыяд для горада Мінска, абласных цэнтраў і буйных гарадоў. Па стану на 21 верасня гадавое заданне па назапашванню масла выканана на 85,4 працэнта, цвёрдых сыроў — на 108,5 працэнта, сухога малака — на 84,4 працэнта. На холадакамбінатах горада Мінска нарыхтавана ў 1,5 раза больш мінулагодняга ўзроўню мясапрадуктаў. Аналагічная работа праводзіцца і ў абласцях.

Варта адзначыць, што негатыўныя працэсы, якія адбываюцца ў эканоміцы Расійскай Федэрацыі, паранейшаму адмоўна ўплываюць на рэспубліканскі спажывецкі рынак. У сувязі з неабходнасцю аператыўнага рэагавання на сітуацыю, урадам створана Часовая камісія па абароне спажывецкага рынку на чале з віцэ-прэм'ерам Л. П. Козікам, якая выпрацоўвае прапановы па рэгуляванню таварных патокаў і прадухіленню несанкцыяніраванага вывазу тавараў, робіць іншыя захады па выкананню Дэкрэта Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (ад 4 верасня 1998 г. № 15) «Аб неадкладных мерах па абароне спажывецкага рынку». Уносімыя прапановы рэгулярна разглядаюцца Прэзідыумам Савета Міністраў.

У адпаведнасці з даручэннем прэзідэнта краіны распрацоўваюцца праекты нарматыўных актаў, якія прадугледжваюць дадатковыя рычагі па эфектыўнай абароне спажывецкага рынку. Мінгандлю трэба больш актыўна ўключацца ў рэгуляванне ўсяго аб'ёму рознічнага гандлю, адпрацоўваючы новыя формы работы з недзяржаўным сектарам.

Разам з тым спецыяльна спынюся і падкрэслю: рэспубліка ажыццяўляла і будзе ажыццяўляць экспартныя пастаўкі прадуктаў харчавання ў Расійскую Федэрацыю. Так, за восем месяцаў гэтага года экспарт прадукцыі АПК павялічыўся на 4 працэнты і склаў больш як 170 млн. долараў. Гэта: 32 тыс. тон мяса, 11 тыс. тон мясных кансерваў, 18 тыс. тон масла і г. д. Паводле разлікаў Мінсельгасхарча, нашы магчымасці па экспарту прадуктаў харчавання ў Расію на IV квартал вызначаюцца ў аб'ёме каля 50 млн. долараў ЗША.

#### 2.3. СТАБІЛІЗАЦЫЯ АБМЕННАГА КУРСА БЕЛАРУСКАГА РУБЛЯ

Ёсць усе падставы лічыць, што становішча на валютным рынку застаецца складаным і супярэчлівым. Што сёння, напрыклад, не задавальняе дырэктара беларускага прадпрыемства?

а) Наяўнасць мноства валютных курсаў, што ўскладняе калькуляванне і ўлік.

б) Захаванне значнага разрыву паміж афіцыйным і рыначным курсамі, што робіць нявыгадным абавязковы продаж.

в) Дэфіцыт СКВ на Міжбанкаўскай валютнай біржы, што тармозіць плацежны працэс узнаўлення.

г) Захаванне абавязковага продажу часткі валютнай выручкі па нізкаму афіцыйнаму курсу, што прыводзіць да страты часткі абаротных сродкаў.

Работніка вытворчасці ў першую чаргу цікавіць валютнае забеспячэнне ўзнаўлення. Таму, захоўваючы абавязковы продаж, неабходна ў бліжэйшы час вярнуцца да гэтага пытання і ўдакладніць методыку разліку свабоднага астатку валютнай выручкі, саму ідэю валютнай акупнасці вытворчасці.

Нацбанку неабходна таксама перагледзець існуючую практыку ўплыву на рыначнае курсаўтварэнне і не замыкацца толькі валютнай біржай. Стабільны валютны рынак — гэта калі прадпрыемства (або грамадзянін) можа свабодна задаволіць сваю заяўку на СКВ.

Безумоўна, такія дзеянні, як абмежаванне па выкарыстанню беларускага рубля ў міжнародных разліках, спыненне афіцыйных знешніх каціровак беларускага рубля — меры часовага характару. Пакуль жа відаць, што чым менш станавіўся ў ліпені-жніўні астатак беларускіх рублёў на рахунках нерэзідэнтаў, тым больш узрастала розніца паміж афіцыйным і рыначным курсамі. Гэта супярэчыць стратэгічнаму разліку, па якім Нацбанк планаваў узяць такім чынам неарганізаваны валютны рынак пад кантроль. Аналіз паказвае, што дынаміка рыначнага абменнага курса непасрэдна залежыць і ад дынамікі грашовых агрэгатаў. Ніхто не адмяняў «залатое правіла» грашовага абарачэння: для таго, каб вызначыць мінімальны (базавы) узровень курса нацыянальнай грашовай адзінкі, неабходна грашовую масу раздзяліць на валютныя рэзервы. Рэальная сітуацыя прымушае больш крытычна ацэньваць эмісійную актыўнасць.

Пастаўленыя прэзідэнтам краіны стратэгічныя задачы па стабілізацыі валютнага рынку патрабуюць унясення змяненняў у грашова-крэдытную палітыку. У такім аспекце мы ацэньваем эфектыўнасць раней прынятай Праграмы неадкладных мераў па стабілізацыі абменнага курса беларускага рубля. Шэраг яе палажэнняў патрабуе канкрэтызацыі з улікам умоў, якія змяніліся. Нацыянальнаму банку трэба прыняць неабходныя меры па стабілізацыі сістэмы міждзяржаўных плацяжоў.

#### 2.4. ЗНЕШНЯЯ ЭКАНАМІЧНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ

Важнейшым прыярытэтам у рабоце ўрада з'яўляецца знешнеэканамічная дзейнасць.

Практыка пацвярджае, што павелічэнне на адзін працэнт валютнай выручкі ад экспарту тавараў дае магчымасць павысіць курс беларускага рубля на 0,8 працэнта. Адсюль — асаблівае значэнне збалансаванага знешняга гандлю.

У студзені—ліпені знешнегандлёвы абарот павялічыўся на 11 працэнтаў; экспарт — на 10,1; імпарт — на 11,8 працэнта. Дэфіцыт знешняга гандлю склаў 989 млн. долараў ЗША, што на 162 млн. долараў ЗША перавышае ўзровень аналагічнага перыяду мінулага года. Аб'ём сальда знешнегандлёвых аперацый, якія патрабуюць грашовай аплаты (з улікам дадатнага сальда па паслугах), складае прыкладна 400 млн. долараў ЗША.

Рост дэфіцыту гандлёвага балансу, перавышэнне тэмпаў росту імпарту над экспартам сведчаць аб слабай рабоце МЗЭС па каардынацыі экспартна-імпартных патокаў. На гэтым напрамку неабходны канкрэтныя і эфектыўныя рашэнні.

Асаблівую заклапочанасць выклікае рост дэфіцыту знешняга гандлю з краінамі далёкага замежжа (858 млн. долараў). Праведзены аналіз паказаў, што гэта абумоўлена перш за ўсё пераарыентацыяй імпартных патокаў з краін СНД на дзяржавы далёкага замежжа (ніжэй цана — вышэй якасць), пераважнасцю нарошчвання аб'ёмаў экспарту ў дзяржавы Садружнасці і захавання рынкаў збыту ў гэтым рэгіёне.

У структуры імпарту з дзяржаў далёкага замежжа інвестыцыйныя тавары займаюць 33 працэнты. На долю сыравінных рэсурсаў прыпадае 44 працэнты. У параўнанні з адпаведным перыядам 1997 года доля інвестыцыйных тавараў узрасла на 6 працэнтных пунктаў, а доля сыравінных рэсурсаў і крытычнага імпарту скарацілася на 8 пунктаў.

У ліку асноўных прычын зніжэння беларускага экспарту ў краіны далёкага замежжа ў студзені—ліпені гэтага года (-103 млн. долараў), у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года, можна адзначыць скарачэнне аб'ёмаў паступлення ў рэспубліку расійскай нафты і рэалізацыі нафтапрадуктаў. Зніжэнне экспарту капралактаму і азотных угнаенняў дапушчана з-за зніжэння сусветных цэн на гэту прадукцыю і неспрыяльнай фінансавай сітуацыяй у краінах Паўднёва-Усходняй Азіі.

На стане гандлёвага балансу адбіваецца і ўсё больш дыскрымінацыйная палітыка заходніх краін, у прыватнасці ЕС. Таму неабходна павышаць канкурэнтаздольнасць нашай прадукцыі, актывізаваць меры па стымуляванню экспарту і рацыяналізацыі імпарту, па абароне айчынных вытворцаў, адэкватна прымаць меры ў адказ.

Аналізуючы знешні тавараабарот, трэба адзначыць дасягненне станоўчага выніку ў гандлі з Расіяй (122,0 млн. долараў ЗША), а таксама змяншэнне да 130 млн. долараў ЗША дэфіцыту знешняга гандлю з краінамі СНД.

Расія па-ранейшаму застаецца для нас дамінуючым гандлёва-эканамічным партнёрам (86,6 працэнта ад гандлёвага абароту з краінамі СНД). За сем месяцаў аб'ём гандлю з Расіяй павялічыўся на 18 працэнтаў і дасягнуў амаль 6 млрд. долараў ЗША (экспарт павялічыўся на 21,8 працэнта).

Поўнасцю апраўдаў сябе курс прэзідэнта краіны на развіццё прамых сувязяў з рэгіёнамі Расіі. У ходзе рэалізацыі заключаных дагавораў і пагадненняў з рэгіёнамі аднаўляюцца прамыя гаспадарчыя і чалавечыя сувязі, выраўноўваецца гандлёвы баланс паміж дзвюма саюзніцкімі дзяржавамі.

Такі станоўчы вопыт рэгіянальнага супрацоўніцтва, у духу дамоўленасцяў прэзідэнтаў дзвюх краін, трэба будзе рэалізаваць і ў кантактах з Украінай.

Неабходна прадоўжыць работу па паляпшэнню ўмоў знешняй эканамічнай дзейнасці на рынках краін СНД. Адно з цэнтральных пытанняў — гэта парадак спагнання акцызаў і падатку на дабаўленую вартасць.

У адносінах з асноўнымі партнёрамі па СНД пры вылічэнні падатку на дабаўленую вартасць дзейнічае прынцып «краіна паходжання», што аўтаматычна прыводзіць да падаражання імпартуемай сыравіны і матэрыялаў, а затым і беларускай прадукцыі, якая аказваецца ў нявыгадным становішчы. У ходзе чарговых міжурадавых перагавораў мы маем намер грунтоўна разгледзець гэту праблему з улікам інтарэсаў Беларусі і пазітыўнай сусветнай практыкі.

Эфектыўнасць работы знешнеэканамічнага комплексу рэспублікі, у тым ліку Міністэрства знешніх эканамічных сувязяў, Міністэрства замежных спраў, галіновых міністэрстваў па выніках сямі месяцаў гэтага года разгледжана на спецыяльным пасяджэнні ўрада. Былі адзначаны станоўчыя змяненні, але зроблены і сур'ёзныя заўвагі за недастатковы ўзровень работы па каардынацыі знешнеэканамічнай дзейнасці, па забеспячэнню валютнай акупнасці прадпрыемстваў, галін і рэгіёнаў, па арганізацыі выканання дамоўленасцяў, дасягнутых на вышэйшым узроўні, па сістэме кантролю. Савет Міністраў даў адпаведныя ацэнкі кадрам, вызначыў пералік мераў з канкрэтнымі тэрмінамі выканання і будзе трымаць гэтыя праблемы пад кантролем.

#### 2.5. БЮДЖЭТНАЯ ПАЛІТЫКА

Устойлівае функцыянаванне рэальнага сектара эканомікі стварыла аснову для паслядоўнага выканання бюджэту.

За студзень—жнівень 1998 года рэспубліканскі бюджэт (з улікам мэтавых бюджэтных фондаў) выкананы па даходах у суме 74,8 трлн. рублёў (75,6 працэнта ад гадавога плана) і па расходах — 80,5 трлн. рублёў (69,6 працэнта). Дэфіцыт рэспубліканскага бюджэту склаў 5,7 трлн. рублёў, ці 1,8 працэнта да ВУП (пры прагнозным паказчыку 3,5 працэнта). Стабільныя паступленні па асноўных даходных крыніцах далі магчымасць прафінансаваць запланаваныя расходы і мерапрыемствы.

Планавыя расходы I паўгоддзя прафінансаваны на 97,5 працэнта, з іх у II квартале — на 99,5 працэнта. Расходы III квартала (ліпень-жнівень) прафінансаваны на 67,4 працэнта, што крыху вышэй за разліковы нарматыўны паказчык (66,7 працэнта). Бюджэтныя сродкі ў першачарговым парадку накіроўваліся на забеспячэнне грашовых выплат насельніцтву, выкананне мерапрыемстваў па ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, падтрымку сельскагаспадарчай вытворчасці і вырашэнне жыллёвай праблемы, а таксама на сацыяльна-культурныя мерапрыемствы.

Па ўстановах і арганізацыях, што фінансуюцца з рэспубліканскага бюджэту, не дапускалася пратэрмінаванай запазычанасці па выплаце заработнай платы, пенсій і дапамог. У летнюю кампанію забяспечана своечасовая выплата адпускных.

Сродкі, што перадаюцца мясцовым бюджэтам абласцей і г. Мінска з фонду фінансавай падтрымкі адміністрацыйна-тэрытарыяльных утварэнняў, у гэтым годзе пералічваліся ў апераджальнам парадку. За студзень—жнівень мясцовым бюджэтам абласцей і г. Мінску пералічана 12,5 трлн. рублёў (79,3 працэнта гадавых назначэнняў).

Аднак трэба адзначыць, што шэраг міністэрстваў, бюджэтных арганізацый прадаўжае дапускаць парушэнні фінансавай і каштарыснай дысцыпліны ў частцы нямэтавага расходавання сродкаў, што выдзяляюцца з бюджэту.

Не зніжаецца запазычанасць перад бюджэтам суб'ектаў гаспадарання. З улікам адтэрмінаваных сум (5,6 трлн. руб.) агульны аб'ём недапаступленняў складзе (на 1 жніўня 1998 года) 9,4 трлн. рублёў, што больш за рэальны дэфіцыт.

Прадпрыемствы Мінпрама ў I паўгоддзі 1998 года ўнеслі ў бюджэт і пазабюджэтныя фонды толькі 87,5 працэнта ад налічанай сумы. У выніку 40 працэнтаў запазычанасці перад бюджэтам прыпадае на прадпрыемствы Мінпрама. У кожнага чацвёртага з іх ёсць доўг перад бюджэтам.

Крыху аб дэфіцыце бюджэту. Яго фінансаванне праводзіцца ў асноўным за кошт сродкаў, атрыманых ад размяшчэння дзяржаўных каштоўных папер (7,8 трлн. рублёў, або 64,2 працэнта ад сумы плануемага прыцягнення на 1998 год).

Акрамя таго, у жніўні на фінансаванне дэфіцыту бюджэту прыцягнуты крэдыты Нацыянальнага банка ў памеры 0,6 трлн. рублёў, што складае менш за 10 працэнтаў ад прадугледжанай Законам аб бюджэце на 1998 год сумы (6,1 трлн. рублёў).

Вядома, што ў 1998 годзе запланавана пакрыць за кошт ДКА 73 працэнты дэфіцыту рэспубліканскага бюджэту. Аналіз сітуацыі паказвае, што склалася ўстойлівае зніжэнне попыту першасных інвестараў на ДКА. Таму неабходна ўносіць карэктывы ў механізм рэалізацыі ДКА на першасным і другасным рынках і далей удасканальваць банкаўскія аперацыі з імі, павышаць прывабнасць дзяржаўных каштоўных папер, зводзіць да мінімуму тую частку дэфіцыту рэспубліканскага бюджэту, якую будуць пакрываць за кошт эмісіі ДКА. У цэлым востра стаіць пытанне аб далейшым зніжэнні дэфіцыту бюджэту за кошт змяншэння расходаў на ўсіх напрамках. Павінен быць зроблены поўны вывад з расійскіх падзей. На рынку ДКА ў нас сёння яшчэ няма вялікай праблемы, таму што ўнутраны доўг каля 3 працэнтаў ад валавога ўнутранага прадукту. Але мы абавязаны эканоміць ва ўсім і жыць па сродках, падпарадкоўвацца логіцы стабільнага эканамічнага развіцця.

### 3. РЭАЛЬНЫ СЕКТАР ЭКАНОМІКІ

#### 3.1. ПРАМЫСЛОВАСЦЬ

Вельмі коратка спынюся на становішчы спраў у асноўных сферах рэальнага сектара эканомікі.

За 8 месяцаў 1998 года прамысловасць выканала практычна ўсе прагнозныя паказчыкі. Аб'ём прадукцыі павялічыўся на 12 працэнтаў (прагноз на год 108-109 працэнтаў). Замарудзіліся тэмпы росту дэбіторскай і крэдыторскай запазычанасці.

Галіна выйшла фактычна на 100-працэнтную аплату бягучага спажывання энергарэсурсаў.

Разам з тым складаным застаецца фінансавае становішча шэрагу прадпрыемстваў. Рэнтабельнасць прамысловай вытворчасці ў студзені—ліпені 1998 года склала 11,1 працэнта супраць 13,1 працэнта ў адпаведным перыядзе мінулага года.

У гэтым годзе рэнтабельнасць прадпрыемстваў прамысловасці павялічылася з 9,7 працэнта (студзень) да 11,1 працэнта (студзень—ліпень).

Аднак 15,7 працэнта прадпрыемстваў аказаліся стратнымі (1997 год — 15,5), 48,1 працэнта прадпрыемстваў прамысловасці маюць рэнтабельнасць да 10 працэнтаў, што вельмі недастаткова (калі крытычная рэнтабельнасць складае 22—24 працэнты).

У якасці асноўных прычын зніжэння рэнтабельнасці наш дырэктарскі корпус часцей за ўсё выдзяляе: рост амартызацыі (з-за пераацэнкі асноўных фондаў); 2-працэнтнае абмежаванне росту цэн на прадукцыю, якая рэалізуецца на ўнутраным рынку; абавязковы 40-працэнтны продаж валютнай выручкі па курсу МВБ і куплю нехапаючай валюты (на закупку сыравіны і матэрыялаў) па высокаму рыначнаму курсу.

Але трэба ўлічваць і іншыя не менш важныя акалічнасці:

— працяглую незагружанасць асноўных фондаў. Настаў час звяртаць увагу не толькі на рэнтабельнасць прадукцыі, але і на рэнтабельнасць вытворчасці;

— наяўнасць лішняга персаналу (адсюль — ураўняльнасць у зарплаце);

— высокую ўдзельную вагу ў сабекошце ўмоўна-пастаянных расходаў;

— нізкую канкурэнтную здольнасць выпускаемай прадукцыі па якасці і вымушанасць яе рэалізацыі (асабліва на знешніх рынках) па заніжаных экспартных цэнах;

— нарэшце, хранічнае набыццё на знешніх рынках сыравіны і матэрыялаў, як правіла, па цэнах, вышэйшых за сусветныя.

Што выклікае такія пераплаты — дамінаванне бартэру, дэфіцыт СКВ або манапалізм пастаўшчыкоў, недаступнасць рынкаў сыравіны або ценявы ператок капіталу? Ва ўсім гэтым неабходна разабрацца вельмі канкрэтна з кожнай галіной і з кожным прадпрыемствам у гэтай галіне.

Пры наяўнасці процізатратнага механізма складвалася б іншая карціна, паколькі эфектыўны ўласнік сам зацікаўлены ў рацыяналізацыі вытворчасці. Што датычыць процізатратнага механізма, то гэта праблема апошнім часам набывае асаблівае гучанне. Рост выдаткаў вытворчасці стабільна правакуе інфляцыю. Слабасць процізатратнага механізма ўзмацняе небяспеку выцяснення беларускіх тавараў са знешніх рынкаў. Адсутнасць простага і высокаэфектыўнага стымулу зніжаць матэрыялаёмістасць і энергаёмістасць прадукцыі будзе пастаянна стрымліваць рост нацыянальнага ўзроўню заработнай платы, яе ўдзельную вагу ў ВУП.

Павышэнню ўзельнай вагі аплаты працы ў выдатках вытворчасці павінна папярэднічаць прыметнае зніжэнне матэрыялаёмістасці прадукцыі, павышэнне прадукцыйнасці працы. Гэта тая ключавая праблема, аб якой доўгі час прафсаюзы і большасць нашых гаспадарнікаў стараюцца не гаварыць. Тым часам кучы металічных стружак, цяпло, што ідзе ў трубу, іншыя стратныя затраты аплачваюць ці спажыўцы (праз рост цэн, калі з гэтым мірацца), ці вытворцы - зніжаючы чысты даход і зарплату персаналу.

Так, у рэспубліцы распрацавана і прынята Рэспубліканская праграма энергазберажэння. У сёлетнім годзе на гэтым участку ёсць станоўчыя зрухі. Так, увесь прырост ВУП (+ 11 працэнтаў) атрыманы без павелічэння спажывання паліва. Энергаёмістасць ВУП у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года зніжана на 13 працэнтаў. Але гэта толькі першыя крокі ў вырашэнні гэтай глабальнай задачы.

***(Заканчэнне на 4-й стар.)***

АФІЦЫЙНА

# ЗАКЛАДЗЕНА АСНОВА ДЛЯ ДАЛЕЙШАГА ЭКАНАМІЧНАГА РОСТУ

*(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.)*

**3.1.2. ІНШЫЯ ПРАБЛЕМЫ ЭКАНАМІЧНАГА РАЗВІЦЦЯ РЭАЛЬНАГА СЕКТАРА**

Акрамя таго, існуюць і іншыя праблемы, якія негатыўна ўплываюць на канчатковыя вынікі вытворча-гаспадарчай дзейнасці.

Асабліва трэба выдзеліць праблему якасці прадукцыі, абнаўленне асартыменту. Пэўная работа ў гэтым напрамку вядзецца. На асваенне канкурэнтаздольнай прадукцыі накіраваны прэзідэнцкія праграмы «Бытавая электроніка», міжгаліновая праграма «Фурнітура» і іншыя.

Станоўча, што ў мадэрнізацыі вытворчасці ўсё больш актыўна задзейнічаецца айчыннае станкабудаванне. Прыклад Мінскага маторнага завода і іншых прадпрыемстваў паказвае, што такія задачы можна паспяхова вырашаць уласнымі сіламі, загружаючы наяўныя вытворчыя магутнасці.

Разам з тым работа па абнаўленню асартыменту і павышэнню якасці прадукцыі вядзецца яшчэ слаба.

Трэба адзначыць, што дзяржавай пастаянна аказваецца значная «кропкавая дапамога» прамысловым прадпрыемствам шляхам прадстаўлення розных прэферэнцый, у тым ліку падатковых і мытных ільгот, выдзялення прамых асігнаванняў з бюджэту і прадастаўлення гарантый па замежных крэдытах, рэструктурызацыі запазычанасці, ільгот па аплаце за энергарэсурсы, па размеркаванню выручкі, а таксама шляхам прадастаўлення льготных крэдытаў.

Прадпрыемствам з працяглым цыклам вытворчасці было дазволена правесці даацэнку матэрыяльных каштоўнасцяў па цане іх апошняга набыцця, што ўмацавала іх уласныя абаротныя сродкі. 23 прадпрыемствам Мінпрама была прадастаўлена фінансавая льгота ў выглядзе нарматыўнага размеркавання выручкі ад рэалізацыі прадукцыі.

Неабходна адзначыць, што ў большасці выпадкаў гэтыя і іншыя віды падтрымкі сябе апраўдвалі. Яны садзейнічалі паляпшэнню работы аб'яднанняў «Інтэграл», «Гарызонт», «Мінскі трактарны завод», «БелаўтаМАЗ», а таксама шэрагу іншых прадпрыемстваў.

Разам з тым трэба прызнаць справядлівымі крытычныя заўвагі Камітэта дзяржаўнага кантролю наконт прадастаўлення льгот і прэферэнцый, а таксама ўліку атрымліваемага эканамічнага эфекту. Тут яўна не дапрацоўваюць і Мінфін, і Мінэканомікі, і галіновыя міністэрствы. Трэба ўнесці неабходныя змяненні ў нарматыўныя дакументы, палепшыць сістэму аператыўнага ўліку і кантролю, павысіць адказнасць прадпрыемстваў за эфектыўнае выкарыстанне дапамогі, што прадастаўляецца ім.

**3.2. ПАЛІЎНА-ЭНЕРГЕТЫЧНЫ КОМПЛЕКС**

Пытанні надзейнага забеспячэння народнай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь паліўна-энергетычнымі рэсурсамі (уключаючы іх пастаўку, умовы аплаты, захаванне плацежнай дысцыпліны) — у цэнтры ўвагі Урада.

За 8 месяцаў у рэспубліку пастаўлена 9,8 млрд. куб.метраў газу (96,5 працэнта ад запланаванага аб'ёму). Асноўная праблема сёння — гэта своечасовая аплата паставак газу.

Кантралюючы пытанне пагашэння доўгу, які ўтварыўся, урад вядзе работу па ўдакладненню ўмоў і схем аплаты паставак газу ў рэспубліку. З Мінфінам Расіі вядуцца перагаворы па ўзаемазаліку, у лік паставак беларускіх тавараў бюджэтным арганізацыям Расіі. «Белтрансгаз» з удзелам Белгазпрамбанка, Газанафтахімічнай кампаніі ўжо выкарыстоўвае кароткатэрміновы крэдыт з наступнай пастаўкай матэрыяльна-тэхнічных рэсурсаў суб'ектам гаспадарання Расіі.

За студзень—жнівень 1998 г. на перапрацоўку паступіла 7043 тыс. тон нафты, у тым ліку з Расійскай Федэрацыі 6021 тыс. тон (адпаведна — 93 і 95 працэнтаў да аналагічнага перыяду 1997 года).

Вытворчым аб'яднаннем «Беларусьнафта» здабыта 1022 тыс. тон нафты (100 працэнтаў да ўзроўню студзеня — жніўня мінулага года).

Пагоршыліся плацяжы канцэрну «Белнафтахім» суб'ектамі гаспадарання рэспублікі, якія атрымалі нафтапрадукты. Доўг сельскагаспадарчых спажыўцоў — 465 млрд. рублёў; «Белэнерга» — 72,5 млрд. рублёў.

Нягледзячы на ўсе цяжкасці, урадам прыняты меры па стварэнню неабходных запасаў паліва для работы ў асенне-зімовы перыяд 1998/99 года.

На 1 верасня 1998 г. на прадпрыемствах канцэрна «Белнафтахім», нафтаперапрацоўчых прадпрыемствах і ў дзяржаўным рэзерве ў наяўнасці было дызельнага паліва, аўтамабільнага бензіну і топачнага мазуту адпаведна 256, 129 і 109 працэнтаў да аналагічнага перыяду 1997 года. Так што ў зіму мы ўваходзім з нармальным запасам паліва. Разам з тым трэба адзначыць, што марудна накопліваюць эксплуатацыйныя запасы топачнага мазуту на прадпрыемствах канцэрна «Белэнерга». На пачатак верасня запас топачнага мазуту склаў толькі 70 працэнтаў да ўзроўню мінулага года.

Урад прадаставіў гарантыі па крэдыту на агульную суму 560 млрд. рублёў, выдадзенаму Белпрамбудбанкам вытворчым аб'яднанням энергетыкі і электрыфікацыі (пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 30 ліпеня 1998 г. № 1201) для таго, каб выправіць становішча і стварыць неабходны запас паліва.

Кіраўнікі мясцовых органаў ўлады, аб'яднанняў і прадпрыемстваў абавязаны забяспечыць своечасовую аплату нафтапрадуктаў, што паступаюць.

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь (пастановай ад 19 чэрвеня 1998 г. № 966 «Аб падрыхтоўцы народнай гаспадаркі рэспублікі да работы ў асенне-зімовы перыяд 1998/99 года») вызначыў меры па забеспячэнню ўстойлівага функцыянавання прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў, а таксама бесперабойнага забеспячэння насельніцтва палівам, электрычнай і цеплавой энергіяй у надыходзячы ацяплярьны сезон. Забяспечваецца выкананне заданняў па капітальнаму рамонту цеплавых сетак, стварэнню запасаў прадуктаў харчавання і энерганосьбітаў.

Пытанне аб поўнай гатоўнасці народнай гаспадаркі рэспублікі да работы ў асенне-зімовы перыяд 1998/99 года плануецца разгледзець на пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь 13 кастрычніка 1998 г.

**3.3. СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА**

Прыметныя арганізацыйныя і тэхналагічныя змяненні прадаўжаюць ажыццяўляцца ў сельскагаспадарчай вытворчасці.

Удасканальваецца структура пасяўных плошчаў. Амаль у два разы павялічыліся пасевы пшаніцы, на 90 працэнтаў - рапсу. Плошчы пад зернебабовыя культуры склалі амаль 350 тыс.гектараў. У гэтым годзе ў структуры шматгадовых траў злакаў — не больш як 20 працэнтаў. Пачалі дамінаваць бабовыя травы.

Палепшылася ўзнаўленне насеннага матэрыялу. Намеціліся станоўчыя зрухі ў абнаўленні машынна-трактарнага парка. Набываецца вопыт па арганізацыі механізаваных атрадаў.

У гэтым годзе дзяржавай была аказана вёсцы прыметная падтрымка (усяго больш за 12 трлн.рублёў, у тым ліку 8 трлн.рублёў з фонду падтрымкі, 2,5 трлн.рублёў — ільготныя крэдыты для правядзення вясенне-палявых работ, паліўны крэдыт — 1,5 трлн.рублёў). Гэта дало магчымасць на 18 працэнтаў павялічыць унясенне мінеральных угнаенняў, абнавіць тэхнічны парк, арганізавана выканаць веснавыя палявыя работы і разлічваць на добры ўраджай.

Аб пагодных умовах гэтага года наўрад ці трэба падрабязна гаварыць (засуха ў пачатку вегетацыі збожжавых, пераўвільгатненне з другой палавіны вегетацыі). Затопленымі аказаліся больш за 200 тыс.гектараў сельгасугоддзяў. Моцна палеглыя пасевы з павышанай засмечанасцю пры пастаянных дажджах крайне ўскладнілі ўборачны працэс, прадвызначылі вялікія страты вырашчанага ўраджаю, як ніколі зацягнулі перыяд уборкі. У выніку чаго валавы збор збожжа склаў крыху больш за 5,2 млн.тон пры ўраджайнасці 22,8 цэнтнера з гектара.

Трэба прызнаць, што складаныя ўмовы ўборкі ў апошнія гады ўжо становяцца правілам. Трэба рабіць адпаведныя высновы. Неабходна актывізаваць работу па абнаўленню парка камбайнаў. Для своечасовага і якаснага рамонту камбайнаў мэтазгодна больш поўна выкарыстоўваць рамбазу прадпрыемстваў рэспубліканскага аб'яднання «Белаграпрамтэхніка». І пачынаць гэту работу не ў ліпені, а ўжо сёння. Неабходна вырашаць праблему вытворчасці ўласнага збожжаўборачнага камбайна. Больш поўна трэба выкарыстоўваць таксама тэхнічныя магутнасці рэспублікі па вытворчасці збожжаўборачных жняярак.

У гэтым годзе, з улікам збору збожжа, які зменшыўся, на фоне недабору кармоў, асабліва актуальнае значэнне набывае павышэнне эфектыўнасці скормлівання зернефуражу праз абагачэнне яго комплексам кармавых дабавак. Пры выкарыстанні мясцовых сыравінных рэсурсаў (бялок зернебабовых культур, сапрапелі, галіты, вапнякі і інш.) рэзка знізяцца затраты на імпарт гэтых дабавак.

На развіцці жывёлагадоўлі станоўча адбіліся прынятыя меры па павышэнню эфектыўнасці буйных адкормачных комплексаў. Ужо ў мінулым годзе ўдалося знізіць расход кармоў на адзінку прадукцыі і павысіць сярэднясутачныя прыбаўленні ў вазе жывёлы. За I паўгоддзе сёлетняга года ў свінаводстве гэты паказчык дасягнуў 454 грамаў, што на 13,5 працэнта вышэй, чым у 1997 годзе.

Цяпер разгортваецца праграма па павышэнню эфектыўнасці комплексаў па адкорму буйной рагатай жывёлы. Рэалізуемыя мерапрыемствы далі магчымасць забяспечыць рост прадукцыйнасці жывёлагадоўлі. За 8 месяцаў гэтага года вытворчасць (вырошчванне) мяса жывёлы і птушкі павялічылася на 11 працэнтаў, малака — на 6 працэнтаў. Закупкі выраслі адпаведна на 15 і 9 працэнтаў.

У рэспубліцы прадаўжаецца работа па аздараўленню і рэфарміраванню неплацёжаздольных гаспадарак. У парадку выканання Указа Прэзідэнта ад 3 сакавіка 1998 г. № 97 пастановай Урада шэраг сельскагаспадарчых прадпрыемстваў аднесены да тых, што падлягаюць рэфарміраванню. Па кожнай неплацежаздольнай гаспадарцы, пры дапамозе раённых камісій, распрацоўваецца праграма фінансавага аздараўлення і рэструктурызацыі.

Вопыт шэрагу раёнаў і гаспадарак паказвае, што такое рэфарміраванне не выключае далучэнне стратных гаспадарак да іншых прадпрыемстваў АПК (Белптушкапрам, Белаграпрамтэхніка, Белсельгасхімія), а таксама стварэнне кааператыўна-долевых гаспадарак, развіццё фермерскіх гаспадарак. Мінсельгасхарч і аблвыканкамы павінны дакладна вызначыцца па кожнаму такому калгасу і саўгасу і практычна вырашаць гэту набалелую праблему з улікам набытага вопыту.

Па 12 раёнах, што знаходзяцца ў горшых прыродных і эканамічных умовах, вызначаны комплекс першачарговых мераў па актывізацыі меліярацыйнага будаўніцтва, сортаабнаўлення, па павелічэнню закупкі асноўных відаў сельгастэхнікі і гэтак далей. На гэтыя мэты прадугледжана выдзеліць 939 млрд. рублёў. Ход выканання прынятага рашэння, а таксама ступень эфектыўнасці выкарыстання выдзеленых рэсурсаў будуць спецыяльна разгледжаны ва урадзе ў бліжэйшы час.

У гэтым аспекце ва урада ёсць сур'ёзныя прэтэнзіі да Мінсельгасхарча, дзе праблемы, што накапіліся, імкнуцца вырашыць прамалінейна праз чарговае павышэнне цэн, пакідаючы ўбаку рост эфектыўнасці вытворчасці.

Па-ранейшаму непакоіць становішча спраў у агракомплексе Мінскай вобласці. Трэба прызнаць, што тут па многіх пазіцыях сітуацыя працягвае пагаршацца. Няма належнай увагі да становішча спраў з боку Мінскага аблвыканкама.

Усе нашы намаганні ў развіцці сельскай гаспадаркі накіраваны на павышэнне яе ўстойлівасці і эфектыўнасці, на стварэнне ўмоў для прадукцыйнай працы і дастойнага жыцця сельскіх працаўнікоў.

## 4. САЦЫЯЛЬНАЯ ПАЛІТЫКА

За 7 месяцаў гэтага года (у параўнанні з 1997 годам)рэальныя грашовыя даходы насельніцтва павялічыліся на 23 працэнты. Калі ў 1996 годзе рэальная зарплата павялічылася на 5,1 працэнта, у 1997 годзе - на 14,5, то за 8 месяцаў гэтага года — на 36,8 працэнта.

Эканамічны рост дае магчымасць паступова павышаць рэальную пакупную здольнасць заработнай платы, што пацвярджаюць фактычныя даныя. На сярэднямесячную заработную плату ў мінулым годзе можна было набыць 1,1 аб'ёму мінімальнай «спажывецкай карзіны», у гэтым годзе — 1,4 аб'ёму такога набору.

Генеральным пагадненнем паміж урадам, рэспубліканскімі аб'яднаннямі прадпрымальнікаў і прафсаюзаў прадугледжана забяспечыць у 1998 годзе ўзровень сярэднямесячнай заработнай платы ў галінах народнай гаспадаркі не ніжэй чым 130 працэнтаў ад мінімальнага спажывецкага бюджэту. Фактычна сёння выходзім на ўзровень 135—140 працэнтаў. Забяспечваецца паступовае павелічэнне долі аплаты працы ў ВУП. Так, калі ў 1995 годзе ўдзельная вага аплаты працы ў ВУП склала 33 працэнты, у 1996-1997 гадах — каля 37 працэнтаў, то ў гэтым годзе прыкладна 46-47 працэнтаў.

У адпаведнасці з указаннямі прэзідэнта краіны працягваецца ўдасканаленне сістэмы аплаты працы. З 1 кастрычніка павышаецца тарыфная стаўка першага разраду да 700 тыс. рублёў (даплаты да тарыфных ставак работнікаў 1—5 разрадаў складуць ад 200 да 50 тыс. рублёў).

У пэўнай меры будуць тым самым крыху згладжаны дыспрапорцыі ў аплаце працы паміж бюджэтнай сферай і рэальным сектарам эканомікі. У цэлым зарплата работнікаў бюджэтнай сферы павысіцца на 18—20 працэнтаў.

З улікам установак, прадугледжаных указам прэзідэнта краіны, у гаспадарчаразліковай сферы зарплата знаходзіцца ў залежнасці ад павелічэння аб'ёмаў вытворчасці і павышэння эфектыўнасці гаспадарак. З прыняццем новага варыянта Адзінай тарыфнай сеткі ўпершыню пасля пераадолення ў эканоміцы крызісных з'яў будуць устаноўлены аптымальныя суадносіны міжразрадных каэфіцыентаў не менш чым 7 працэнтаў.

Належная ўвага ўдзяляецца пенсійнаму забеспячэнню. Своечасова праводзіцца пераразлік пенсій з улікам дзеючага заканадаўства.

Выплата пенсій праводзіцца стабільна, у адпаведнасці з графікам, да 25 чысла кожнага месяца. З 1 верасня, услед за ўнесенымі змяненнямі і дапаўненнямі ў Закон аб пенсійным забеспячэнні, павялічаны памеры пенсій з прычыны страты карміцеля на кожнага ўтрыманца з 30 да 40 працэнтаў сярэднямесячнага заработку карміцеля, што прымаецца для вылічэння пенсіі, а на дзяцей — круглых сірот — з 30 да 50 працэнтаў сярэднямесячнага заработку абодвух карміцеляў.

Акрамя гэтага, з 1 верасня павялічаны памер сацыяльных пенсій.

Названыя змяненні закрануць больш за 180 тысяч пенсіянераў.

Жыллёвае будаўніцтва з'яўляецца адным з важнейшых сацыяльных прыярытэтаў у рабоце урада.

Увод у эксплуатацыю жылых дамоў павялічыўся за 8 месяцаў на 120,3 працэнта, у сельскай мясцовасці — на 135,8 працэнта.

Трэба адзначыць, што двухгадовы вопыт функцыянавання ў рэспубліцы інстытута субсідзіравання грамадзян (пры будаўніцтве, рэканструкцыі або куплі жылых памяшканняў) прадэманстраваў яго жыццяздольнасць і сацыяльна-эканамічную эфектыўнасць. Аб'ём дзяржаўных бязвыплатных субсідый, прадастаўленых грамадзянам на будаўніцтва і набыццё жылля, у 1996 годзе склаў 136,4 млрд. рублёў (пры плане 452,4 млрд. рублёў), а ў 1997 годзе — 645,9 млрд. рублёў (пры плане 424,31 млрд. рублёў). На 1998 год пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 18 сакавіка 1998 г. № 427 на субсідзіраванне прадугледжана 1000,5 млрд. рублёў, у тым ліку 300 млрд. рублёў — на фінансаванне будаўніцтва аб'ектаў інжынернай інфраструктуры.

Разам з тым мы бачым і праблемы. Па-першае, адбываецца зніжэнне ўдзельнай вагі прыцягваемых уласных сродкаў грамадзян. У 1996 годзе кожны рубель, выкарыстаны на прадастаўленне субсідый, у сярэднім па рэспубліцы прыцягнуў 2,01 рубля ўласных сродкаў грамадзян, інвесціраваных у жыллёвае будаўніцтва. У 1997 годзе гэты паказчык склаў 0,98 рубля, у 1998-м — 0,76 рубля на 1 рубель субсідый.

Відавочна, што прадастаўленне льготных крэдытаў і аднаразовых бязвыплатных субсідый зніжае зацікаўленасць укладваць уласныя сродкі.

Па-другое, дапускаюцца шматлікія парушэнні пры вызначэнні асоб на атрыманне субсідый і льготных крэдытыў. Належнага парадку тут яшчэ няма. Сістэма субсідзіравання і льготнага крэдытавання не з'яўляецца дастаткова празрыстай. Службовыя асобы дапускаюць парушэнні пры пастаноўцы на ўлік.

У сувязі з гэтым цяпер распрацаваны праект новага палажэння, дзе прадугледжаны дадатковыя, больш жорсткія ўмовы прадастаўлення аднаразовых субсідый.

З адкрытых на гэты год крэдытных ліній на жыллёвае будаўніцтва за 8 месяцаў ужо выкарыстана 85 працэнтаў аб'ёму (г.зн. 7,2 трлн. рублёў), што можа ўскладніць у IV квартале фінансаванне жыллёвага будаўніцтва. У сувязі з гэтым асабліва актуальнай становіцца задача скарачэння незавершанага будаўніцтва жылля (4,4 млн. кв.метраў, або 115 працэнтаў ад гадавога задання па ўводу). Сродкі неабходна канцэнтраваць на ўводных жылых дамах. Задачы, пастаўленыя ў галіне жыллёвага будаўніцтва, павінны быць і будуць выкананы ў поўным аб'ёме.

## 5. ДАЛЕЙШАЕ ЎДАСКАНАЛЕННЕ КІРАВАННЯ НАРОДНАГАСПАДАРЧЫМ КОМПЛЕКСАМ

Шэрагам дэкрэтаў і ўказаў Прэзідэнта краіны створана ўстойлівая прававая база для фарміравання сучаснай сістэмы кіравання народнагаспадарчым комплексам. Яна адэкватная абноўленай Канстытуцыі краіны, замацоўвае прагрэсіўныя арганізацыйныя рашэнні. Вельмі важна, што ў развіццё гэтых палажэнняў прыняты новы Закон аб Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь. Таму неабходна прадоўжыць работу па ўдасканаленню ўзаемадзеяння органаў дзяржаўнага кіравання.

Ёсць даручэнне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі выпрацаваць канкрэтныя прапановы, накіраваныя на павышэнне ступені ўзаемадзеяння Савета Міністраў і іншых органаў дзяржаўнага кіравання. Урад з усёй адказнасцю пачаў іх распрацоўку з улікам сучаснага разумення актыўнай ролі і значэння дзяржавы ў пераходны перыяд.

Трэба адзначыць, што за апошні перыяд прыметна відазмянілася работа Савета Міністраў. Мы менш сталі тануць у дзяжурных, спантанных пытаннях. Работа набыла больш планавы характар, з арыентацыяй на перспектыву. Пытанні, што разглядаюцца, як правіла, маюць міжгаліновы характар. У такім аспекце былі разгледжаны пытанні функцыянавання будаўнічага комплексу, лёгкай прамысловасці, удасканаленне знешняй эканамічнай дзейнасці і іншыя. Прынятыя рашэнні ставяцца на кантроль. Канкрэтызуючы Асноўныя напрамкі сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1996—2000 гады, урад падрыхтаваў і прыняў шэраг канцэпцый па прамысловай і сельскагаспадарчай палітыцы, па ўдасканаленню жыллёва-камунальнага комплексу. Складзены прагноз сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі да 2015 года.

Склалася нармальнае ўзаемадзеянне паміж урадам і заканадаўчай уладай. Члены Прэзідыума Савета Міністраў рэгулярна выступаюць у парламенце са справаздачамі. Ёсць добрае ўзаемадзеянне з камісіямі дэпутатаў пры падрыхтоўцы законапраектаў.

Устанавіўся цесны рабочы кантакт з судовай уладай.

Апошнім часам прыметна палепшылася каардынацыя дзейнасці з кіраўніцтвам Нацыянальнага банка па шырокаму спектру праблем. Канструктыўна працуе каардынацыйны савет па грашова-крэдытнай і фінансавай палітыцы з удзелам кіраўнікоў буйнейшых банкаў.

Ёсць добрае ўзаемадзеянне паміж урадам і аблвыканкамамі. Старшыні аблвыканкамаў прымаюць актыўны ўдзел у рабоце урада. Іх канструктыўныя прапановы, а часам і крытычныя заўвагі рэалізуюцца кожны дзень.

Прынцыповае значэнне пры выпрацоўцы стратэгічных рашэнняў маюць рабочыя нарады, праводзімыя пад старшынствам прэзідэнта краіны. Рыхтуюцца яны па канкрэтных праблемах сацыяльна-эканамічнага жыцця. Вельмі важна, што сам працэс выпрацоўкі рашэнняў мае адкрыты і збалансаваны характар.

Без нацяжак можна прызнаць, што ва урада паступова фарміруюцца канструктыўныя рабочыя адносіны і з Камітэтам дзяржаўнага кантролю. Асаблівае значэнне, на думку урада, сёння мае паслядоўная рэалізацыя прапаноў рэспубліканскай камісіі, створанай распараджэннем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (21.03.1998 № 44рп).

Па асобных напрамках для выпрацоўкі канкрэтных мерапрыемстваў былі створаны спецыяльныя рабочыя групы, якія ўзначалілі намеснікі прэм'ер-міністра і старшыня праўлення Нацыянальнага банка. Меры экстраннага характару былі ўключаны ў пратакольны запіс пасяджэння Прэзідыума Савета Міністраў.

Трэба прызнаць, што рэалізацыя рэкамендацый і прапаноў рэспубліканскай камісіі прымусіла многія міністэрствы і ведамствы па-іншаму глянуць на сітуацыю, якая складваецца, унесці ў сваю работу істотныя карэктывы. Пытанні рэалізацыі прапаноў рэспубліканскай камісіі разгледжаны на пасяджэннях калегій міністэрстваў, дзяржаўных камітэтаў, саветаў канцэрнаў, а таксама выканкамаў.

Рэгуляванне працэсаў разлікаў паміж банкамі, частковае вызваленне ад падатку на прыбытак экспарцёраў, перагляд парадку першачарговых інвестыцыйных праектаў для фінансавання з рэспубліканскага фонду падтрымкі экспарцёраў, меры па абароне айчыннага таваравытворцы, пастаўка айчынных тавараў па прамых сувязях, распрацоўка мераў па выкарыстанню ў будаўніцтве нарматыўнага метаду цэнаўтварэння — далёка не поўны пералік пазіцый, па якіх на практыцы ёсць канкрэтны вынік.

Тут асабліва трэба выдзеліць адпрацоўку новай сістэмы цэнаўтварэння на лесаматэрыялы, удасканаленне парадку ўдзелу нерэзідэнтаў у пастаўках энерганосьбітаў, а таксама пытанні па рэгуляванню знешняй эканамічнай дзейнасці.

Трэба адзначыць, што асобныя рэкамендацыі і прапановы рэспубліканскай камісіі патрабуюць дадатковай прапрацоўкі. Гэта датычыць, напрыклад, пытанняў па ўласнасці, а таксама прапаноў па водпуску айчыннай прадукцыі прадпрыемствам гандлю без папярэдняй аплаты, абмежаванню дзейнасці фірменнага гандлю, па забароне вытворчасці спірту і лікёра-гарэлачнай прадукцыі камерцыйнымі структурамі, распрацоўцы парадку куплі-продажу даўгавых абавязацельстваў прадпрыемстваў і іншых.

Ёсць дамоўленасць: па тых пазіцыях, дзе ёсць своеасаблівыя розначытанні, падключаць групы экспертаў і вызначыць агульныя пазіцыі.

Трэба прызнаць, што асобныя распрацаваныя мерапрыемствы не былі выкананы ў тэрмін або выкананы ў няпоўным аб'ёме, зноў жа, з-за нізкай выканальніцкай дысцыпліны. Таму, нягледзячы на прыметныя зрухі ў лепшы бок, тут ёсць яшчэ над чым папрацаваць, удасканальваючы сістэму кіравання. І павышэнне патрабавальнасці урад пачаў перш за ўсё са свайго апарату. Так, за парушэнне выканальніцкай дысцыпліны шэрагу супрацоўнікаў аб'яўлены спагнанні.

Дрэнна працуюць апараты асобных міністэрстваў. Неаднаразова тэрміны выканання даручэняў парушалі Мінпрам, Мінкультуры, МЗС, а таксама канцэрны «Белнафтахім», «Белпаліўгаз» і «Белрэсурсы». Усё гэта — вынік недастатковай арганізацыі кіраўніцкай працы, прамой безадказнасці. Таму урад мае намер узмацніць патрабавальнасць і выканальніцкую дысцыпліну. Лёгкага жыцця тут ніхто не павінен шукаць.

Сур'ёзныя недапрацоўкі ў галіне знешнеэканамічнай дзейнасці абумоўлены нізкай рэзультатыўнасцю работы Мінзнешэканамсувязяў. Дадзенае Міністэрства да гэтага часу не стала каардынуючым органам па абароне эканамічных інтарэсаў рэспублікі. Па-ранейшаму недастаткова эфектыўна працуе Міністэрства па каардынацыі дзейнасці рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання па выкананню прагнозных паказчыкаў знешняга гандлю, асабліва ў частцы абмежавання некрытычнага імпарту.

Не адпрацавана аператыўнае кіраўніцтва работай дыпламатычных прадстаўніцтваў з боку МЗС і Мінзнешэканамсувязяў, асабліва па ўрэгуляванню пытанняў, звязаных з выкананнем пратакольных даручэнняў. З-за дрэннай падрыхтоўкі тры разы пераносіўся разгляд на пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў справаздач кіраўнікоў МЗС, Мінзнешэканамсувязяў і міністра па справах СНД аб выніках выканання міністэрствамі і іншымі рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання даручэнняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па выніках афіцыйных і рабочых візітаў у замежныя дзяржавы ў 1995—1997 гадах.

Па шэрагу пазіцый ва урада ёсць прэтэнзіі і да кіраўніцтва Мінпрама. Гэта — якасць прадукцыі і збоі ў выпуску новай тэхнікі, неплацяжы ў бюджэт, невяртанне крэдытаў.

Ёсць факты парушэння рэгламенту Мінфінам. Мінстат у гэтым годзе не ўнёс на разгляд урада ніводнага пытання, хоць праблем на гэтым напрамку дастаткова. Няма добрай юрыдычнай шліфоўкі ў тых праектаў, якія ўносяцца Міндзяржмаёмасцю. На калегіях не заслухоўваюцца справаздачы кіраўнікоў тэрытарыяльных камітэтаў. Прабуксоўвае рэформа заработнай платы, якую курыруе Мінпрацы. Кожны год уносяцца розныя змяненні ў тарыфную сетку. Тут мы — сусветныя чэмпіёны. Аднак дакладная сістэма рэгулявання зарплаты яшчэ не створана. Мінпрацы фармальна кантралюе ліквідацыю запазычанасці па зарплаце.

***

*У цэлым трэба прызнаць, што за восем месяцаў гэтага года закладзены трывалыя асновы для далейшага эканамічнага росту. У гэты момант неабходна да мінімуму звесці негатыўнае ўздзеянне неспрыяльных знешніх і ўнутраных фактараў, дастойна выканаць гадавое заданне, зацверджанае прэзідэнтам краіны, асэнсавана вызначыць новыя рубяжы на наступны 1999 год.*



# ЭКАЛОГІЯ - ЧАЛАВЕК

СПЕЦВЫПУСК «ЗВЯЗДЫ» І МІНІСТЭРСТВА ПРЫРОДНЫХ РЭСУРСАЎ І АХОВЫ НАВАКОЛЬНАГА АСЯРОДДЗЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*29 верасня 1998 года* **№ 3 (15)**

*АДКРЫЦЦЁ РУБРЫКІ*




**ТОЕ, ШТО НАРАЧАНСКІ РЭГІЁН — ЖАМЧУЖЫНА БЕЛАРУСІ, ВЯДОМА КОЖНАМУ. АЛЕ, ПА ПРАЎДЗЕ, ТЫХ, ХТО ВЫЯЗДЖАЕ СЮДЫ АДПАЧЫЦЬ, ПАДОБНЫЯ ВОБРАЗНЫЯ ВЫЗНАЧЭННІ МАЛА ЦІКАВЯЦЬ. ІНТАРЭС У ІХ БОЛЬШ УТЫЛІТАРНЫ: ЯКІ СТАН ВАДЫ Ў ВОЗЕРЫ, ЦІ ЗАХАВАЛАСЯ НАВАКОЛЬНАЯ ПРЫРОДА? ТАМУ ПРАПАНУЕМ СЦІСЛЫ АГЛЯД СІТУАЦЫІ ВАКОЛ НАРАЧЫ ПАД УМОЎНАЙ НАЗВАЙ «УЧОРА—СЁННЯ—ЗАЎТРА».**

**З пачатку 60-х гадоў азёры Нарачанскай групы пачалі адчуваць усё большае антрапагеннае ўздзеянне ў сувязі з інтэнсіўным гаспадарчым і рэкрэацыйным асваеннем рэгіёна. З канца 70-х гадоў у возеры Нарач прасочваецца тэндэнцыя ўжо да яўнага змянення ў бок пагаршэння якасці вады.**

**Сітуацыя патрабавала неадкладных мераў па выратаванню возера. Урад пастановай ад 9 кастрычніка 1981 года «Аб схеме комплекснага выкарыстання і аховы водных і зямельных рэсурсаў возера Нарач» вызначыў асноўныя праблемы рэгіёна, мерапрыемствы па ахове прыродных рэсурсаў возера. Такіх мерапрыемстваў было выканана шмат. Можна канстатаваць: сёння экалагічная абстаноўка тут у многім стабілізавалася.**

**Якім будзе заўтрашні дзень? Нарачанская зона павінна стаць турыстычнай візітоўкай краіны. Пры праектаванні зоны адпачынку прадугледжана і магчымае будаўніцтва трох-, чатырохзоркавага гатэля з вырашэннем экалагічных, эстэтычных і архітэктурных пытанняў. Адным словам, тут павінен быць курорт сучаснага ўзроўню, еўрапейскага класа.**

**Што не менш важна, прапрацоўваецца і пытанне аб стварэнні нацыянальнага парку «Нарачанскі». Адначасовая рэалізацыя ўсіх гэтых сур'ёзных планаў ставіць вельмі няпростыя задачы, вырашэнне якіх — справа гонару ўсяго нашага грамадства.**

**Па ўзнятых праблемах і пойдзе далейшая гаворка.**

**(Працяг тэмы на 2-й стар. спецвыпуску).**

*БЛАКІТНАЯ ПЛАНЕТА ЗЯМЛЯ — НАШ АГУЛЬНЫ ДОМ*

# Няма нічога горшага, чым «часовы гаспадар» на зямлі



**Адшумелі «Дажынкі-98». Шмат увогуле правільнага гаварылася тады: за поспехамі герояў жніва, за ўшанаваннем і віншаваннямі стаіць цяжкая праца земляробаў. Але ж тэма ўраджаю, асабліва багатага, міжволі падштурхоўвае да больш шырокіх абагульненняў.**

**Удумаемся ў тое, што гаворыць дырэктар Інстытута глебазнаўства і аграхіміі, акадэмік Акадэміі аграрных навук, доктар сельскагаспадарчых навук, прафесар, заслужаны работнік сельскай гаспадаркі Беларусі Іосіф БАГДЗЕВІЧ:**

— Прапаную аксіёму: урадлівасць глебаў краіны — аснова нашага дабрабыту і заможнага жыцця. Хто супраць гэтага?

Можа, гэта і не нова, але ў адносінах да чалавека я параўнаў бы зямлю з маці, якая дае радасць жыцця, харчавання і здароўя. І як жа адносяцца многія «дзеці» да маці? Як «прынята»: паспажывецку, без удзячнасці, неразумна і эгаістычна.

А мы ж павінны паляпшаць сваю зямлю, яе ўрадлівасць. Асноўная запаведзь чалавека — пакінуць зямлю сваім нашчадкам у лепшым стане, чым атрымаў яе ад папярэдніх пакаленняў.

Прыкладна з 1965 па 1990 год мы ў Беларусі ў дастатковай ступені спавядалі такі прынцып. За гэты час кожны гектар зямлі стаў даваць прадукцыі ў тры разы больш. У асобныя гады ў сярэднім па рэспубліцы ўраджайнасць даходзіла да 37 цэнтнераў збожжавых з гектара. Прыкладна 10 працэнтаў гаспадарак выходзілі на рубеж 60 цэнтнераў з гектара.



А што сёлета? Толькі адна гаспадарка ў краіне — калгас «Кастрычнік» Гродзенскага раёна, дзе старшынёй Віталь Крамко, сабраў па 62 цэнтнеры.

Параўнанне, зразумела, сумнае. Але ж вынікі работы ў «Кастрычніку» гавораць, што і сёння можна атрымліваць дастойныя ўраджаі. З другога боку, відавочна, што нашы адносіны да зямлі, да раслін на ёй, выканання патрабаванняў тэхналогіі земляробства сталі прыметна горшымі.

Удумваюся ў сэнс малюнка, дзе адлюстраваны колас у кроплі вады, і што прыходзіць на роздум? У нашых прыродных умовах разлічваць на неблагі ўраджай, выкарыстаўшы пры гэтым толькі тое, што прадаставіла прырода, яўна недастаткова. Яна «дае» толькі трэцюю частку хлебаробскага здабытку. Астатнія дзве трэці — гэта праца тых, хто рабіў на палетках да нас, хто паляпшаў глебу.

Але ж рукатворная ўрадлівасць вельмі ўразлівая. Нашы глебы больш «спагадлівыя», чым тыя ж чарназёмы, аднак яны даволі-такі ранімыя, адносіцца да іх трэба літаральна з пяшчотай. Ці часта такое бывае?

Здабыць сённяшні ўраджай — што можа быць важней? Ёсць, аказваецца, і такое: гэта — загадзя захаваць ураджай будучых гадоў. Што маецца на ўвазе?

Зноў зірнём на ілюстрацыю, на намаляваную кроплю вады, і павінны дадумацца, што наша вада павінна быць такой, якой яе стварыла прырода. Але сёння пра гэта прыходзіцца толькі марыць.

Каму невядома, што колькасць нітратаў у падземных водах пастаянна павялічваецца? І звязана гэта не толькі з выкарыстаннем угнаенняў.

Большасць людзей чамусьці думае: калі ўносім у глебу азотныя ўгнаенні — то ў ёй будуць і нітраты, а калі не — нітратаў не будзе. Усё, аднак, куды больш складана. Таму што доля нітратаў, якая трапляе менавіта ў ваду (а тая сілкуе глебу), якраз і дае сябе «адчуць». А якой стала наша вада за апошнія 30 гадоў?

Раней у Беларусі ні ў адным сельскім калодзежы немагчыма было выявіць канцэнтрацыю больш як 10 міліграмаў нітратаў на літр вады (такі быў, дарэчы, нарматыў у так званыя савецкія часы). Сёння ж у нас дзейнічае норма ўжо ў памеры 45 мг/літр, і гэта — міжнародны стандарт. Але і яго мы цяпер «паспяхова» перакрываем — у вясковых калодзежах гранічна дапушчальная канцэнтрацыя нітратаў у вадзе перавышаецца ў 2-3 разы!

Ці прыслухоўваюцца грамадства, канкрэтныя кіраўнікі, вытворцы, проста асобныя грамадзяне да навуковых даных, да папярэджанняў і напамінкаў вучоных аб неабходнасці асцярожных адносінаў да прыроды, яе рэсурсаў? Шкада, але для многіх гэта толькі «тэорыя», на практыцы яны дзейнічаюць па-іншаму.

Хрэстаматыйны прыклад. Калі тарфянікі — наша нацыянальнае багацце — разаралі, то пасля гучна білі ў літаўры: маўляў, маем багатыя ўраджаі, шмат добрага хлеба.

Пасля пахвальбы прайшло 30 гадоў, і сёння мы маем 3 мільёны гектараў асушаных зямель, у тым ліку і некаторую частку былых тарфянікаў. Які цяперашні іх стан, ведаюць усе.

Чаму так атрымалася, якая тады была эканоміка? Ды вельмі простая: калі на асушаным тарфяніку сееш бульбу — атрымліваеш вялікі даход, калі збожжавыя — таксама. А вось з пасеяных траў прыбытак куды меншы. Зрэшты, і на гэтым можна было б зарабіць, але ж неабходная высокая культура земляробства, трэба папрацаваць да таго ж сёмага поту. Ці многім хацелася пацець? То-та і яно...

Яшчэ адзін прыклад са штодзённай практыкі. Многія лічаць «вельмі проста»: тым жа, напрыклад, гноем шкоды глебе не прынясеш — колькі не ўкінеш, усё будзе на карысць. Сапраўды, так яно і атрымліваецца, калі ўгнаенне складзена ў сховішчы, а ўносіцца ў глебу ў адпаведныя тэрміны і, як кажуць, па навуцы. Што, дарэчы, дэманструюць ва ўжо названым калгасе «Кастрычнік» Гродзенскага раёна.

Затое колькі прыкладаў адваротнага плана, калі гноевыя бурты і тыдзень, і два «сохнуць» на палетках. Няўжо «гаспадары»-калгаснікі не ведаюць, што за тыдзень такога ляжання арганіка страчвае трэць патрэбнага глебе азоту? Затое ён вымываецца і забруджвае ваду з усімі адсюль адмоўнымі вынікамі.

Тут і бачыцца корань бед і праблем — любім мы, сённяшнія нашчадкі старажытных хлебаробаў, працаваць на зямлі ці не вельмі, жадаем жыць лепш ці не? Як адказаць на пытанне, калі з'ява гэтая паўсюдна вельмі «стракатая»?

Глядзеў святкаванне «Дажынак» і міжволі на думку прыходзілі шматлікія заявы: маўляў, у сённяшніх умовах сельскагаспадарчую справу кваліфікавана весці немагчыма. Якраз і не так. Усе ж мы бачылі на экранах тэлевізараў шмат цудоўных людзей — выдатных камбайнераў, механізатараў, «падкаваных» кіраўнікоў і спецыялістаў. Вынікі працы герояў уборачнай кампаніі даказваюць адно: пры ўсіх цяжкасцях, пры ўсіх выбрыках надвор'я можна выдатна працаваць, збіраць паўнаважкія ўраджаі. Калі, зразумела, усё рабіць па тэхналогіі. Але гэта, зноў жа, азначае адно — трэба працаваць.

Зразумела, куды лягчэй весці сялянскую справу праз пень-калоду. Між іншым, і прынцып «абы лягчэй» іншы раз таксама можа паднесці някепскі ўраджай, але такі «гаспадар», няма чаго і казаць, добрай зямлі, глебы і наогул дастатковых прыродных рэсурсаў сваім дзецям-унукам пакінуць ніяк не зможа. Менавіта таму, што жыве адным днём.

Больш правільна будзе сказаць, што гэта праяўленне таго самага неразумнага эгаізму, імкненне схапіць вяршкі — а там, у будучым, хай хоць трава не расце. Вось дзе ўжо сапраўды: пасля такіх «гаспадароў» — не будзе расці і трава.

**Выказванні вучонага запісаў Валянцін ЕЛІСЕЕЎ.**

*НА КАНТРОЛІ Ў МІНІСТЭРСТВА*

# ПРАВЕРКА. ПРАВЕРКА. І ЯШЧЭ РАЗ — ПРАВЕРКА

***Інспектарскі нагляд — адзін з важнейшых напрамкаў дзейнасці органаў Мінпрыроды. Гэта характарызуецца і апошнімі фактамі, лічбамі і прыкладамі***

**Сёлета за восем месяцаў праведзена больш як 22 тысячы праверак, выяўлена амаль 20 тысяч парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства. Аштрафавана каля 10 тысяч службовых асоб і грамадзян, прад'яўлена больш за тысячу іскаў на суму 14,3 мільярда рублёў.**

Толькі дзяржінспектарамі рыбаахоўы ўскрыта 9099 парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства. Накладзена штрафаў на суму амаль 3 мільярды рублёў.

●

За гэты час зарэгістраваны тры аварыйныя сітуацыі з пападаннем сцёкаў у вадаёмы. Так, у выніку пападання ў ліўневую каналізацыю г. Навагрудка звыш 170 літраў бензіну адбылося забруджванне ручая і ракі Валоўка.

У выніку аварыі на ачышчальных збудаваннях свінакомплексу «Днепр» Аршанскага раёна і на ачышчальных збудаваннях райцэнтра Лельчыцы былі забруджаны мяжуючыя водныя аб'екты.

За парушэнні воднага заканадаўства на 1265 службовых асоб і грамадзян накладзена штрафаў на агульную суму 887,1 мільёна рублёў. Для кампенсацыі страт, нанесеных дзяржаве парушэннямі воднага заканадаўства, органамі Мінпрыроды прад'яўлены 32 прэтэнзіі на суму 1192,2 мільёна рублёў.

●

У мэтах кантролю за выкарыстаннем і аховай аб'ектаў раслiннага свету выдадзена 97 ліцэнзій на прамысловую нарыхтоўку (закупку) дзікарослай тэхнічнай і лекавай сыравіны, дзікарослых раслін. За парушэнне асаблівых умоў нарыхтоўкі прыпынена дзеянне 114 ліцэнзій.

●

Разам з органамі Дзяржаўтаінспекцыі праведзена аперацыя «Чыстае паветра». У яе ходзе тэрытарыяльнымі органамі Мінпрыроды праверана 1177 аўтагаспадарак, 104 станцыі тэхнічнага абслугоўвання і 15 аўтарамонтных заводаў. У аўтагаспадарках пракантралявана 16,7 тысячы адзінак транспартных сродкаў на таксічнасць выкідаў і 2684 адзінкі на дымнасць адпрацаваўшых газаў. Акрамя таго, ва ўмовах дарожнага руху праверана 38,8 тысячы аўтамабіляў на таксічнасць і 1149 аўтамабіляў — на дымнасць адпрацаваўшых газаў.

У ходзе аперацыі «Чыстае паветра» за незахаванне нарматываў утрымання вокісу вугляроду і дымнасці адпрацаваўшых газаў аўтамабіляў прад'яўлены 53 іскі на агульную суму 1321 мільён рублёў, на службовых асоб і вадзіцеляў складзена адпаведна 207 і 2458 пратаколаў з накладаннем штрафаў.

●

Працягваецца будаўніцтва рэспубліканскага комплексу па перапрацоўцы і захаванню таксічных адходаў у Чачэрскім раёне. У І паўгоддзі на будаўніцтва гэтага комплексу са сродкаў рэспубліканскага бюджэтнага фонду аховы прыроды было выдзелена і асвоена 3 мільярды рублёў, на ІІ паўгоддзе выдзелена 8,5 мільярда.

●

Мінпрыроды прадугледжвае за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэтнага фонду аховы прыроды фінансаванне будаўніцтва і рэканструкцыю водаахоўных аб'ектаў у аб'ёме каля 58 мільярдаў рублёў. За 8 месяцаў гэтага года асвоена 49 працэнтаў запланаванага на год аб'ёму сродкаў.

●

Аналіз выканання заданняў па будаўніцтву збудаванняў для ачысткі сцёкавых вод паказвае, што ўвядзенне некаторых аб'ектаў вядзецца марудымі тэмпамі. Па віне мясцовых органаў не ўведзены ў эксплуатацыю ў намечаныя тэрміны ачышчальныя збудаванні ў гарадах Рэчыца, Салігорск, Ліда і Дзяржынск.

●

З-за недастатковага фінансавання марудымі тэмпамі вядзецца будаўніцтва ачышчальных збудаванняў у гарадах Івацэвічы, Лепель, Скідаль, Белаазёрск, Дзятлава. Не актывізуецца работа па ўзвядзенню такіх збудаванняў у г. Бяроза і іншых населеных пунктах. З-за адсутнасці праектна-каштарыснай дакументацыі не распачата будаўніцтва ачышчальных збудаванняў у райцэнтрах Ляхавічы і Старыя Дарогі.

●

У адпаведнасці са схемай рацыянальнага размяшчэння асабліва ахоўваемых прыродных тэрыторый і аб'ектаў утвораны 3 рэспубліканскія заказнікі: ландшафтны — «Сарачанскія азёры», біялагічны — «Замкавы лес», гідралагічны — «Астравы Дулебы».

**Аляксандр МАЦЯСОВІЧ.**
**Інфармацыя падрыхтавана сектарам інфармацыі Мінпрыроды.**

# ЧЫМ ГОРШЫЯ ЛАЦВЯНСКІЯ АЗЁРЫ?

**Упарадкоўваючы нарачанскую курортную зону, неабходна развіваць інфраструктуру адпачынку і ў іншых месцах рэгіёна**

***Стварэнне нацыянальнага парку «Нарачанскі» прадугледжана Схемай рацыянальнага размяшчэння асабліва ахоўваемых прыродных тэрыторый Рэспублікі Беларусь, зацверджанай Саветам Міністраў яшчэ 13 сакавіка 1995 года. Сёлета ў ліпені ў Мядзельскім райвыканкаме адбылася нарада з удзелам прадстаўнікоў мясцовай улады, зацікаўленых міністэрстваў і ведамстваў. У выніку было прынята рашэнне аб мэтазгоднасці арганізацыі нацыянальнага парку ў бліжэйшы час. Плошча яго прадугледжваецца ў памеры каля 100 тысяч гектараў — у адпаведнасці з праектам, падрыхтаваным БелНВЦзем.***

***Як гэтае рашэнне ўспрымаецца мясцовымі эколагамі? На гэтую тэму журналіст гутарыць са спецыялістам Мядзельскай раінспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Віктарам ПРАТАСЕВІЧАМ.***

*— Размовы аб неабходнасці стварэння такога нацыянальнага парку ідуць ужо каля дзесяці гадоў. Але сёння справа, відаць, выйшла на фінішную прамую. На ваш, Віктар Іванавіч, погляд: можа, гэтая моцная акцыя сапраўды вырашыць усе праблемы, якія ў рэгіёне накопліваліся дзесяцігоддзямі?*

— Пытанне вы задалі складанае. Прыклады паказваюць, што лёгкіх падыходаў у такой справе быць не можа. Стварэнне, напрыклад, нацпарку «Браслаўскія азёры» ішло вельмі няпроста, і сёння там нямала пытанняў.

На тэрыторыі раёна ўжо маецца ажно 13 ахоўваемых прыродных аб'ектаў, з'явіцца яшчэ адзін «звышаб'ект». Ці поўнасцю вывучана пытанне, што канкрэтна ён будзе сабою ўяўляць? Ва ўсякім разе, для многіх людзей пакуль незразумела, што гэта за форма арганізацыі існуючага ў раёне прыроднага комплексу. Ці будзе гэта сапраўды панацэяй ад усіх бед з прыродай, мне адказаць цяжка. Будзем спадзявацца, што час пакажа. Відавочна, аднак, і тое, што вузел праблем неабходна развязваць тэрмінова.

*— А як, на вашу думку, ужывуцца дзве такія розныя часткі: нацыянальны парк і курортная зона? Тут, з аднаго боку, дакладныя правілы гаспадарання і паводзінаў асобных грамадзян, немалыя абмежаванні, а з другога — наяўнасць усё большай колькасці людзей, не заўсёды «арганізаваных».*

— Зноў жа цяжка што-небудзь тут прагназіраваць, прадбачыць. Зразумела, што людзі будуць ехаць і ехаць сюды на адпачынак, рэкрэацыйная нагрузка будзе павялічвацца. На дзесятак жа законапаслухмяных грамадзян заўсёды знойдзецца двое-трое «хуліганістых», так што будучаму нацыянальнаму парку можа «дастацца».

У раёне, наколькі мне вядома, больш схіляюцца да таго, каб нарачанскай тэрыторыі быў прысвоены статус курорта. І калі будзе прымацца спецыяльны закон аб курортах, то неабходна загадзя ўлічыць усе асаблівасці гэтай зоны, будучы сімбіёз з нацыянальным паркам, які з-за сваёй унікальнасці вымагае асаблівых да сябе адносінаў.

Узнікае і дадатковая праблема. У раёне маюцца 22 калгасы і сельскагаспадарчыя прадпрыемствы. Калі 100 тысяч гектараў будуць аддадзены пад нацыянальны парк, то ці многа застанецца для вядзення сельскай гаспадаркі? Яна ж у раёне павінна застацца, так я разумею. Значыць, трэба думаць пра структуру эканомікі раёна, будучую дзейнасць калгасаў і ўвогуле пра месцы прыкладання рук нашых вяскоўцаў.

*— Што можна сказаць пра мясцовыя магчымасці ў вырашэнні экалагічных пытанняў, якія вам «падкідвае» ці не ўсё насельніцтва Беларусі? Бо пытанні прыродааховы з утварэннем нацыянальнага парку будуць ставіцца больш жорстка.*

— Магчымасці нашы тут такія ж, як і ў астатніх раёнах. Прывяду прыклад. Новыя ачышчальныя збудаванні райцэнтра ўзводзяцца ўжо шэсць гадоў. Можна, зразумела, заняцца крытыкай і сказаць, што гэта вельмі доўга. Але ж для будаўніцтва не хапае грошай, фінансаванне мізэрнае.

Маецца, як вядома, пазабюджэтны фонд аховы прыроды — у міністэрства, яшчэ абласны і раённы. З яго наша раінспекцыя на будаўніцтва «ачышчальных» сёлета выдзеліла 308 мільёнаў рублёў — тое, што можам, і толькі. Калі з усіх астатніх крыніц і надалей будзе весціся «астаткавае» фінансаванне, як гэта робіцца сёння, то аб'ект будзе будавацца яшчэ гадоў пяць-шэсць.

*— Мы гаворым пра моцную нагрузку на нарачанскую зону — і гаворым, безумоўна, правільна. Але вось думка вучоных і спецыялістаў: калі прафесіянальна, культурна, па-навуковаму выкарыстоўваць прыродныя магчымасці рэгіёна, то ён быццам бы можа прыняць адпачываючых яшчэ ў два-тры разы больш.*

*Ці ёсць падставы разважаць, што ўсё так і будзе? Можа, тут нешта падказвае вопыт дзейнасці ЗАТ «Нарач», якое змагло на даволі высокім узроўні арганізаваць турыстычнае абслугоўванне і бізнес? І прыродзе, заўважым, не шкодзіць.*

Жыццё Нарачы

— Як эколаг, я лічу, што гэтае акцыянернае таварыства сапраўды нічога дрэннага навакольнаму асяроддзю не зрабіла, затое змагло акультурыць зону адпачынку. Ні ў адной іншай здраўніцы такога няма. Думаю, што гэта прыклад таго, як ужо сёння, у час нялёгкай эканамічнай сітуацыі, можна папраўіць справу, весці яе больш эфектыўна і экалагічна правільна. Так што, можа, і праўда, што пры ўзорным узроўні гаспадарання павелічэнне нагрузкі ад адпачываючых асаблівай шкоды навакольнай прыродзе не нанясе.

Што да таго, ці варта будаваць на Нарачы новы «зоркавы» гатэль, — дык калі ласка. Але ж усё павінна быць зроблена па сучаснаму праекту, экалагічна выверанаму і дзесяць разоў праверанаму. Як інакш можна будаваць у зоне Нарачы?

Аднак вось з чым я не згодны. Не ўспрымаю некаторых памкненняў таго плана, што, маўляў, трэба «збіраць» як можна больш людзей менавіта на нарачанскіх берагах. У гэтым сэнсе, лічу, разам з прывядзеннем у Боскі выгляд усёй нарачанскай акругі яе неабходна ў чымсьці і «разгружаць» (асабліва ўлічваючы «каэфіцыент» будучага наплыву адпачываючых і турыстаў).

Улічваць, што ў нашым раёне ўсё ж такі ажно 50 азёраў. Маюцца Мястра, Мядзел, група Лацвянскіх азёраў, іншыя цудоўныя вадаёмы — вось там і трэба сапраўды пасур'ёзнаму развіваць індустрыю адпачынку. Ёсць, нарэшце, і ў іншых раёнах выдатныя азёры з цудоўнай навакольнай прыродай.

# «УСЁ ПАВІННА АДПАВЯДАЦЬ ВЫШЭЙШЫМ СТАНДАРТАМ», —

**Так гучыць адна з асноўных думак, што выказваюцца ў роздуме-каментарыі начальніка ўпраўлення ахоўваемых прыродных тэрыторый і лесапаляўнічых гаспадарак Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра ЛУЧКОВА**

Жыццё даўно паказала, што Нарач з усім тым, што прылягае да яго, — гэта нешта унікальнае, другога такога ў Беларусі, магчыма, і няма. І мы не павінны пасіўна назіраць за развіццём негатыўных тэндэнцый у гэтых цудоўных мясцінах ці займацца тым, што, забываючы пра прыродаахову, бяздумна эксплуатаваць разнастайныя багацці прыроднага комплексу.

Гэтыя і многія іншыя важныя абставіны якраз і патрабуюць стварэння нацыянальнага парку «Нарачанскі». Законам «Аб асабліва ахоўваемых прыродных тэрыторыях і аб'ектах» прадугледжана, што адным з напрамкаў дзейнасці нацыянальных паркаў з'яўляецца арганізацыя рэкрэацыі і вядзенне комплекснай гаспадаркі на аснове традыцыйных метадаў, а таксама перадавых дасягненняў прыродакарыстання. Рэкрэацыйная зона, выдзяляемая на тэрыторыі нацыянальнага парку, прызначана для размяшчэння аб'ектаў і збудаванняў санаторна-курортнага лячэння, адпачынку і турызму, правядзення культурна-масавых і аздараўленчых мерапрыемстваў.

Усяму гэтаму Нарач і адпавядае. Прынцып дзейнасці будучага нацыянальнага парку прадугледжваецца менавіта прыродаахоўны, на аснове навуковага прыродакарыстання, які ашчаджае навакольнае асяроддзе.

Вядома, што вылучаліся і іншыя падыходы, у якіх галоўны пункт быў такім: у нарачанскім рэгіёне трэба ствараць курортную зону. Аднак сёння яна фактычна такой і з'яўляецца, хоць адпаведнага заканадаўства ў Беларусі пакуль і няма. Праўда, спробы яго стварэння цяпер робяцца.

У гэтай сувязі трэба адзначыць, што ў нас маюцца законы «Аб асабліва ахоўваемых прыродных тэрыторыях», «Аб нацыянальных парках», — яны ў вялікай ступені адпавядаюць асаблівасцям зоны, дзе раскінулася возера Нарач.

Сёння вакол Нарачы размясцілася 13 санаторных аб'ектаў, дзіцячыя лагеры, аўтакемпінгі, іншыя збудаванні. Бяда ў тым, што яны належаць разнастайным ведамствам, таму і ўзнікае вялікі, скажам так, разнабой, які нікому карысці не прыносіць. Таму і прапануецца пры дырэкцыі будучага нацыянальнага парку стварыць каардынацыйны савет, які будзе ажыццяўляць адзіную палітыку па забеспячэнню прыродаахоўнай, гаспадарчай дзейнасці, а таксама ў справе будаўніцтва і рэканструкцыі аб'ектаў турызму і адпачынку, забеспячэння здраўніц прадукцыяй, што выпрабляецца ў самім Мядзельскім раёне.

Тады мясцовыя гаспадаркі і прадпрыемствы перапрацоўкі будуць мець магчымасць развівацца, атрымліваць за прададзеную прадукцыю грошы, нешта пералічваць у раённы бюджэт. Пакуль жа атрымліваецца так: здраўніц на Мядзельшчыне шмат, яны карыстаюцца мясцовымі прыроднымі рэсурсамі, але акрамя, скажам так, курортнага падатку, раёну ад іх нічога не дастаецца — усе прыбыткі ідуць на адрас «родных» ведамстваў...

Сёння ўжо распрацаваны тры варыянты арганізацыі нацыянальнага парку. Зразумела, што па гэтай праблеме яшчэ будзе шмат дыскусій, народзіцца нямала дакументаў, бо сам аб'ект — з разраду унікальнейшых, адначасова каштоўны і вельмі складаны як у прыродаахоўных, так і гаспадарчых адносінах.

Зроблена, між іншым, ужо нямала. Мядзельскі лясгас, напрыклад, пераарыентаваны на прыродаахоўную дзейнасць, а лясы выконваюць у асноўным ахоўныя і аздараўленчыя функцыі.

Калі ж узяць тое ж самае акцыянернае таварыства «Нарач», то яно, здавалася б, створана абсалютна для турыстычнай дзейнасці. Але на яго прыкладзе відаць, наколькі гарманічна можа ўвязвацца развіццё таго ж турызму і «мяккае» прыродакарыстанне, ашчадныя адносіны да наваколля.

Вядома, цяжка загадзя сказаць пра тое, наколькі можа павялічыцца прыток адпачываючых на Нарач. Але калі тут будуць узводзіцца аб'екты такога еўрапейскага ўзроўню, як прапануемая чатырохзоркавая гасцініца (распрацоўка арэнднага прадпрыемства «Інстытут Белпраект»), — з улікам экалагічных і іншых патрабаванняў і стандартаў, то, думаецца, колькасць адпачываючых значна ўзрасце. Дастатковы таму прыклад — санаторый «Сосны».

Нельга, зразумела, адысці і ад пытання перагружанасці Нарачы (пры сённяшнім, падкрэслю, узроўні выкарыстання яго магчымасцяў). У раёне ёсць, як ужо гаварылася, нямала і іншых цудоўных азёр, якія, на жаль, пакуль «не задзейнічаны». Але ж ці такая ўжо невырашальная гэта праблема? Якраз і трэба «перакідваць» у тыя мясціны частку інфраструктуры адпачынку, але не стыхійна, не зыходзячы з нейкіх імгненных патрабаванняў, а мэтанакіравана, з грунтоўнай прапрацоўкай. Што, дарэчы, і ўлічваецца ў прапануемых рашэннях.

Колькі галоў, столькі і розумаў — гэта вядомая ісціна. Камусьці можа падацца, што з арганізацыяй нацыянальнага парку адбудзецца нейкае змяншэнне ўгоддзяў у раёне. Але, падумаўшы, кожны ўбачыць, што гэтыя гектары ніхто і нікуды не забірае. Усе аб'екты і землі ў раёне і застануцца, толькі што ведамасная прыналежнасць некаторых з іх можа памяняцца. Усе прыродныя рэсурсы па-ранейшаму будуць у першую чаргу служыць тым, хто жыве на гэтай зямлі.

Так, значная частка ўгоддзяў некаторых калгасаў можа ўвайсці ў састаў тэрыторыі нацыянальнага парку. Але ж гэта зусім не азначае, што мясцовыя гаспадаркі будуць у яго ўключаны, ніхто іх там «прапісваць» не стане. Іншая справа, што рэжым гаспадарання там можа і памяняцца, зрабіцца больш ашчадлівым. Дарэчы, у некаторых калгасах ён сёння такі ўжо і ёсць.

Натуральна, калі мы гаворым аб прыродаахоўным прызначэнні некаторых тэрыторый, то ў будучым стануць неабходнымі некаторыя карэкціроўкі севазваротаў, пэўных відаў сельгасвытворчасці. Словам, спецыфіка раёна будзе ўлічана.

Як не зразумець, што магчымасці раёна ў развіцці нарачанскай зоны ўжо вычарпаны? Каб надаць рэгіёну новы імпульс у плане прыродаахоўным, рэкрэацыйным, турысцкім, — то перш за ўсё трэба падумаць пра фінансы. Стварыўшы на Нарачы інфраструктуру адпачынку еўрапейскага ўзроўню, мы і зможам гаварыць, што запросім сюды «дастойных» турыстаў, г. зн. тых, хто за паслугі можа «дастойна» заплаціць.

Эканамічныя абставіны вымушаюць прыкідваць, што неабходна знаходзіць як бюджэтныя, так і пазабюджэтныя сродкі фінансавання, розныя крэдыты. Практыка, між іншым, паказвае, што нават і ў сённяшні складаны час ужо існуючыя нацыянальныя паркі, ахоўваемыя тэрыторыі няблага сябе адчуваюць: там у апошнія гады пабудаваны ці рэканструяваны высакакласныя гасцініцы, створаны ўсе ўмовы для актыўнага адпачынку і турызму, і працэнт самаакупнасці там даволі высокі. А як можа быць інакш, калі людзі з грашамі пастаянна іх наведваюць, гасцінічныя нумары практычна не пустуюць?

Відавочна і іншае: у дадзеным выпадку неабходна ствараць рэспубліканскую праграму па развіццю нарачанскага рэгіёна, улічваючы стварэнне нацыянальнага парку і развіццё курортнай зоны — з будаўніцтвам усіх неабходных аб'ектаў, увязкай іх усіх у адну сістэму.

Дык ці трэба ламаць коп'і і даказваць, што свае прыродныя куткі накшталт нарачанскага мы павінны добраўпарадкаваць па вышэйшых стандартах? Гэтак жа як і іншыя азёрныя комплексы. Трэба прыцягваць да гэтага ўвагу і ўрадавых структур, і вытворцаў, і прадпрымальнікаў, і грамадства ўвогуле.

Чаму б не стварыць, напрыклад, экалагічны нарачанскі фонд? Менавіта для таго, каб агульнымі намаганнямі мы змаглі зрабіць лёс Нарачы такім, якога ён заслугоўвае. У рэшце рэшт гэта будзе зроблена для ўсяго народа, а значыць і для кожнага з нас.

**Матэрыялы падрыхтаваў**
**Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

ПРЫРОДААХОЎНЫЯ МЕРАПРЫЕМСТВЫ

# МАШЫНУ МОГУЦЬ «АРЫШТАВАЦЬ»...

## У Мінску праводзіцца масавая акцыя «Чысты горад»

**Вось і прыйшла чарговая восень, асыпала залатым лісцем дарогу. Гэты час для службаў камунальнай гаспадаркі, Мінгарвыканкама цяжкі тым, што пачынаецца ўзмоцненая ўборка горада.**

На адным з апошніх пасяджэнняў адміністрацыі Мінгарвыканкама было вырашана актывізаваць работу па санітарнай уборцы горада, лесапаркавай зоны і зоны адпачынку. Аддзелу экалагічнага нагляду ДАІ пры ГУУС Мінгарвыканкама даручана ажыццяўляць нагляд за выкананнем прынятага рашэння. З гэтай мэтай Дзяржаўтаінспекцыя сталіцы Беларусі з 1 па 31 кастрычніка праводзіць комплекс мерапрыемстваў пад назвай «Чысты горад».

Для гэтага ў выкананне рашэння Мінгарвыканкама № 783 ад 28 снежня 1995 года ў кожным раёне будуць створаны мабільныя групы для прымусовай адбуксіроўкі транспартных сродкаў, якія перашкаджаюць уборцы вуліц, загрувашчваюць зялёныя зоны і тратуары сталіцы. Неабходна адзначыць, што ў канцы мінулага года гарадскі камітэт прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя набыў некалькі трактароў-эвакуатараў, якія былі размеркаваны па ўсіх экалагічных групах раёнаў горада.

За апошнія пяць гадоў гарадскі аўтапарк вырас на 40 працэнтаў і цяпер складае 375 тысяч адзінак. Значна павялічылася інтэнсіўнасць руху праз горад транзітнага транспарту.

У выніку паўстала вострая праблема гарадскога руху — забеспячэнне прапускной здольнасці вуліц і дарог. Больш таго, ўскладняецца работа камунальнай гаспадаркі горада пры ўборцы вуліц і дарог, у шэрагу выпадкаў узнікае неабходнасць тэрмінова вызваліць дарогу для руху спецыяльных аўтамабіляў.

Ужо сёлета на «штрафныя пляцоўкі» горада было эвакуіравана больш як 3780 аўтамабіляў, што стаялі пад забароннымі знакамі ці перашкаджалі ўборцы праезнай часткі дарог. Для парушальнікаў такая паркоўка транспарту абыходзіцца ў немалую суму. Дастаткова сказаць, што дзень захоўвання аўтамашыны на «штрафной пляцоўцы» ўладальніку транспарту каштуе 200.000 рублёў, акрамя таго па прэйскуранту, устаноўленаму Мінгарвыканкамам, эвакуацыя транспарту будзе каштаваць (у залежнасці ад аўтамашыны) ад адной да шасці мінімальных заработных плат.

Створаныя мабільныя групы таксама будуць выяўляць месцы арганізацыі несанкцыяніраваных звалак смецця з прыняццем мераў па іх ліквідацыі. На жаль, прыгарады сталіцы паступова пачынаюць ператварацца ў «смеццевую яму», куды неахайныя кіраўнікі, а часам і самі вадзіцелі, не атрымаўшы дазволу на выкідванне смецця ва ўстаноўленых для гэтага месцах, скідваюць яго ў лясных масівах, месцах адпачынку. Бо нават гэты від спецыфічных паслуг трэба аплачваць. Але ніхто не хоча «выкідваць на памыйніцу» грошы. Лягчэй ціхенька прабрацца ў лясны масіў і ўчыніць паскудства.

Пры выяўленні такіх правапарушэнняў прыродаахоўнае заканадаўства вельмі строгае. Акрамя ўплаты штрафу (для грамадзян ад 1 да 10 мінімальных заработных плат, для службовых асоб — да 50) парушальніку неабходна будзе прыбраць смецце таксама і за таго, хто яго выкінуў у гэтым месцы раней. Довады накшталт «не я адзін вінаваты» ці «мяне прымусіў начальнік» не будуць прымацца ў разлік.



Асаблівая ўвага будзе ўдзелена аб'ектам, якія будуюцца, на прадмет ачысткі колаў аўтатранспарту — каб не дапусціць вынасу бруду на праезную частку дарогі. Наглядны прыклад таму — раёны новабудоўляў «Сухарава», «Малінаўка», «Зялёны Луг», дзе з мэтай эканоміі начальнікі будоўляў не робяць пад'язных дарог да аб'екта і месцаў мыцця колаў. У выніку вакол будоўлі праезная частка дарогі ператвараецца ў балота, дзе ў дажджлівае надвор'е павялічваецца небяспека ўчынення дарожна-транспартнага здарэння.

У працэсе нагляду за рухам не застанецца без увагі і транспарт, знешні выгляд якога не адпавядае тэхнічнаму стану. Эксплуатацыя такога аўтамабіля будзе забаронена шляхам зняцця нумарнога знака. І толькі пасля таго, як уладальнік адрамантуе яго і пройдзе тэхнічны агляд на станцыі дыягностыкі, яму будзе дазволена эксплуатаваць аўтамашыну.

**Мікалай ВАСІЛЬЕЎ,**
**супрацоўнік аддзела экалагічнага нагляду ДАІ пры ГУУС Мінгарвыканкама.**

ЭКАЛАГІЧНЫ ПРАКТЫКУМ

# АМАТАРАЎ ШМАТ. АЛЕ КАНЧАТКОВЫ ДЫЯГНАЗ СТАВЯЦЬ ПРАФЕСІЯНАЛЫ ПРЫРОДААХОВЫ

## Як на Уздзеншчыне развіваецца рух за чыстае навакольнае асяроддзе

**Адразу прапануем чытачам угледзецца ў змешчаны здымак. На ім мы бачым, як пенсіянеры з райцэнтра Павел Худалей і Мікалай Піхейчык прыселі каля невялікай крынічкі. Над ёю ўстаноўлена маленькая вежачка з металічнага ліста з надпісам: «Увага! Лячэбная крыніца. Піце на здароўе!»**

**У пяцідзесятыя гады, калі палова ўздзенскіх вуліц не мела водаправода, многія гараджане і жыхары вёскі Тычынкі тоўпіліся ля крынічкі з бітонамі, бралі адсюль ваду. З цягам часу, аднак, людзі, атрымаўшы камунальныя зручнасці, забыліся на ўсё гэта, закідалі крынічку смеццем ды ламаччам.**



**Гэтыя два чалавекі сталага ўзросту спахапіліся першымі, але не сталі нікуды пісаць ды скардзіцца, а самі ўзяліся за справу. Месца вакол крынічкі вычысцілі, падсыпалі гравію, што трэба — забетанавалі. Зноў пайшлі сюды людзі — за крыштальнай чысціні смачнай вадой.**

**Хтосьці, магчыма, неўразумела пацісне плячамі: што гэта, маўляў, за вялікі подзвіг? Мы ж ад сябе скажам: зроблена цудоўная, па-чалавечы высакародная справа. Хочацца ўсклікнуць: вось так бы ды ўсюды! Між тым, у Уздзенскім раёне ў нечым падобныя падыходы (у розных, зразумела, вымярэннях) зусім не рэдкасць.**

У Беларусі нямала гавораць аб дэмаграфічных праблемах — і падставы для гэтага ёсць. А вось у вёсцы Гарадок, дзе размяшчаецца Суткаўская сярэдняя школа, ніякіх такіх праблем не ведаюць — тут пастаянны ўзровень папаўнення першакласнікамі, і ён стабільна захоўваецца ажно восем гадоў. Вось і цяпер 1 верасня сюды прыйшлі ў першы клас 18 дзяцей.

Школьны будынак — даволі сучаснага выгляду, увесь двор літаральна патанае ў кветках і дэкаратыўных раслінах, іх тут каля 60 сартоў і відаў. Маецца свая стацыянарная цяпліца, арганізаваны кабінет экалогіі. Падумалася: калі дзеці жывуць у вёсцы, сярод прыроды, дык, можа, ніякім асаблівым экалагічным выхаваннем з імі не трэба і займацца?

Аўтар падкінуў гэтую «кансерватыўную» думку толькі дзеля палемікі, у чым і прызнаецца. Дырэктар жа школы Уладзімір Казючыц умомант даказаў, што і з дадзенай мэтай з такой застарэлай думкай не варта было і выступаць. Калі пакінуць убаку тэарэтычны бок выказванняў, то маналог педагога (у сціслым выкладанні) гучаў прыкладна так:

— Экалагічна выхоўваць сёння неабходна ўсіх нас, кожнага чалавека, — і асабліва маленькіх, школьнікаў. І такое выхаванне — адзін з галоўных напрамкаў усёй нашай школьнай работы.

Возьмем сам факт прыгажосці школьнай тэрыторыі. Вырошчваць усё багацце кветак, раслін, агародніны і многага іншага, глядзець за парадкам, падтрымліваць яго — жаданне займацца гэтым дзецям трэба ж яшчэ і прывіць. Наогул, «агульнай» любві да прыроды тут мала, трэба яшчэ папрацаваць, папацець, неабходны і пэўныя веды. Іх школьнікі дадаткова атрымліваюць у экалагічным гуртку, які працуе ў зімовы час. Летам «тэорыю» замацоўваем на практыцы.

Ніколі ў нас не ўзнікала праблем, што дзеці не дапамогуць нам, дарослым, у нялёгкай фізічнай працы. Без усякіх напамінкаў школьнікі ў вольны час прыходзяць сюды і разам з намі, настаўнікамі, працуюць з кветкамі і ў цяпліцы. Калі летам у двары ўсё цвіце і буяе, а выкладчыцкі састаў у адпачынку, хто назірае за ўсім гэтым багаццем, за парадкам — пры заўсёды, заўважце, адчыненых школьных варотах? Менавіта нашы выхаванцы.

Вось дзеці-мінчане, якія прыязджаюць сюды ў госці да дзядулі і бабулі, яны, скажам так, ужо «крыху іншыя». У гэтым выпадку нашы школьнікі 5—8 класаў выступаюць у ролі выхавальнікаў, выкладчыкаў экалагічных падыходаў да прыроды. Гэтыя вызначэнні не бяру ў двукоссі свядома. Мінскія госці атрымліваюць прыклад для пераймання, і ўжо так проста кветак ірваць не стануць.

Хтосьці заўважыць, што кіраўнік педагагічнага калектыву склаў сваім выхаванцам сапраўдны гімн. І няхай. Думаецца, што дзеці-прыродалюбы яго ўсё ж такі заслужылі. Як заслужылі школьніцы-сямікласніцы, што сфатаграфаваны ў цяпліцы, права палюбавацца на справу сваіх рук.

■

Напомню меркаванне, якое дзе-нідзе паспела ўжо зрабіцца агульным месцам. Гучыць яно так: дзяцей у экалагічным плане выхаваць можна, а вось у адносінах да дарослых, асабліва вытворцаў і кіраўнікоў прадпрыемстваў, гэтая справа бесперспектыўная. У іншых выпадках яно, відаць, так і ёсць, але калі наведаеш, напрыклад, акцыянернае таварыства «Уздзенская райаграпрамтэхніка», то і ўбачыш, што ад гэтага тэзісу мала што застаецца. Той, хто хоча працаваць на ўзроўні патрабаванняў сённяшняга прыродаахоўнага заканадаўства, выхоўвае сам сябе.

У асноўным тут займаюцца рамонтам рухавікоў для трактароў «МТЗ-80» і колавых экскаватараў. Што робіцца для таго, каб менш забруджваць навакольнае асяроддзе?

На прадпрыемстве дзейнічае сістэма абаротнага водазабеспячэння — там, дзе вады звычайна расходуецца больш за ўсё, а менавіта на мыйцы. Калі вада «пракручваецца» ў сістэме некалькі разоў, то кожны зразумее: гэта вялікая эканомія каштоўнага прыроднага рэсурсу. Працуе на здароўе прыроды і



чатырохступенная сістэма ачысткі сцёкаў ад мыечных машын, дзякуючы чаму ў каналізацыю трапляе ўжо ўмоўна чыстая вада.

— Што датычыць адрамантаванай тэхнікі, якая выходзіць з варот прадпрыемства, — выказвае сваю пазіцыю галоўны інжынер Павел Казлоўскі, — то тут галоўнае, лічу, дакладная і якасная рэгуліроўка паліўнай апаратуры. Каб потым спальванне паліва ў рухавіку працуючай тэхнікі адбывалася так, як таго патрабуюць нормы. Адпаведна менш будзе задымляцца і атмасфернае паветра. У гэтым нас, дарэчы, прыдзірліва кантралююць органы Дзяржстандарта. Тэхналагічныя стандарты жорстка ставяцца і да так званых працечак масла ў рухавіках. Мы проста не можам зняць рухавік са стэнда і адправіць яго спажыўцу, калі ў ім маецца хоць самая найменшая цеча масла.

Каментарый начальніка Уздзенскай раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Антона Крукоўскага даволі сціслы. А чаму — зразумела.

— Такіх выпадкаў, каб прадпрыемству трэба было прад'яўляць нейкія прэтэнзіі, не здаралася, бо яго кіраўніцтва да пытанняў прыродаахновы ставіцца сур'ёзна. На ўсёй тэрыторыі, дзе пастаянна знаходзяцца машыны, увогуле не знойдзеш пралітага гаручага і масла. А гэта — дастаткова паказальны факт.

Як бачым, ашчадныя вытворцы і прыдзірлівыя эколагі паміж сабой паладзілі. І, што таксама паказальна, на прынцыповай аснове. Такія падыходы бакоў усім ідуць на карысць, і найперш — навакольнаму асяроддзю.

■

У Мінскім абласным камітэце прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя аўтару публікацыі неаднаразова прыходзілася чуць наступную выснову:

— Вопыт паказвае: калі кіраўнік калгаса, прадпрыемства правільна разумее сённяшнія экалагічныя патрабаванні, то праблемы прыродаахновы па такіх адрасах вырашаюцца ўвогуле проста. Аднак такія выпадкі пакуль — не вельмі частая з'ява.

Адзін з адрасоў такой «нячастай з'явы» — племсаўгас-камбінат «Белая Русь» Уздзенскага раёна, дзе дырэктарам Анатоль Кунцэвіч. Прадпрыемства можна назваць і крыху інакш — селекцыйна-гібрыдны цэнтр па вырошчванню племяннога рамонтнага маладняку свіней магутнасцю 18 тысяч галоў плюс 5160 тон таварнага мяса ў год. Адчуваеце маштабы?

Эканамічны спад, які прыціснуў многія вытворчасці, закрануў і гэты жывёлагадоўчы камбінат, але не вельмі сур'ёзна. Паколькі, як тут кажуць, «мы працуем жорстка і сурова». Тры гады таму племсаўгас утрымліваў максімальнае пагалоўе ў колькасці 37 тысяч свіней, а сёлета пад канец года гэтая колькасць складзе 35-36 тысяч галоў.

Эканамічная даведка даецца з вельмі простай мэтай — паказаць, што пазбавіцца ад буйных комплексаў па вытворчасці таго ж мяса мы проста не маем права, бо гэта аснова нашага харчовага выжывання.

Тэма публікацыі вымагае напомніць грамадзянам, якія любяць каўбасу і іншыя смачныя рэчы, што іх вытворчасць мае і ценявыя, скажам так, бакі. У першую чаргу гэта вялікія аб'ёмы вытворчых сцёкаў, якія шкодна ўплываюць на навакольнае асяроддзе. З'ява, як прынята думаць, аб'ектыўная. Пра гэтую «аб'ектыўнасць», аднак, мы пагаворым крыху ніжэй.

А пакуль прывядзём некаторыя лічбы. Па ранейшаму праекту племсаўгас-камбінат «Белая Русь» павінен быў выкідваць за суткі 1600—1700 кубаметраў сцёкаў, у тым ліку да 1500 «кубоў» гною ад свіней. Што атрымліваецца ў выніку за год, звычайнаму чытачу проста цяжка ўявіць: гэта, умоўна кажучы, вялізнае возера жыжкі плошчай чатыры гектары і сярэдняй глыбінёй 2,5 метра. Праўда, усё гэта хаваецца ў спецыяльных падземных ёмістасцях і пасля адпаведнай апрацоўкі выкарыстоўваецца для паліву палёў.

Прывядзём яшчэ адну даведку. Калі ўзяць свінагадоўчыя комплексы магутнасцю больш як 24 тысячы галоў (не ўлічваючы драбнейшыя аб'екты), то толькі гэтых у Беларусі прыкладна два дзесяткі. Не менш і комплексаў буйной рагатай жывёлы. Гэта ж многія мільёны тон шкодных сцёкаў! Уяўляеце важнасць праблемы для ўсёй краіны?

— Ужо ў час будаўніцтва комплексу, — гаворыць Анатоль Кунцэвіч, — мы заняліся рэканструкцыяй, унеслі змены ў тэхналогію. Сёння комплекс дае сцёкаў не больш за тысячу «кубоў» у суткі, а гэта куды менш за праектныя разлікі. Прыкладна ўжо сем гадоў, як змяншаем аб'ёмы гідразмыву гною, — а гэта энерга- і водазберажэнне, меншая нагрузка на навакольнае асяроддзе.

Начальнік райінспекцыі прыродаахновы Антон Крукоўскі, які пастаянна сочыць за балансам адносінаў «свінакомплекс — прырода», выказваецца аб'ектыўна:

— Акрамя ўсяго іншага тут яшчэ робіцца дадатковая апрацоўка сцёкаў, калі ў спецыяльных рэзервуарах аддзяляюцца шкодныя фракцыі. Ужо асветленая вадкасць змешваецца з вадой з суседняй рэчкі і адпраўляецца на арашэнне палёў. Такім чынам, на комплексе эканомяць каштоўную артэзіянскую ваду.

Быццам усё і сказана: у «Белай Русі» ўжо і так нямала зрабілі для вырашэння ўласных тэхналагічных (і эканамічных) праблем. Маглі б і сядзець сабе ціха, як гэта робяць кіраўнікі іншых падобных прадпрыемстваў. Ніхто і спаганяць не будзе, бо ўсё вядзецца па распрацаваных раней праектах. Аднак А. Кунцэвіч вырашыў, як ён сам кажа, пайсці па слядах саўгаса-камбіната «Барысаўскі», каб поўнасцю змяніць сістэму ачысткі і нейтралізацыі шкодных сцёкаў на вытворчасці. Дарэчы, камбінат «Барысаўскі» — пакуль адзіны ў краіне, які прымяніў у сябе эфектыўную біялагічную ачыстку сцёкавых водаў. Праект рэканструкцыі ачышчальных збудаванняў у «Белай Русі» ўжо распрацаваны. Фінансуюць работу Мінпрыроды і Мінсельгасхарч, а таксама Мінскі аблкамітэт прыродаахновы. Укладвае грошы і сам племсаўгас-камбінат. Патрабуюцца, аднак, мільярды рублёў, а дзе іх усе адразу знойдзеш? Тым не менш, тут паспелі ўжо закупіць частку абсталявання і спадзяюцца, калі не будзе нечаканасцяў (а будуць грошы), першую чаргу рэканструкцыі завяршыць да 2000 года. Вось калі навакольная прырода ўздыхне з палёгкай!

— Грошай у вас мала, рэканструкцыя даецца цяжка, а вы ўсё ж зрабілі такі крок. Што і хто вас прымушае? — задаём ключавое пытанне Анатолю Кунцэвічу.

— Ніхто з боку на нас не ціснуў, да гэтай думкі мы ўсе на комплексе прыйшлі самі. Трэба ж глядзець у перспектыву: можна дапрацавацца да таго, што некуды будзе жыжку і зліваць. А чым у будучым адкажа нам наша зямля? А што скажуць людзі, якія будуць тут жыць і працаваць пасля нас? Вось што хвалюе.

Вось цяпер сказана сапраўды ўсё. Застаецца толькі дадаць — ад імя тых, хто хварэе за здароўе прыроды Беларусі: дзякуй вам, Анатоль Мікалаевіч, за вашы хваляванні.

■

Райскі куточак. Узровень сучаснага «трохзоркавага» гатэля. Магутная крыніца каласальна багатай фторам вады, якая вельмі дапамагае пры лячэнні карыесу зубоў.

Усё гэта не надакучыўшая рэклама, а проста жыццёвыя факты — сённяшнія і заўтрашнія. Іх прыводзіць дырэктар базы адпачынку «Пад'ельнікі» Беларускага таварыства інвалідаў па зроку (БелТІЗ) Уладзімір Запольскі:

— Самі бачыце, якое тут цудоўнае, экалагічна чыстае месца — выдатны сасновы бор. Былая сціплая база адпачынку ператвараецца ў сучасны пансіянат, разлічаны на адначасовае пражыванне 150 чалавек. Корпус пансіяната і іншыя збудаванні ўзводзяцца ў асноўным на сродкі цэнтральнага праўлення БелТІЗа, ажыццяўленню праекта шмат пасадзейнічаў яго старшыня Анатоль Нятылькін. А ўвогуле, паважаныя правяраючыя, час паспытаць нашай славутай вады з фторам...

Што і было зроблена. Адчулі і холад вады, і яе своеасаблівы пах. Агледзелі і саму свідравіну артэзіянскай крыніцы, як і дзве іншыя — для звычайнай пітной вады. Пасля агляду кацельні, якая будзе працаваць на газе, не маглі не ўзнікнуць пытанні, на якія начальнік райінспекцыі прыродаахновы Антон Крукоўскі даў вычарпальны адказ:

— Пры праектаванні такіх спецыфічных аб'ектаў, як гэты пансіянат, праблемы ўзнікаюць заўсёды. Тым больш, што ён размяшчаецца ў водаахоўнай зоне ракі Уса. Многа спрачаліся, але ў выніку ўсё вырашылі станоўча: тут будуюцца сучасныя ачышчальныя збудаванні, якія выключаць шкоднае ўздзеянне аб'екта на навакольнае асяроддзе. Прынцыповыя спрэчкі ішлі і вакол кацельні, але райінспекцыя дабілася, каб яе запраектавалі менавіта ў «газавым варыянце». Вялікіх выкідаў у атмасферу яна даваць не будзе — тут усё вырашылася на карысць экалогіі.

Што можа быць больш прыемным для вушэй эколага? Аднак аўтар гэтых радкоў, у «сівым мінулым» сам будаўнік-праекціроўшчык, добра ведае: забудоўшчык вельмі часта памыляецца, калі думае, што менавіта ён «усё разумее» ў экалогіі. Гэтак жа кожны «разумее» і ў футболе, і ў выхаванні дзяцей. Яны ўсе, аднак, аматары, а справу вырашаюць спецыялісты. Ды і наогул, ці магчыма ўключыць узвядзенне пансіяната ў канву агульнай прыродаахоўнай дзейнасці ў раёне? Гэта ж не прыродаахоўны аб'ект...

— Усе будоўлі на тэрыторыі раёна нас датычацца, патрабуюць нашай увагі. Няхай гэта будзе пансіянат, прадпрыемства, жывёлагадоўчая ферма ці звычайны гараж. Няхай сабе іх канторы і начальства знаходзяцца ў Мінску ці, скажам, — жартуе Антон Антонавіч, — у Парыжы. Скажу адно: нават будаўніцтва комплексу для лячэння і адпачынку хворых ад нараджэння людзей (высакародная справа!) павінна весціся ў адпаведнасці з патрабаваннямі прыродаахновы. З тым, каб робячы дабро ў адным, ніхто не рабіў шкоды ў іншым. Скажу шчыра: я задаволены, што і ў гэтым выпадку мы дабіліся ажыццяўлення выкладзенага прынцыпу.

**Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

---

МЯРКУЕ МОЛАДЗЬ

# ХЛОПЧЫК ПАЛЮБІЦЬ ПТУШКУ?

Экалагічныя праблемы. Гэтыя два словы цяпер можна пачуць намнога часцей, чым раней. Напэўна, мы так і будзем паўтараць сабе, што лясы забруджаныя, рэкі, вадаёмы пакутуюць ад розных выкідаў... Гэта можа працягвацца бясконца. Пакуль сам чалавек, «вянец прыроды», не зразумее, што ўсё, што адбываецца, ідзе ад яго самога. У гэтым вінаваты толькі ён сам.

Я не хачу сказаць, што ў нашай краіне нічога не робіцца на карысць навакольнага асяроддзя. Ідзе, напрыклад, барацьба з забруджваннем атмасферы. Але ёсць шмат кіраўнікоў прадпрыемстваў, якія абыякава ставяцца да экалогіі. А пра звычайных грамадзян і гаварыць няма чаго... Мы, а дакладней людзі Беларусі, выхаваны на эгаістычных паняццях, прынцыпах «у нас усяго шмат», «усё вакол народнае, усё вакол маё» ці «на мой век хопіць, а пасля мяне хоць патоп...»

Звычайна вясной усе нармальныя людзі высаджваюць дрэвы. А колькі іх застанецца і ўцалее да наступнай вясны? Ламаюць дрэвы не толькі дзеці, але і дарослыя. Нашы бацькі ўжо і самі не заўважаюць, як вучаць дзіця не таму, каб ён любіў сваім маленькім, чыстым, пакуль яшчэ не ачарсцвелым сэрцам, а наадварот.

Літаральна нядаўна, выйшаўшы са школьнага двара, я ўбачыла перад сабой маладую маму з маленькім сынам гадоў 5-6. Раптам хлопчык спыніўся і пачаў гучна казаць: «Мама, пачакай, паглядзі якая птушка! А чаму яна не ляціць? Можа, яна хворая? Давай возьмем яе з сабой, я буду яе даглядаць». Мама, не доўга думаючы, тузанула малыша за руку і сказала: «Пойдзем! Няма чаго розную «дрэнь» падбіраць. Яшчэ якую-небудзь хваробу падчэпіш!»

Я ўбачыла вочы гэтага хлопчыка. Ён яшчэ доўга азіраўся на птушку. У вачах было столькі жалю, стаялі слёзы.

Мне хочацца сказаць вам, шаноўныя бацькі, што праўда не заўсёды бывае на вашым баку. Я лічу, што ў гэтай сітуацыі рацыю меў малыш, хоць можна зразумець і гэтую маму, якая, канешне, не жадае нічога дрэннага свайму дзіцяці.

Давайце падумаем, як паўплывае на дзіця такое «выхаванне». Пройдзе час, і бацькі будуць здзіўляцца, чаму з такога чулага і ласкавага дзіцяці вырас такі чэрствы і бяздушны бэйбус, які не звяртае ніякай увагі не толькі на параненую птушку, але і на чалавека, які трапіў у бяду.

**Людміла КАВАЛЕЎСКАЯ,**
**вучаніца 10 «Б» класа**
**Бегомльскай СШ.**

ЭКАЛАГІЧНАЕ ВЫХАВАННЕ

# ПАЗІЦЫЯ ЗМАГАРА ЗА ЗДАРОВАЕ ПРЫРОДНАЕ АСЯРОДДЗЕ — ПАЗІЦЫЯ ГРАМАДЗЯНІНА

## Тры пытанні студэнтам Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі

***Бацькам, як вядома, не шкодзіць паслухаць іншы раз, што думаюць пра іх уласныя дзеці. У некаторых выпадках гэта проста неабходна. Увогуле ж грамадству карысна ведаць, што думае моладзь, напрыклад, аб стане навакольнага асяроддзя і няпростых праблемах, з ім звязаных. З гэтай мэтай рэдакцыя «Звязды» і задала студэнтам другога курса БДПА тры пытанні.***

***1. Што, паводле вашых назіранняў, з'яўляецца непрымальным у практыцы вашых старэйшых калег — вопытных інжынераў у адносінах да прыроднага асяроддзя?***

***2. Ёсць гучная фраза, выказаная вядомым тургенеўскім героем — нігілістам Базаравым: «Прырода — майстэрня, а чалавек у ёй — работнік». Ці ўсё тут на сваім месцы?***

***3. Наколькі спатрэбяцца вам у далейшым веды са спецыяльнага курсу «Асновы экалогіі», які чытаюць у акадэміі?***

***Паслухаем, што адказалі студэнты.***



**Дзмітрый ГАРБАЦЬКО, будучы інжынер:**

1. Адкажу звычайным жыццёвым прыкладам. Каля дома, дзе жыве наша сям'я, будуецца яшчэ адзін. На вялікай плошчы вакол катлавана ўсю раслiннасць завалілі кучамі зямлі і гліны, нічога ўжо не расце. Такая вось вытворча-экалагічная «практыка» ў нашых дыпламаваных сабратаў.

Калі я, студэнт, быў бы на месцы гэтых будаўнікоў, то абавязкова прадугледзеў бы хоць нейкую рэкультывацыю ўчастка, бо ўжо вядома, якое прымітыўнае добраўпарадкаванне яны потым выконваюць.

2. Па-першае, наколькі экалагічна адукаваным будзе работнік, такая будзе ў яго і «майстэрня». Якая яна сёння — вядома.

Па-другое, сама думка здаецца небяспечнай ў адносінах да прыроды: усе расліны, жывёлы, навакольнае асяроддзе, атрымліваецца, гэта рэчы, з якімі можна рабіць усё, што падкажа непрадказальная «фантазія» працаўніка? Наўрад ці можна гэта прыняць.

3. Калісьці экалагічныя веды ў нас інжынерам былі «ні да чаго»: давай план — і ўсё! Сёння ж сітуацыя з прыродным асяроддзем, тэхналогіямі ў вытворчасці такая, што проста прымушае іх набываць.

Сам прадмет, які нам выкладаюць, я сказаў бы, даволі перспектыўны: ужо даведаўся пра многае такое, аб чым раней і не падазраваў. Тут патрэбны і тэарэтычныя, і простыя практычныя веды, асабліва калі ўлічыць экалагічную сітуацыю, у якой мы жывём пасля Чарнобыля.

На вытворчасці ж прыродаахоўныя патрабаванні растуць з кожным годам, з'яўляюцца ў галіне экалогіі ўсё новыя законы. Калі гэтага не будзеш ведаць, то які ты тады работнік, інжынер? У такім выпадку з'явяцца суцэльныя непрыемнасці з тымі ж прыродаахоўнымі службамі.



**Юлія ВАЖНІК, спецыяльнасць — «Экалагічны менеджмент і аўдыт у прамысловасці»:**

1. Не зусім разумею сённяшнія падыходы: амаль усюды на вытворчасці зацыкліваюцца на стварэнні ачышчальных збудаванняў і таму падобнага. Гэтым, безумоўна, трэба займацца, але ж галоўнае — ствараць наогул безадходныя тэхналогіі, чым адразу будуць вырашацца многія экалагічныя праблемы. Гэта куды лягчэй і выгадней, чым потым думаць (пры вялікіх эканамічных затратах, зразумела), як ачысціць выкіды і адходы ці перапрацаваць іх.

2. У пэўным сэнсе прырода — сапраўды майстэрня, такое месца, дзе чалавек можа прыкласці свае веды і ўменне. Але ці можна разглядаць гэтую «майстэрню» толькі як нейкае, умоўна кажучы, памяшканне, дзе работнік можа ўсё перарабляць-перакручваць па ўчарашніх тэхналогіях? Ён тады і «перакруціць» — на шкоду і сабе, і прыродзе.

Калі б саму думку працягнуць далей, то можна было б з ёю і пагадзіцца. У гэтым сэнсе, што чалавек у прыродзе не проста работнік, а добры і беражлівы гаспадар у адносінах да яе, разумны і асцярожны ў сваёй дзейнасці.

3. «Асновы экалогіі» — гэта агульнаадукацыйны курс, які чытаюць у акадэміі для будучых інжынераў і тэхнолагаў. На нашай жа спецыяльнасці будзе выкладацца яшчэ шэраг іншых прадметаў і дысцыплін, якія дадуць больш паглыбленыя веды.

У будучым мы хутчэй за ўсё будзем працаваць на прамысловых прадпрыемствах. Станем кантраляваць адпаведнасць тэхналогій прыродаахоўным патрабаванням, рэгуляваць практыку абыходжання з адходамі вытворчасці, яе выкіды ў навакольнае асяроддзе.

Калі мы прызваныя распрацоўваць экалагічныя падыходы ў распрацоўцы тэхналогій, то як тут абысціся без спецыяльных ведаў? Што без іх можна даказаць, кагосьці пераканаць? А тое, што займацца гэтым прыйдзецца даволі часта, відаць ужо і цяпер.



**Канстанцін ГЕРАСІМЧЫК, будучы інжынер-тэхнолаг:**

1. Не ўпэўнены, што старэйшыя, пажылыя ўжо спецыялісты на вытворчасці ва ўзаемаадносінах з прыродным асяроддзем у свой час зусім ужо нічога не разумелі. Трэба меркаваць, умовы тады былі такія, што прымяняць свае веды на справе многія проста не мелі магчымасці. Сёння, калі сітуацыя ў чымсьці мяняецца, кожнаму з іх трэба адкрываць падручнік экалогіі і вывучаць хоць бы азы. Як жа інакш: век жыві — век вучыся.

Паўтару яшчэ раз: экалагічная сітуацыя ў нас мяняецца менавіта толькі ў чымсьці. Паводле маіх назіранняў, на вытворчасці і сёння экалагічныя веды не вельмі патрэбныя. На нейкім заводзе, дапусцім, вытворчасць экалагічна брудная, ідуць скіды і выкіды шкодных рэчываў. Дырэктар прадпрыемства ці хтосьці з падначаленых заплаціць за гэта штраф-другі, а яны адносна невялікія і ўздзеянне не аказваюць, на паляпшэнне спраў не ўплываюць.

І галоўнае: навошта заводу ўзбівацца на «высокую экалогію»? Гэта ж эканамічна не выгадна, бо трэба несці фінансавыя затраты. Тады пры састарэлых тэхналогіях прадпрыемства наогул не зможа працаваць.

2. У мяне на гэты конт некалькі іншы погляд. Працаваць у звычайнай майстэрні для чалавека — проста абавязак, бо трэба зарабляць на жыццё. Прыроду ж ён павінен шанаваць, адносіцца да яе беражліва. Любві ж па абавязку, як вядома, не бывае. Калі ўжо і неабходна выкарыстоўваць магчымасці «майстэрні», то толькі з прымяненнем зберагальных тэхналогій, з абавязковым улікам экалагічных патрабаванняў. Словам, прырода — не прымітыўная «майстэрня», а нешта куды больш складанае.

3. Аб дзейнасці на вытворчасці нават не гавару — тут усё павінна разглядацца пад экалагічным вуглом погляду, а значыць, без спецыяльных ведаў тут нікуды. Аднак што дрэнна? Просты ж інжынер на заводзе — пешка, калі ён і захоча штосьці ў экалагічным плане палепшыць, то яго хутка могуць паставіць на месца.

Праўда, час мяняецца, на вытворчасць прыходзяць новыя людзі. Калі там паявіцца шмат маладых спецыялістаў —прыхільнікаў экалогіі, то тады, трэба думаць, мы ў гэтым плане на штосьці зможам уплываць, нешта вырашаць і мяняць.

Не менш, а можа і больш важныя гэтыя веды (хоць бы агульнага плана) для звычайных людзей-неспецыялістаў — для вызначэння грамадскай, грамадзянскай пазіцыі кожнага. На самай справе, што гэта будзе за грамадзянін, калі ён раўнадушны да стану зямлі, на якой жыве? Ці не таму наша грамадства пакуль цярпіма ставіцца да пагаршэння навакольнага асяроддзя, што яно ў многім яшчэ «экалагічна глухое»?



**Каменціруе доктар біялагічных навук, прафесар кафедры экалогіі БДПА Святлана ХОРАВА:**

— Наша кафедра была арганізавана ўсяго пяць гадоў таму. Я назвала б гэта патрабаваннем часу. Зрабілася відавочным, што тэхнічны, тэхналагічны прагрэс яшчэ не азначае прагрэсу сацыяльнага.

Мы прыйшлі да такіх экалагічных і тэхнагенных нагрузак, што стала зразумела — пачынаецца мацнейшы рэгрэс. У першую чаргу ён праяўляецца на ўзроўні нашага дому, жытла, той прыроды, што нас акружае, — заўважу, вельмі ранімай. Яна ўжо не спраўляецца з аб'ёмамі яе забруджвання, і гэты цяжкі прэс трэба з яе здымаць.

Адсюль і патрэба грамадства ў новых кадрах у самых розных галінах народнай гаспадаркі, у людзях з новым мысленнем, спецыяльнымі ведамі — менавіта экалагічна адукаваных.

У першую чаргу мы імкнёмся ўкласці ў свядомасць студэнтаў галоўную ідэю: за ўсё тое, што чалавек робіць на Зямлі, асабліва калі для яе гэта шкодна, кожны індывідуум павінен і адказнасць несці індывідуальную. Не хавацца, што называецца, за калектыў, за чужую спіну. Што інакш атрымліваецца? Нехта з адчувальнымі памылкамі спраектаваў завод, другі пабудаваў яго з недаробкамі і бракам, трэці непрафесійна павёў вытворчасць, чацвёрты «арганізаваў» залпавы скід шкодных адходаў і загубіў рэчку. У гэтай сітуацыі чамусьці «вінаватыя ўсе», а канкрэтнага віноўніка няма. Пакуль мы не ўкаранім у свядомасць кожнага вытворцы, наогул кожнага грамадзяніна паняцце аб індывідуальнай адказнасці за ўласныя ўчынкі, ніякага прагрэсу ў грамадстве не будзе.

Гэта ёсць грамадзянскі бок праблемы. Я асабіста, чытаючы студэнтам свой курс, стаўлю яго на першае месца. Таму што калі б кожны з нас, ад міністра да звычайнай хатняй гаспадыні, у нейкай меры сапраўды адчуваў і разумеў гэта, думаў пра тое, што атрымаюць у спадчыну нашы дзеці і ўнукі, адпаведна дзейнічаў у жыцці, то штосьці ў грамадстве і зварухнулася б. На жаль, гэтага мы пакуль не дасягнулі.

Нашы студэнты-другакурснікі, зусім яшчэ маладыя хлопцы і дзяўчаты, пачынаюць ужо разумець: у адносінах да навакольнага асяроддзя нельга прымаць пазіцыю «мая хата з краю». Бо яна і прывяла ўжо да сённяшняга стану, калі чалавецтву самы час задумацца аб сваім выжыванні.

Увесь спецыяльны курс складаецца ў нас з трох блокаў: «Асновы экалогіі», «Радыеэкалогія», «Абарона насельніцтва ў надзвычайных сітуацыях».

У другім блоку мы адводзім большае месца, у прыватнасці, прафілактыцы абароны людзей і звязаным з гэтым праблемам. Гэтыя веды неабходны ўсім, не толькі студэнтам.

Калі ў нас вёўся адбор студэнтаў на новую спецыяльнасць «Экалагічны менеджмент і аўдыт у прамысловасці», то мы праводзілі з кандыдатамі субяседванне менавіта на тэму грамадзянскай пазіцыі чалавека, а тым больш — спецыяліста. Нас цікавіла, наколькі нашы студэнты могуць быць у недалёкім будучым устойлівымі байцамі ў адстойванні засвоеных прынцыпаў.

Змагацца ж ім прыйдзецца не мала. Вядома ж, што прадпрыемствы ўсяляк хаваюць сапраўдную колькасць усяго таго, што яны выкідваюць у навакольную прыроду, — каб менш плаціць падаткаў і штрафаў, несці іншыя спагнанні. Таму мы і звяртаем асаблівую ўвагу пры падрыхтоўцы будучых спецыялістаў на іх грамадзянскую пазіцыю і разуменне месца экалогіі ў нашым складаным свеце. Каб не ўзнікала потым спакусы за тыя ці іншыя льготы на вытворчасці адмаўляцца ад сваёй пазіцыі.

Усяго другі год мы вучым студэнтаў па гэтай спецыяльнасці і спадзяёмся, што тут нешта атрымаецца. Хоць бы ўжо таму, што разумеем: дзяржаве такія спецыялісты вельмі патрэбныя. Грамадства ў экалагічным плане зайшло ў тупік і яму неабходны выратавальны круг. Ім у пэўнай ступені і стануць падрыхтаваныя маладыя спецыялісты.

**Пытанні задаваў і адказы занатаваў Васіль ШАРПІЛКІН.**

З УСЯГО СВЕТУ



# ПТУШКА — ТОЛЬКІ ДЛЯ БАГАЦЕЯЎ?

***Гэта можна было б сцвярджаць, і то з пэўнай нацяжкай, толькі пра паляўнічага фазана. Што да астатніх яго відаў, то яны даступныя многім***

**На змешчаным здымку адлюстраваны так званы залаты фазан, які ў Еўропе разводзіцца ў няволі ўжо больш як двесце гадоў. Прычым гэта лёгкі аб'ект для развядзення — птушка ўтрымліваецца ў вальерах, заапарках, прыватных калекцыях. У Беларусі цяпер таксама з'явілася нямала аматараў гэтай справы, у якіх залатыя фазаны жывуць на ўласных падвор'ях.**

**Залаты фазан — птушка дэкаратыўная і разводзіцца дзеля прыгажосці. Чаму ён залаты? У яго пер'е «капюшона» на галаве залацістага колеру, у астатняй афарбоўцы пераважаюць чырвона-залацістыя колеры. Тыя, хто яго не бачыў, могуць паверыць на слова: птушка вельмі прыгожая.**

Залаты фазан не з'яўляецца аб'ектам палявання. Паколькі ён разводзіцца ў няволі, то добра прызвычаіўся да «ўмоў жыцця», адаптаваўся. «Тэхналогія» яго ўтрымання даволі простая: птушка добра наседжвае, выводзіць птушанят. Фазаны — зерняедныя птушкі, але з ахвотай дзяўбуць насякомых, ягады ды яшчэ зялёную траву. Словам, паводзяць сябе як сапраўдныя куры, хоць маюць і свае асаблівасці.

Дарэчы, пра нашых звычайных курэй. Яны, аказваецца, адносяцца менавіта да сямейства фазанавых. Гэтае сямейства і сямейства глушцоў адносяцца да атрада курападобных.

У Беларусь залатыя фазаны былі ў свой час завезены ў Бярэзінскі біясферны запаведнік, у глушцовы пітомнік, які потым чамусьці «прыкрылі». Прывезлі ж іх дзеля таго, каб яны выконвалі ролю квахтух для вывядзення птушанят глушцоў (фазаніхі ж — цудоўныя маці!)

— Гэта, відаць, першы вядомы мне факт з'яўлення залатога фазана ў Беларусі, які меў месца прыкладна дзесяць гадоў таму, — адзначае навуковы супрацоўнік Інстытута заалогіі Таццяна Паўлюшчык. — Потым ужо гэтыя птушкі з'явіліся на прыватных падвор'ях некаторых аматараў у Мінску і Мінскім раёне, у Жодзіне, у Гродзенскай вобласці. Калі з'явіўся заасад Мінскага аўтазавода ў Чыжоўцы (цяпер гэта маленькі самастойны заапарк), то там амаль заўсёды (ва ўсякім разе — нядаўна) у экспазіцыі былі і залатыя фазаны — людзі любаваліся гэтым стварэннем.

Відаў фазанаў вельмі многа. Шмат і такіх, якія знаходзяцца на мяжы знікнення, — у асноўным гэта азіяцкія фазаны.

Да папуляцыі фазана звычайнага, які жыве ў прыродных умовах, адносіцца шмат больш дробных яго падвідаў. Многа іх існуе і на тэрыторыі былога Саюза. Натуральным арэалам, месцам пражывання звычайнага фазана на гэтай тэрыторыі з'яўляюцца шыроты ад Грузіі да паўднёвых абласцей Украіны.

У Еўропе фазан звычайны распаўсюджаны ў 29 краінах. Што датычыць Беларусі, то ў нас ён лічыцца інтрадуцыраваным, гэта значыць укаранёным, завезеным чалавекам. Прышлая, што называецца, птушка. Пад Брэстам, на астравах ракі Мухавец, яны маюцца ў некаторай колькасці — там яны гняздуюць, выводзяць птушанят — неяк выжываюць. Праўда, не зусім ясна, якія гэта фазаны — звычайныя ці паляўнічыя, бо па знешняму выгляду яны амаль што не адрозніваюцца. Мабыць, паляўнічы фазан толькі крыху буйнейшы ды магчымы некаторыя варыяцыі ў афарбоўцы.

Аднак чаму пытанне ставіцца так, што фазану цяжка выжываць? Гэта датычыцца так званага паляўнічага фазана, якога хто-ніхто чамусьці лічыць птушкай для багацеяў.

Паляўнічы фазан — гэта гібрыдная птушка, выведзеная з розных яе падвідаў. Тут ужо аматары розных краін, скажам так, пастараліся, скрэшчваючы і селекцыянуючы хто як здагадаўся. Чаму гэтай справай актыўна займаліся, зразумела: трэба ж на кагосьці паляваць.

У Заходняй Еўропе «натуральнай», скажам так, прыроды захавалася мала. А як жа і дзе праявіць «сапраўднаму мужчыну» свае прыродныя схільнасці, калі хочацца пастраляць і здабыць паляўнічы трафей? Таму такога фазана ў Еўропе разводзяць, а потым выпускаюць на волю.

Такім чынам, паляўнічы фазан «штучны», выведзены без дапамогі прыроды і расселены на значна большай тэрыторыі ў параўнанні з той, на якой жыве яго звычайны сабрат. Аднак існаваць ён можа толькі пры падтрымцы чалавека. Таму жыве нават на тэрыторыі Фінляндыі, клімат якой не з цёплых. Такі фазан «патрабуе» ўвогуле правільна: калі ты, спадар паляўнічы, вывеў мяне «ў людзі», дык давай мне і дапамагай.

Так, паляўнічы фазан жыве быццам бы і на волі, але без падкормкі, пэўных біятэхнічных мерапрыемстваў з боку спецыялістаў яму прыйшлося б крута. Шмат асобін гэтага фазана ў паляўнічых гаспадарках Заходняй Еўропы выпускаюць, а потым адстрэльваюць. Прычым гэтая справа пастаўлена там, як кажуць, на шырокую нагу, цывілізавана і з размахам. Аматары «стралковага спорту» купляюць у паляўнічай гаспадарцы ліцэнзію, плацяць за адстрэл, — і ўсё гэта прыносіць арганізатарам немалы прыбытак. Можа, адсюль і пайшло меркаванне, што паляўнічы фазан — забава для багатых?

У нас у Беларусі таксама спрабавалі займацца развядзеннем паляўнічага фазана. У Белавежскай пушчы з гэтай мэтай быў створаны і пітомнік. Ён, аднак, праіснаваў не вельмі доўга. Ды і фазаны выводзіліся нейкія «няўдзячныя»: калі іх выпускалі на волю, то яны імкнуліся мігрыраваць у іншыя мясціны, і чамусьці пераважна ў бок Польшчы. Да радасці паляўнічых суседняй краіны, зразумела.

Потым, ужо ў 80-я гады, у нас адкрылася некалькі фазанарыяў Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў. Там, па прыкладу заходніх краін, таксама збіраліся арганізаваць паляўнічыя гаспадаркі. Мэты былі самыя добрыя — каб адцягнуць паляўнічых ад адстрэлу нашых мясцовых відаў птушак, якія з'яўляюцца аб'ектам палявання, зняць з іх гэты прэс, прывучыць аматараў да «новага» палявання і, безумоўна, атрымаць ад гэтага занятку нейкі прыбытак.

Аднак з гэтай ідэі нічога асаблівага не атрымалася: хацелі зрабіць як лепш, а атрымалася як заўсёды. Магчыма, тут «пасадзейнічала» і так званая перабудова, услед за якой прыйшлі эканамічныя цяжкасці. Ва ўсякім разе, новая справа паступова была згорнута.

Можна было б пагаварыць пра далейшы лёс усіх гэтых пачынанняў, але лепш падумаць вось пра што. Гэтага фазана, вядома ж, можна і разводзіць для палявання, але дзе на гэта знайсці немалыя сродкі? І ўвогуле, на сённяшні дзень праблема паляўнічага фазана неактуальная. Патрэбна сёння іншае: больш садзейнічаць выжыванню і распаўсюджванню менавіта нашых дзікіх птушак-абарыгенаў, у тым ліку і паляўнічых.

У лясах і палях Беларусі, без усякага перабольшання, ёсць нямала відаў цудоўных птушак, якія могуць служыць аб'ектам палявання (калі, зразумела, камусьці карціць задаволіць свае прапрадзедаўскія інстынкты). А каб іх колькасць не змяншалася, неабходна захоўваць месцы іх знаходжання, выконваць разнастайныя прыродаахоўныя мерапрыемствы. Але гэта ўжо іншая размова — на вечную тэму аховы нашага жывёльнага свету.

**Запісаў Мірон ЧАРАПІЦА.**

ЗВЯЗДА 29 верасня 1998 г. 9

## ААТ «Бабруйскі камбінат хлебапрадуктаў»:

# АПОРА НА ЎЛАСНЫЯ СІЛЫ ДАЗВАЛЯЕ НЕ ТОЛЬКІ ВЫЖЫВАЦЬ, АЛЕ І ПРАЦАВАЦЬ НА ПЕРСПЕКТЫВУ

### ВЫПРАБАВАННЕ НА СТАЛАСЦЬ

Камбінат, як і пераважная большасць прадпрыемстваў Беларусі, пасля развалу СССР і наступнага затым разрыву гаспадарчых сувязяў з яго былымі рэспублікамі, трапіў у даволі складанае становішча. Рэзка скараціліся аб'ёмы нарыхтовак. Калі раней тут перапрацоўвалі 2,5—3 тысячы тон збожжа, то цяпер ад сілы 600—700, максімум 800 тон.

Усяго два прадпрыемствы ў рэспубліцы выпускаюць ячневыя крупы: у Пінску і Бабруйску. Калісьці тут цэх па вырабу круп працаваў у дзве змены, а цяпер — у залежнасці ад заказаў і аб'ёмаў сыравіны.

Сёння на камбінаце працуюць 366 чалавек. За ўсе пасляперабудовачныя гады тут, як ні цяжка было, якімі б магутнымі ні былі абдымкі крызісу, не пайшлі на скарачэнне людзей. І зарплату, няхай і невялікую, выплачвалі і выплачваюць рэгулярна.

Але зберагчы калектыў ад распаду, не дапусціць банкруцтва прадпрыемства — гэта толькі палова справы. Не менш важная частка клопатаў Уладзіміра Пасюры — знайсці шляхі выжывання ў цяперашніх надзвычай складаных умовах, разгледзець у заблытанай эканамічнай сітуацыі перспектыву для вытворчасці.

Уладзімір Іванавіч лічыць, што свінагадоўчыя комплексы і комплексы па адкорму буйной рагатай жывёлы паступова адродзяцца і стануць зноў сапраўднымі «фабрыкамі» мяса. А яны, гэтыя комплексы, былі галоўнымі спажыўцамі камбікорму, які вырабляе камбінат. Ды што комплексы? Яшчэ параўнаўча нядаўна многія калгасы і саўгасы Бабруйскага раёна мелі таварныя жывёлагадоўчыя фермы. Цяпер яны засталіся толькі ў дзвюх сельскіх гаспадарках. А раней прыкладна столькі ж гаспадарак не мела падобных фермаў. Сёння многія старшыні аддаюць перавагу вырошчванню збожжавых: вырасціў, сабраў і здаў на захоўванне. А жывёлагадоўля куды больш турботная справа. Ёй трэба займацца круглы год. Таму ў цяжкі перыяд многія кіраўнікі гаспадарак па розных прычынах, у тым ліку і аб'ектыўных, пайшлі на рэзкае скарачэнне пагалоўя. Але Уладзімір Пасюра верыць у адраджэнне і росквіт беларускай жывёлагадоўлі.

А здарыцца гэта, на яго думку, абавязкова. Верагодна, уздым галіны ўжо хутка пачнецца. Вось тады і спатрэбяцца ў вялікіх аб'ёмах якасныя, выробленыя па навукова абгрунтаванай рэцэптуры камбікармы. Таму, каб у час павышэння попыту на іх быць у ліку тых, чыя прадукцыя карыстаецца папулярнасцю сярод спажыўцоў, на камбінаце пастаянна клапоцяцца пра якасць камбікармоў. Нічога, што аб'ёмы іх вытворчасці сёння ніжэй, чым раней. Наадварот, тут, насуперак гэтаму, яшчэ больш прыдзірліва ставяцца да якасці прадукцыі.



• Дырэктар камбіната Уладзімір ПАСЮРА.

Не выпадкова за апошнія гады значныя сродкі былі ўкладзены ў рэканструкцыю вытворчасці. Пашырана і пераабсталявана лабараторыя. Зараз рамантуецца даволі прасторнае памяшканне пад віварый, дзе на трусах і мышах будзе з вялікай ступенню дакладнасці правярацца таксічнасць сыравіны і камбікармоў.

Як кажуць работнікі камбіната гэты віварый стане адным з лепшых у рэспубліцы, калі не самым лепшым. Ён будзе абсталяваны ў адпаведнасці з апошнімі патрабаваннямі навуковай ветэрынарыі. Звычайна кіраўнікі падобных прадпрыемстваў шкадуюць грошы на ўзвядзенне віварыяў. І дарэмна гэта робяць. Бо сучасныя віварыі — своеасаблівае сведчанне таго, што тут за якасцю камбікармоў сочаць як след. Начальнік цэха камбікармоў Антаніна Станіславаўна Цвірко расказвае, што ў месяц выпускаецца тры-чатыры, а калі і пяць тысяч тон камбікармоў. Асартымент іх вялікі — складае восем відаў. Гэта камбікармы для свіней, парасят, буйной рагатай жывёлы, кур-нясушак, куранят і г. д. Спажыўцы — пераважна гаспадаркі Магілёўскай вобласці, аднак прыязджаюць сюды і з Гомельскай вобласці. Бо якасць камбікармоў — выдатная. Рэцэптуру распрацоўваюць на камбінаце. Для гэтага тут ёсць усе ўмовы, маюцца нават камп'ютэры, добра абсталяваная лабараторыя.

Намеснік яе начальніка Ларыса Іванаўна Апянчук гаворыць, што спецыялісты лабараторыі ўзброены ўсёй неабходнай апаратурай для праверкі як сыравіны, так і гатовай прадукцыі.

### «СЭРЦА» КАМБІНАТА Б'ЕЦЦА РЫТМІЧНА

«Сэрцам» камбіната называюць элеватар. Яго велізарны гмах даўно стаў важным элементам гарадскога пейзажу гэтай прамысловай зоны Бабруйска. Пабудавалі яго ў 1971 годзе.

Сёлетні год своеасаблівы для калектыву элеватара. Як ніколі, гэтым летам і амаль увесь верасень на камбінат паступала ў асноўным збожжа павышанай вільготнасці. Таму шмат сіл і энергіі ў супрацоўнікаў элеватара адымае яго апрацоўка. Прасушка ў прынцыпе завершана, зараз вядзецца яго ахалоджванне. Тут вельмі многае залежыць ад няўхільнага захавання тэхналагічнай дысцыпліны. Задача гэта не такая ўжо простая, як можа здацца на першы погляд. Але на элеватары вопытны і зладжаны калектыў, кваліфікаваныя работнікі, большасць з якіх працуюць ужо не адзін год. Усе майстры, якія з'яўляюцца касцяком калектыву, яго, калі можна так сказаць, цэментуючай часткай, працуюць тут кожны больш за 10 гадоў.

Цікавая дэталь: усе яны ў свой час закончылі Маладзечанскі політэхнічны тэхнікум.

Начальнік элеватара Ганна Уладзіміраўна Зінкавец ганарыцца сваім калектывам. Яна тут з 1981 года. Працавала пяць гадоў майстрам у камбікормавым цэху, потым перайшла на элеватар, дзе спачатку працавала старшым майстрам, намеснікам начальніка дзесяць гадоў.

Вось ужо два гады яна ўзначальвае калектыў элеватара. Паспяхова спраўляцца са сваімі абавязкамі ёй дапамагаюць яе верныя памочнікі, майстры Людміла Уладзіміраўна Міроненка, Алена Іванаўна Вяроўкіна, Зоя Мікалаеўна Шыла, Лідзія Пятроўна Ражскіх. Іх намаганнямі, а таксама іншых членаў калектыву, які налічвае 29 чалавек, «сэрца» камбіната заўсёды б'ецца рытмічна.

### ЦЭХ ЭКСТРУДЗІРАВАННЯ ЧАКАЕ ЗАКАЗЧЫКАЎ

Спачатку тут быў цэх карбаміднага канцэнтрату, дзе вырабляліся дабаўкі для буйной рагатай жывёлы. Вытворчасць гэта складаная і патрабуе высокай кваліфікацыі персаналу. Аднак потым выпуск карбаміднага канцэнтрату быў спынены, і вытворчыя плошчы пераабсталявалі пад цэх экструдзіравання збожжа. Заказаў тады хапала, і цэх працаваў у тры змены.

Але зноў жа пасля развалу СССР і затым масавай здачы жывёлы сельскімі гаспадаркамі на мясакамбінаты цэх па незалежных ад яго прычынах збавіў, як кажуць, абароты. Сёння ён працуе далёка не на поўную магутнасць. Каб цэх увогуле не прастойваў, яго абсталяванне выкарыстоўваюць для вытворчасці рознай прадукцыі. Хаця галоўная яго задача — экструдзіраванне збожжа, якое ідзе на вытворчасць камбікармоў, у прыватнасці, па так званых тонкіх рэцэптах. Ужыванне менавіта гэтых камбікармоў павышае прывагі і тым самым садзейнічае больш эфектыўнаму вядзенню жывёлагадоўлі. Праўда, гэткія камбікармы і каштуюць даражэй. Але калі рабіць эканамічны расклад выдаткаў, то выкарыстанне дарагіх камбікармоў усё ж выгадней для гаспадарак, чым скормліванне традыцыйных.

Гэты цэх, які поўнасцю аўтаматызаваны, з сучасным дарагім замежным абсталяваннем, укамплектаваны кваліфікаваным вопытным персаналам, можа выконваць заказы практычна ў любых аб'ёмах і з высокай якасцю. Цяпер, паўторымся, магутнасці цэха поўнасцю не загружаны. Кіраўнікі гаспадарак з-за фінансавых праблем, сёння лічаць за лепшае набываць больш танныя камбікармы. Але вядома, што танныя — значыць менш эфектыўныя. Таму ўжыванне іх не дазваляе дабівацца высокіх прывагаў, у выніку чаго гаспадарка недаатрымлівае шмат грошай. У эканоміцы, як і ў прыродзе, усё ўзаемаабумоўлена і ўзаемазвязана.



• Начальнік цэха Т. БУРАК і драбільшчыца С. ВАЛОХІНА каля пульта кіравання цэхам экструдзіравання зерня.



• Таксіколаг С. ПЕРНІКАВА.



• Адпраўка гатовай прадукцыі.



• Галоўны пульт кіравання элеватарам даверана маладому аператару І. БЕРНАТОВІЧ.



• Сепаратаршчыца Н. БУКАТАЯ і экструдзершчык П. НУЖЫН.

Начальнік цэха Таццяна Пятроўна Бурак успамінае, што жывёла, асабліва маладняк, якіх кармілі камбікармамі, зробленымі на аснове гэтага экструдзіраванага збожжа, не аднойчы дэманстраваліся на Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі.

Сёння заяўкі на экструдзіраванае збожжа паступаюць у асноўным з Клічаўскага, Магілёўскага, часткова Пухавіцкага і Бабруйскага раёнаў. Таму работнікі цэха звяртаюцца да ўсіх гаспадарак рэспублікі: вашы заказы на экструдзіраванае збожжа будуць выкананы ў тэрмін і якасна. Выкарыстайце гэту магчымасць. Памятайце: скупы плаціць двойчы.

Дарэчы, Мінсельгасхарч мог бы і парэкамендаваць сельскім гаспадаркам выкарыстоўваць магутнасці цэха экструдзіравання збожжа Бабруйскага камбіната хлебапрадуктаў. Бо другога падобнага па абсталяванню цэха ў рэспубліцы няма, і гэта вельмі не па-гаспадарску, калі яго амерыканскае абсталяванне прастойвае. А яно дазваляе з пульта кіравання ў аўтаматычным рэжыме выконваць усе аперацыі — ад падачы збожжа з элеватара да адгрузкі гатовай прадукцыі.

### ДАРОГА БЕЗ ПРЫВАЛАЎ

Уладзімір Іванавіч Пасюра ўжо амаль чатыры гады ўзначальвае камбінат. Перад гэтым доўга працаваў у сістэме аграпрама, у тым ліку інжынерам райсельгастэхнікі. У 1982 годзе пачаў працаваць на камбінаце аграномам. Паступова прайшоў прыступкі начальніка аддзела забеспячэння і збыту, транспарту, намесніка дырэктара і цяпер вось з'яўляецца дырэктарам.

Спадчына дасталася яму нялёгкая, у выглядзе велізарных даўгоў за пастаўленую прадукцыю. Якія толькі захады не прымала кіраўніцтва камбіната: пісала скаргі ў вышэйстаячыя арганізацыі, судзілася і выйграла суд, але грошы, тым не менш, не вяртаюцца. Сёння магілёўская бройлерная і круглянская птушкафабрыкі, шэраг іншых прадпрыемстваў камбінату вінаваты мільярды рублёў.

Усё гэта вельмі адмоўна ўплывае на вытворчую дзейнасць камбіната. Пытанне вісіць у паветры. Пазыкі ніхто не спісвае. Сітуацыя зайшла ў тупік. Усе прызнаюць правату камбіната, але дапамагчы нічым не могуць. Толькі абяцаюць... Але абяцаннямі сыты не будзеш.

Яшчэ адна фінансавая праблема. Пад ураджай гэтага года камбінат адпусціў значныя аб'ёмы камбікармоў гаспадаркам, якія з-за дрэнных умоў надвор'я пакуль не разлічыліся за іх. А крэдыт камбінату на гэтыя мэты быў выдзелены велізарны: 260 мільярдаў рублёў.

Крызіс у Расіі таксама адмоўна адбіўся на жыццядзейнасці камбіната, бо там былі рынкі збыту.

Разам з тым у гэтых неспрыяльных умовах калектыў камбіната знаходзіць магчымасці для развіцця. Зараз тут вядзецца рэканструкцыя і пашырэнне млына, бадай, самага старога ў Бабруйску. Гэта дазволіць павялічыць аб'ёмы вытворчасці і павысіць якасць мукі.

Мэтанакіравана тут займаюцца пытаннямі энергазберажэння. З гэтай нагоды мадэрнізуецца кацельня камбіната. Цяплом забяспечваецца і прадпрыемства, і суседні жылы пасёлак. А калі кацельня пяройдзе на газ, то камбінат атрымае значную эканомію сродкаў.

Днямі на камбінат прыедуць замежныя інвестары з мэтай вывучэння на месцы адкрыцця вытворчасці па выпуску мікрабіялагічных дабавак у кармы.

Ёсць у калектыву і іншыя ідэі і цікавыя задумкі.

**Леанід ТУГАРЫН.**
**Яўген ПЯСЕЦКІ (фота).**

**Каардынаты прадпрыемства ААТ «БАБРУЙСКІ КАМБІНАТ ХЛЕБАПРАДУКТАЎ»: тэл. (8-02251) 4-87-72, факс (8-02251) 4-17-65, тэлетайп 31-61-22. Адрас: 223800, Бабруйск, вул. Арджанікідзе, 99 і.**

# КІРМАШ

**ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК**

**№ 38 (156)**




## ПРАДАЕЦЦА

❑ «Фіят-125п» у добрым стане, танна. Тэл. (217) 58-5-52.

❑ Падпісное выданне пласцінак рускай паэзіі XVIII—XX стагоддзяў. Тэл. у Мінску 265-63-92.

❑ «ВАЗ-2103» 1978 г. в., 95 тыс. км прабег, белы, у выдатным стане, 1500 у. а. Тэл. 278-27-40.

❑ Слоікі ад дзіцячага харчавання, 2—4 тыс. руб./шт. Тэл. 243-21-33.

❑ «ВАЗ-21063», 1986 г. в., 2200 у. а., торг. Тэл. у Докшыцкім раёне (8-257) 2-61-54 з 18 да 20, Павел.

❑ «Рэно-5», 1987 г. в., турбадызель, расход 3,5 л/100 км, 1,4 л, прабег 184 тыс. км, выдатны стан. Тэл. у Мядзельскім раёне 4-61-98.

❑ «Масквіч-«каблучок», 1989 г. в. Тэл. у Паставах 2-27-28.

❑ Добры гараж у Сцяпянцы. Тэл. 264-39-28.

❑ «М-408» на з/ч. Тэл. у Капыльскім раёне 4-67-72.

❑ Пускач да «Т-25», прычэп да трактара б/к, катлы ацяпляльныя б/к, усё нядорага. Тэл. у Глыбокім 3-79-40.

❑ Л/а «ІЖ-комбі», 1991 г. в. у добрым стане, капрамонт рухавіка 1998 г., 1100 у. а. у г. Бярозаўка Лідскага раёна. Тэл. 6-22-04.

❑ Камплект запчастак да «ГАЗ-51»: задні мост, каробка передач, счапленне, рулявая калонка. Тэл. у Ашмянах 25-4-00.

❑ Трактар «Т-25А», дача і металічны гараж, зруб для лазні 5х5 (лес непадсочаны). Тэл.: (8-257) 2-20-97, 2-56-80.

❑ «Опель-рэкорд» 1982 г. в., 2 л, патрабуецца рамонт рухавіка, інжэктары добрыя. Тэл. (8-02136) 2-61-40, пасля 18.00.

❑ «ВАЗ-21063» 1987 г. в., прабег 120 тыс. км, у добрым стане, цана па дамоўленасці. Тэл. у Ваўкавыску 4-39-19.

❑ Драўляны дом у г. Капылі з г/пабудовамі, тэлефонам, участкам 10 сотак. Тэл. 5-04-76.

❑ Дом цагляна-блочны ў Чашніцкім раёне з г/пабудовамі, водаправод, лазня. Тэл.: (8-219) 4-76-51, 4-76-92.

❑ Дом з г/пабудовамі, вадзяное ацяпленне, участак 0,5 га, сад, побач ч/ст. Лудчыцы, цудоўныя ўмовы для ўтрымлівання кароў, ці абмяняю на 1-пакаёвую кватэру ў любым абласным цэнтры. Тэл. у Быхаўскім раёне 3-65-19.

❑ Дом з г/пабудовамі, участак 35 сотак у в. Арлева Любанскага раёна. Тэл. (8-210) 7-25-87.

❑ Зрубы: 6х5 — просты вугал; 4,5х4,5 — гладкі вугал, нядорага. Тэл. у Лепелі 4-53-20.

❑ «ВАЗ-2101» 1980 г. в. (патрэбен рамонт кузава); магнітола, фаркоп, 1100 у. а.; газавая пліта «Брэст 1457» новая, 100 у. а. Тэл. 213-30-20.

❑ «Масквіч-412» у выдатным стане, 450 у. а. Тэл. у Глыбоцкім раёне 3-90-53.

❑ Тэрмінова дом у Лагойску, маюцца г/пабудовы, тэлефон, водаправод. Тэл. у Лагойску 5-53-79.

❑ Помнік, граніт габро чорны.Тэл. у Капылі 5-46-10.

Новы слухавы апарат з паветранай праводнасцю (Англія) нядорага. Тэл. у Мінску 250-04-98.

❑ «ВАЗ-2105» 1981 г. в. у добрым стане, 1500 у. а. і дызельны 4-цыліндравы рухавік да «ГАЗ-51 (52), 400 у. а. Тэл. у Докшыцкім раёне 2-40-64.

❑ «ВАЗ-21074» 1996 г. в., 1,6 л. Цана па дамоўленасці ў Новалукомлі. Тэл. (8-02133) 3-74-46.

❑ Карова, узрост 6 гадоў. Звяртацца: Лагойскі раён, в. Асінцы, Анкуда Д. У.

❑ Камплект газавага абсталявання да ацяпляльнага катла ў Любані. Тэл. (8-294) 5-93-49 з 19.00.

❑ Дом з усімі выгодамі ў прыгарадзе Баранавіч або мяняю, маецца ўчастак, сад, тэлефон, побач возера. Тэл. у Баранавічах 3-24-16.

❑ Тэрмінова цагляны дом з усімі выгодамі, цэнтральнае ацяпленне, г/пабудовы ў Лепельскім раёне. Тэл. у Вілейцы 5-22-90, да 17.00.

❑ Палова дома з г/пабудовамі, водаправод, санвузел, тэлефон. Тэл. у Навагрудку 2-04-00.

❑ Кватэра 3-пакаёвая ў г. Глыбокае Віцебскай вобл. Тэл. (8-256) 2-15-49 рабочы (Наталля).

❑ Дом у Баранавічах 7х9, участак 14 сотак, газ, вада, сад, г/пабудовы, ці мяняю на кватэру ў Мінску. Тэл. 272-36-60.

❑ Палова новага цаглянага дома ў Слоніме (3 пакоі, кухня, газ, вада), маюцца хлеў, гараж, участак (г. Слонім). Тэл. (8-297) 2-70-47.

❑ Кватэра 2-пакаёвая, кааператыўны гараж, дом-дача з г/пабудовамі, участак 25 сотак у г. Старыя Дарогі. Тэл. (8-292) 54-0-87.

❑ Ж/б панелі на гараж (у камплекце), дзверку заднюю левую да «ВАЗ-2106». Тэл. у Глыбокім 2-17-98.

❑ Тэрмінова дом з усімі г/пабудовамі на знос у Мядзельскім раёне, танна. Тэл. у Мядзелі 50-1-42.

❑ Флейта, акардэон абодва ў добрым стане. Тэл. у Мінску 249-58-86, увечары.

❑ Трактар «МТЗ». Тэл. у Мінску 241-19-42.

❑ Дом у Баранавічах, участак 14 сотак, газ, вада, г/пабудовы ці мяняю на кватэру ў Мінску. Тэл. у Мінску: 270-56-56, 272-36-60.

❑ VW-транспарцёр 1990 г. в., дызель, растаможаны, 4,5 тыс. у. а. Тэл. (8-273) 7-68-45.

❑ «ВАЗ-21013» 1982 г. в., нядорага, газ-бензін, у г. п. Акцябрскі. Тэл. (8-02357) 2-27-85.

❑ Кватэра 2-пакаёвая ў в. Новы Свержань Стаўбцоўскага раёна, маецца вада, тэлефон, хлеў, участак. Тэл. у Стаўбцоўскім раёне 4-66-12.

*P. S. Паважаныя чытачы! Пішыце правільна міжгароднія тэлефонныя коды.*

## Асабістае жыццё

**Аб. 843.** Дзіма, 25/176/80, пазнаёмлюся з дзяўчынай да 30 гадоў для стварэння сям'і (Мінская вобл.)

**Аб. 844.** Пазнаёмлюся з сур'ёзнай жанчынай для стварэння сям'і. Аб сабе: Аляксандр, 48/176/80 (Мінская вобл.).

**Аб. 845.** Пазнаёмлюся з мужчынам да 50 гадоў для стварэння сям'і, пажадана ўдаўцом. Аб сабе: 42 гады, рост 170, вышэйшая адукацыя. Жыву ў вёсцы, разведзена, дзеці (двое) дарослыя (Віцебская вобл.).

**Аб. 846.** Пазнаёмлюся з добрай дзяўчынай для перапіскі. Аб сабе: Сяргей, 19/172/63. Пажадана фота, якое вярну (г. Смаргонь, в/ч).

**Аб. 847.** Удава, 53/160/70, служачая, матэрыяльна забяспечаная, пазнаёміцца для стварэння сям'і з добрым чалавекам адпаведнага ўзросту. На пераезд не згодна, падрабязнасці пры знаёмстве.

**Аб. 848.** Шукаю добрага чалавека, які бескарысліва дасць пастаяннае жыллё ў г. Гомелі.
Аб сабе: Таццяна, 45 гадоў, без ш/звычак.

**Аб. 849**. Сімпатычная бландзінка, 34 гады, рост 165 см, пазнаёміцца з прыстойным мужчынам для стварэння сям'і (Мінская вобл.).

**Аб. 850.** Жанчына, 55/158/58, пазнаёміцца з мужчынам без ш/звычак. Жыву ў сельскай мясцовасці Гомельскай вобл.

**Аб. 851.** Мужчына прыемнага выгляду пазнаёміцца з жанчынай да 43 гадоў. Аб сабе: 46/170/70, інжынер, прадпрымальнік, маю кватэру (Мінская вобл.).

**Аб. 852.** Пазнаёмлюся з хлопцам ва ўзросце да 25 гадоў. Аб сабе: Дзева, 19/156/55. Жыву ў вёсцы з бацькамі. Магчымы сур'ёзныя адносіны (Гродзенская вобл.)

*P. S. Паважаныя чытачы, пішыце разборліва сваё імя і адрас. Для перасылкі пісьма ці атрымання адраса высылайце канверт.*

## Рознае

❑ Мяняю 1—4 тамы В. Быкава і 1—4 тамы А. Адамовіча рускамоўныя на беларускамоўныя. Тэл. 244-00-63.

❑ Мяняю палову дома (3 км ад Смаргоні) на кватэру ў Маладзечне, Смаргоні ці прадам. Тэл. у Смаргоні 3-61-16, з 18.00.

❑ Маладым беспрацоўным інтэлектуалам прапаную сумесную працу; грамадскія праекты. Тэл. у Мінску 263-71-84.

❑ Мяняю самаробны трактар на матаблок. Тэл.: (8-292) 54-0-87, (8-293) 42-4-58.

❑ Мяняю ручныя механічныя нажніцы для рэзкі жалеза да 5 мм на каробку скарасцей да «Масквіча-412», прадам матацыкл «Днепр 10». Звяртацца: 223712, Салігорскі раён, в. Чыжэвічы, пас. Шахцёрскі, 13, Цесавец.

❑ Прадам або мяняю на сельгаспрылады экскаватарнае абсталяванне да трактара «ЮМЗ-6» Тэл. у Шчучыне 3-35-64.

❑ Мяняю 4-пакаёвую кватэру з выгодамі і г/пабудовамі ў г. п. Жалудок на кватэру ў Гродне ці Лідзе. Тэл. у Шчучыне 3-35-64.

❑ Мяняю 2-пакаёвую кватэру з усімі выгодамі (склеп, хлеў, агарод) у прыгарадзе г. Мінска на кватэру ў Гродне ці Лідзе. Тэл. (8-017) 292-78-90.

❑ Прадам без вулляў 10 пчоласем'яў або абмяняю на матацыкл ці інш. Тэл. у Смаргонскім раёне 2-74-82.

❑ Мяняю 3-пакаёвую кватэру ў г. Слоніме на г. Мінск або Стоўбцы. Тэл. у Слоніме 2-32-52.

❑ Прадам дом (2 км ад возера Нарач) ці абмяняю на 1-пакаёвую кватэру ў г. Маладзечна. Тэл. у Маладзечанскім раёне 2-40-20.

## Куплю

❑ Старыя фотаапараты, аб'ектывы, мікраскоп, секундамер, авіягадзіннік. Тэл. 253-24-41.

❑ Куплю засцежку-ліпучку. Тэл. у Гродне 5-90-23.

❑ Інвалідную каляску з ручным кіраваннем, нядорага. Тэл. у Чэрвеньскім раёне 3-27-28.

❑ Куплю мотаблок на з/ч, нават без матора. Тэл.: у Быхаўскім раёне 3-65-19, у Мінску — 246-73-84.

❑ Куплю аўтамабіль «Тарпан» ці дакументы да яго. Тэл. (8-0212) 33-85-48.

❑ Куплю поршань і аўтамат счаплення да матацыкла «ЯВА-250», 1 цыліндр і інш. Тэл. у Шчучынскім раёне 3-83-96, пасля 15.00.

❑ Куплю акардэон, нядорага. Тэл. (8-295) 7-31-75.

**Утерянную доверенность № 184 от 22 сентября 1998 г., выданную на имя Николайчиковой Тамары Петровны магазином № 43 «Мужская одежда» г. Жлобина, считать недействительной.**

## ВІНШАВАННІ

*Ад усяго сэрца віншуем любых мамачку і тату* ***Яніну Аляксандраўну і Паўла Іванавіча КВЕТКАЎ*** *з залатым вяселлем. Жадаем моцнага здароўя, бадзёрасці, доўгіх гадоў жыцця.*

**Дзеці**, г. Навагрудак.

*Віншуем з днём нараджэння* ***Аляксандру Анатольеўну НАКАНЕЧНІК*** *з пас. Сасновы Бор Івацэвіцкага раёна. Жадаем шчасця, кахання, здароўя.*

**Калегі па працы.**

*Ад усяго сэрца віншуем* ***Аляксандра Іванавіча БЕРДНІКОВІЧА*** *з в. Чырвонае Возера Салігорскага раёна з 75-годдзем. Жадаем моцнага здароўя і доўгіх гадоў жыцця.*

**Дзеці, унукі і праўнукі.**

*Віншуем* ***Віталя Сцяпанавіча РАКУЦЯ*** *з 70-годдзем. Жадаем шчасця, поспехаў, дабрабыту.*

**Шэйбакі**, г. Гродна.

*Віншуем з днём нараджэння мілую мамачку, ласкавую бабулю* ***Яніну Сямёнаўну ПІЛКО*** *з в. Капланавічы Клецкага раёна.*

*«Благодарим тебя за ласку,*
*За нежность, веру и любовь,*
*За всё, за всё тебе спасибо*
*И низкий до земли поклон».*

**Дзеці, унукі.**

*Сардэчна віншуем з 50-годдзем* ***Віктара Міхайлавіча АЗАРКУ*** *з в. Юшавічы Нясвіжскага раёна.*

*«Желаем, чтоб люди ценили тебя,*
*И мы чтоб тобою гордились,*
*Чтоб вся твоя жизнь,*
*как весенний букет,*
*Любовью и счастьем светились».*

**Сябры**, в. Юшавічы.

*Шчыра віншуем* ***Валянціну Іосіфаўну ДЗЯМЧЫЛА*** *з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, радасці, дабрабыту і кахання.*

**Супрацоўнікі Аздзяціцкай школы.**

*Віншую з днём нараджэння* ***Аляксандра Фёдаравіча ГАРАЧКУ*** *з Дзяржынска. Поспехаў табе ў рабоце, вялікага кахання і ўсяго найлепшага жадае Наталля з Фаніпаля.*

*Віншуем з днём нараджэння* ***Ганну Аляксандраўну ПАЧОБУТ***. *Жадаем шчасця, удачы.*

**Бацькі, брат**, в. Ліпкунцы.

*Віншуем з днём нараджэння* ***Рыгора Аркадзьевіча СЛАБКО***. *Жадаем шчасця, поспехаў у жыцці, вялікага кахання і ўсяго самага найлепшага.*

**Маці, родныя, сябры,**
Столінскі раён.

*Шчыра віншуем з 70-годдзем* ***Юлію Піліпаўну ІЛЬЮШЧАНКА*** *з г. п. Карма. Жадаем здароўя, бадзёрасці.*

**Дзеці, унукі**, г. Ваўкавыск.

*Дарагога, любага татачку і мужа* ***Расціслава Іванавіча НІКІПОРЧЫКА*** *з в. Вензавец віншуем з 30-годдзем. Моцнага здароўя, дабра, душэўнага спакою і шчасця.*

**Дзеці, жонка.**

*Сардэчна віншую з юбілеем* ***Мікалая Рыгоравіча ТУЗА*** *з в. Чыркавічы Светлагорскага раёна. Прымі самыя шчырыя пажаданні сямейнага шчасця, здароўя і доўгіх гадоў жыцця.*

**Міхаіл**, г. Маладзечна.

*Найлепшыя пажаданні* ***Іначцы і Віталю*** *з г. Мінска ў дзень шлюбу.*

**Зоя, Пятро, Інга**, в. Навінкі.

**ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**
**Просім аб'явы ў газету «Звязда» дасылаць на беларускай мове. Гэта забяспечыць дакладнасць і хуткасць іх публікацыі.**

**ЗВЯЗДА**

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы**

**Запоўніце разборліва, выражце і вышліце на адрас рэдакцыі 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**

**АБАВЯЗКОВЫЯ звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**

**Тэлефон для даведак 232-31-98.**

*Увага! Неразборліва запоўненыя купоны не разглядаюцца і не вяртаюцца.*
*Пры віншаванні ўказвайце прозвішча, імя, імя па бацьку таго, каго трэба павіншаваць.*

*ДЗЕЛАВЫЯ ВІЗІТЫ*

# Крызіс — не перашкода для партнёрства

**Днямі група прадстаўнікоў беларускіх суб'ектаў гаспадарання наведала Санкт-Пецярбургскі рэгіён, дзе сустрэлася з расійскімі калегамі. Вынікам гэтай сустрэчы стала з'яўленне новых дзелавых сувязяў і кантрактаў.**

— Калі мець на ўвазе цяперашні расійскі фінансавы крызіс і яго далёка не лепшы ўплыў на далейшае развіццё дзелавога супрацоўніцтва паміж суб'ектамі нашых краін, то з'яўленне гэтых новых сувязяў і кантрактаў можна лічыць вельмі адметным фактам, — зазначае кіраўнік Мінскага аддзялення Беларускай гандлёва-прамысловай палаты, якое і арганізавала гэту сустрэчу, Пётр Юшкевіч. — Увогуле, дзелавыя людзі, прадстаўнікі бізнесу — заўсёды аптымісты і заўсёды спадзяюцца на лепшае. Інакш ім і нельга, інакш трэба закрывацца і зусім нічога не рабіць... Прадстаўнікі нашых прадпрыемстваў і фірмаў сустрэліся з дзелавымі людзьмі Гатчыны і Пушкіна, Санкт-Пецярбурга, наведалі Гатчынскі рэгіянальны кірмаш, заключылі шэраг дагавораў на пастаўкі прадукцыі і арганізацыю сумесных вытворчасцяў. З'явілася неблагая перспектыва для супрацоўніцтва і непасрэдна паміж нашымі палатамі, г. зн. паміж нашым аддзяленнем Беларускай палаты і гандлёва-прамысловымі палатамі Гатчыны і Пушкіна. Гэта ў першую чаргу датычыць мяркуемай арганізацыі кароткатэрміновых курсаў па менеджменту на базе Пецярбургскага рэгіёна, на якіх нашы суб'екты гаспадарання маглі б атрымліваць максімум неабходнай інфармацыі (прычым на найбольш характэрных прыкладах) аб асаблівасцях расійскага заканадаўства ў галіне эканомікі, асаблівасцях заключэння дагавораў, разлікаў з расійскімі суб'ектамі і ў выніку маглі б зводзіць да мінімуму магчымую рызыку. Безумоўна, такая вучоба была б надзвычай карыснай. Каб больш беспамылкова разлічваць усе свае дзелавыя крокі, для гэтага трэба мець менавіта як мага больш інфармацыі. Дарэчы, мы таксама дамовіліся з рэгіянальнымі палатамі Санкт-Пецярбурга аб дасканальным абмене ўсёй інфармацыяй, якая можа быць карыснай для нашых суб'ектаў...

— Сам крызіс — не перашкода для партнёрства, патэнцыяльныя партнёры па бізнесу заўсёды знойдуць агульную мову. Проста ён вымушае больш адказна ставіцца да заключэння дагавораў з расійскімі партнёрамі, да большай дакладнасці і канкрэтнасці ў гэтых дагаворах, — дапаўняе адзін з удзельнікаў беларускай дэлегацыі ў Санкт-Пецярбургу, генеральны дырэктар акцыянернага таварыства «МАЗкантрактлізінг» Васіль Сідарук. — А яны, расіяне, як былі, так і застаюцца ў бізнесе нашымі стратэгічнымі партнёрамі. Што датычыць цяперашніх дамоўленасцяў «МАЗкантрактлізінга», дык яны наступныя: мяркуем адкрыць сваё прадстаўніцтва ў Пушкіне, тым больш, прадастаўляемыя нам плошчы дазваляюць разгарнуцца тут з размахам. Мы таксама дамовіліся з аўтапрадпрыемствам «Каргатранс» арганізаваць СП, якое займалася б аўтаперавозкамі. Як у першым, так і ў другім выпадку «МАЗкантрактлізінг» атрымае новыя магчымасці для прасоўвання нашай тэхнікі на расійскі рынак. Між іншым, хацеў бы прыцягнуць увагу і нашых беларускіх патэнцыяльных кліентаў: яны могуць атрымаць ад нас тэхніку ў лізінг (а гэта не толькі «МАЗы», але і трактары, і дарожныя машыны, і іншая тэхніка) на даволі выгадных для іх умовах...

У дзелавой паездцы ў Санкт-Пецярбургскі рэгіён прынялі таксама ўдзел прадстаўнікі мінскіх вытворча-камерцыйнага таварыства «Няміга», якое выпускае папулярныя прычэпы «Няміга» для легкавых аўтамабіляў, таварыства «Відэадрук» (прапануе камп'ютэры і праграмнае забеспячэнне пад заказ, мультымедыйныя энцыклапедыі, абсталяванне для вытворчасці кампакт-дыскаў), дзяржаўнага прадпрыемства «Белрэахім», слуцкай фірмы «Віста». І ва ўсіх іх з'явіліся новыя дзелавыя адрасы.

Праўда, расійскі крызіс усё ж уносіць свае карэктывы. Так, фірма «Віста» займаецца экспартам тавараў народнага спажывання, у тым ліку прадуктаў харчавання, завозіць жа ў рэспубліку пераважна рыбу і рыбапрадукты. Аднак у сувязі з вядомымі мерамі па абароне спажывецкага рынку рэспублікі дзейнасць фірмы, як зазначае яе генеральны дырэктар Віктар Станілевіч, практычна паралізавана, прычым віной усяму, як ён мяркуе, — звышасцярожнасць чыноўнікаў, у якіх нельга атрымаць «дабро» на вываз. Ну, а без вывазу дрэнна і з увозам. Той жа рыбы... Хоць, як сведчыць паездка ў Санкт-Пецярбург, цікавасць у расіян да беларускіх прадуктаў харчавання і да адпаведнага супрацоўніцтва — вялікая. І яны могуць не чакаць, пакуль нашы фірмы атрымаюць дазволы, а знайсці прымальныя новыя формы супрацоўніцтва (у сувязі з тымі ж фінансавымі цяжкасцямі ў Расіі) з заходнімі фірмамі. Тым больш, што там, на Захадзе, як правіла, не абцяжараны праблемамі абароны спажывецкага рынку, а хутчэй наадварот — заклапочаны праблемамі збыту. Між іншым, слуцкая «Віста» падчас пецярбургскіх сустрэч заключыла дагаворы з двума рыбаперапрацоўчымі прадпрыемствамі...

— Цікавасць да супрацоўніцтва з расійскімі рэгіёнамі ў нашых суб'ектаў па-ранейшаму застаецца высокай, — падкрэслівае Пётр Юшкевіч. — Паміж намі няма мытных бар'ераў, расійскія рынкі для нашых суб'ектаў — больш прывычныя. Адпаведна, яны больш і імкнуцца менавіта на гэтыя рынкі. Сёлета з дапамогай нашай палаты прадстаўнікі больш як 950 айчынных прадпрыемстваў і фірмаў выходзілі на знешніх партнёраў — як правіла, гэта былі расійскія партнёры. І даволі часта гэтыя кантакты заканчваліся кантрактамі. Прычым часам даволі буйнымі — на дзесяткі мільёнаў долараў.

**Іван АЛЯКСАНДРАЎ.**

## НА «БЕЛШЫНУ» НАЕХАЛА «МІШЛЕН»...

На камбінаце «Белшына» заняліся стварэннем якасна новых шын — цэльнаметалакордавых. Гэтыя шыны, у выніку асаблівасцяў іх канструкцыі, маюць значную зносаўстойлівасць пры вялікай нагружанасці, скорасных якасцях і адначасовым зніжэнні расходу паліва. Вядомыя фірмы-вытворцы шын — «Мішлен», «Гульдзір», «Брыджстоун» са сваімі цэльнаметалакордавымі шынамі радыяльнай канструкцыі пачалі цясніць прадукцыю камбіната на традыцыйных рынках у Расіі, Казахстане, іншых краінах СНД. Усё гэта і запатрабавала ад «Белшыны» значна актывізаваць работу па паляпшэнню якасных характарыстык шын і, у прыватнасці, звышбуйнагабарытных. Некаторыя з іх ужо апрабаваныя ў аўтагаспадарках. Паводле даных з горнаабагачальных камбінатаў, забяспечана павышэнне іх хадзімасці на 20—30 працэнтаў. Пры гэтым затраты на іх вытворчасць зніжаны больш чым на 15 працэнтаў.

На заводзе звышбуйнагабарытных шын ствараецца эксперыментальны ўчастак па вытворчасці цэльнаметалакордавых шын у аб'ёме больш за 1,5 тысячы штук у год.

**Іван АЛЯКСАНДРАЎ.**

## ГЕРХАРД ШРЭДЭР — ШЛЯХ АД ВУЧНЯ ПРАДАЎЦА ДА КАНЦЛЕРА

Сёння ўжо вядомыя вынікі выбараў у бундэстаг Германіі і новага канцлера, якія адбыліся ў мінулую нядзелю. Назіраць за іх ходам мелі магчымасць прадстаўнікі грамадскасці Мінска, шматлікія журналісты. Пасольства ФРГ сумесна з Мінскім міжнародным адукацыйным цэнтрам наладзіла вечарыну, прысвечаную падвядзенню вынікаў выбараў.

Як адбываліся выбары, меркаванні і каментарыі вядомых нямецкіх дзеячаў, палітолагаў прысутныя на свае вочы бачылі дзякуючы прамой трансляцыі з ФРГ. Яшчэ задоўга да выбараў дасведчаныя аналітыкі прадказвалі перамогу Герхарду Шрэдэру, кандыдату ад сацыял-дэмакратычнай партыі, прэм'ер-міністру зямлі Ніжняя Саксонія. Так яно і здарылася.

Хаця юнацкія гады сённяшняга 54-гадовага канцлера ФРГ быццам бы не абяцалі бліскучай палітычнай кар'еры. Працоўны шлях ён пачаў у 1961 годзе вучнем прадаўца. Праз два гады ўступіў у сацыял-дэмакратычную партыю, адначасова вучыўся ў сярэдняй школе сярэдняй ступені. Ёсць такія ў ФРГ. Відаць, у зусім не элітнай установе. Атэстат аб сярэдняй адукацыі атрымаў завочна. Потым вывучаў юрыспрудэнцыю, атрымаў ліцэнзію адваката ў Гановеры.

Яго рух наверх па палітычнай лесвіцы пачаўся ў 1978 годзе, калі Г. Шрэдэра выбралі старшынёй арганізацыі «Маладыя сацыялісты». Наступнай сур'ёзнай прыступкай стала выбранне ў 1980 годзе дэпутатам бундэстага. Чатыры гады (1986—1990) Г. Шрэдэр узначальваў апазіцыю ў лантагу Гановера і нарэшце прывёў яе да перамогі і стаў прэм'ер-міністрам Ніжняй Саксоніі. А праз восем гадоў ён ужо канцлер.

Вось некаторыя вытрымкі з перадвыбарнай праграмы СДПГ:

«Германіі патрэбен новы аптымізм, і яна мае патрэбу ў змене палітыкаў. Гэты час настаў».

Г. Шрэдэр абяцаў паскоранае стварэнне новых працоўных месцаў, вырашэнне эканамічных і сацыяльных праблем краіны. Зніжэнне масавага беспрацоўя аб'яўлена цэнтральным пытаннем. Сімпатычным для выбаршчыкаў было абяцанне зніжэння падаткаў для працоўных і сем'яў. Дзеля гэтага ён мае намер выкарыстаць шанцы глабалізацыі і еўрапейскага адзінства, стварыць саюз у інтарэсах працы, інавацый і справядлівасці, аб'яднаць намаганні працоўных, прадпрымальнікаў, палітыкаў і вучоных.

Цяпер для новага канцлера настала самая цяжкая пара выканання перадвыбарных абяцанняў.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**



*СІТУАЦЫЯ*

# Фермер Крушкін галадаў усяго гадзіну

**У аўторак, у 9 гадзін раніцы, фермер Павел Крушкін устанавіў на прыступках трыбуны і помніка Леніну на галоўнай плошчы Магілёва плакат з надпісам «Галадоўка» і аб'явіў усім цікаўным, што пратэстуе супраць затрымання супрацоўнікамі Шклоўскага раённага аддзела міліцыі ягонага грузу.**

Груз фермера — гэта 15 тон вырашчанай у гаспадарцы бульбы, якая ацэньваецца прыкладна ў 200 мільёнаў рублёў. Затрыманая ля абласнога цэнтра фура была зафрахтаваная Паўлам Крушкіным у Расіі для транспарціроўкі бульбы ў Архангельскую і Мурманскую вобласці.

16 верасня груз быў затрыманы, бо ў фермера не было дазволу на вываз яго ў Расію. Крушкін не зразумеў, чаму яго пазбавілі права распараджацца сваёй бульбай і карыстацца найбольш выгаднымі замежнымі прапановамі, а таму і аб'явіў галадоўку. Тым больш, што на прастоі транспарту ён страчваў 100 долараў штодзённа.

Акцыя пратэсту закончылася... праз гадзіну, калі Паўлу Крушкіну, паводле інфармацыі намесніка старшыні камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванню Магілёўскага аблвыканкама Валерыя Літвінава, растлумачылі сітуацыю: у адпаведнасці з Дэкрэтам Прэзідэнта «Аб некаторых мерах па абароне спажывецкага рынку» ў вобласці створана спецыяльная камісія, якая вырашае ўсе пытанні, звязаныя з вывазам тавараў, у тым ліку і бульбы, за межы краіны. У дзень напярэдадні аб'яўлення галадоўкі Паўлам Крушкіным камісія якраз прыняла рашэнне дазволіць усім фермерам вобласці свабодна распараджацца вырашчанай бульбай, бо аб'ёмы вытворчасці гэтых гаспадарак не надта вялікія, а таму вываз фермерскай бульбы на агульнай сітуацыі з харчаваннем не адаб'ецца.

Вельмі верагодна, што гэтая падзея ў абласным цэнтры сведчыць аб тым, як не хапае фермерам дапамогі, заступніцтва сваёй грамадскай арганізацыі: абласная асацыяцыя фермераў бяздзейнічае. Бо там ужо колькі часу з-за занятасці то на пасяўной, то на ўборачнай фермеры не маюць магчымасці сабрацца і абраць новага кіраўніка.

Дарэчы, зараз у Магілёўскай вобласці працуюць 157 фермерскіх гаспадарак. Нягледзячы на распаўсюджанае меркаванне аб ледзь не безнадзейнасці і вырачанасці гэтага сектара сельскай гаспадаркі, колькасць фермераў на Магілёўшчыне павялічалася адносна пачатку года на 12 чалавек.

**Ілона ІВАНОВА.**

# АСІЛКІ ПАЦВЯРДЖАЮЦЬ КЛАС

Тыдзень таму ў «Звяздзе» і іншых рэспубліканскіх выданнях з'явілася паведамленне пра тое, што бабруйскі асілак Уладзімір Савельеў, выступаючы на свяце горада, устанавіў сусветны рэкорд па пад'ёму гіраў: на працягу 36 гадзін паперамена дзвюма рукамі выкінуў над галавой «пудовік» ажно 23501 раз. Усяго ж за гэты час ён падняў больш як 376 тон грузу. Расказвалася і пра тое, што ў самы бліжэйшы час Уладзімір Савельеў прыме ўдзел у запісе на Беларускім тэлебачанні перадачы «Асілак». І раптам тэлефонны званок ад вядучага гэтай папулярнай шоу-праграмы Уладзіміра Даўжэнкі: «Прыязджай на запіс у суботу 26 верасня ў 17 гадзін...»

Як звычайна, вялікая студыя, дзе праводзіцца запіс аналагічных тэлеперадач, была запоўнена «пад завязку», давялося нават збіраць крэслы з іншых памяшканняў.

Выступленні адкрылі акрабаты, члены зборнай каманды рэспублікі. Потым на памост выходзілі юныя і ўжо прызнаныя майстры ўсходніх адзінаборстваў, чэмпіёны Еўропы і свету. Не буду падрабязна пераказваць змест усёй гэтай перадачы, якая заняла каля гадзіны, тым больш, што ў бліжэйшы час, а менавіта 4 кастрычніка, усё гэта будзе паказана ў чарговай тэлеперадачы «Асілак» на Беларускім тэлебачанні. Скажу толькі, што відовішча, як звычайна, было цікавым, захапляючым, словам, у стылі Уладзіміра Даўжэнкі. Мяне ж прываблівала найперш выступленне 10 самых моцных гіравікоў рэспублікі. На гэты раз яны вырашылі пайсці на рэкорд: за адну хвіліну адначасова выштурхнуць над галавой як мага большую колькасць тых гіраў. Прычым вага адных снарадаў была 16 кілаграмаў, у іншых 24 і 32 кілаграмы, а ў Вячаслава Харанекі — ажно 48 кілаграмаў. Але важна было зафіксаваць апрача індывідуальнага рэкорду яшчэ і рэкорд калектыўны. Усё гэта адбывалася на вачах у суддзяў і не менш патрабавальных гледачоў. Так што ніякага «мухлявання» — усё як мае быць.

І вось пасля адрывістай каманды, быццам махавікі, замільгалі магутныя рукі асілкаў. Гледзячы, як імкліва ўзляталі над галавой тыя гіры, нават не верылася, што гэта паўтара- і двухпудовікі. Праз пэўны час прынцыповыя суддзі падлічылі, што за хвіліну асілкі змаглі разам падняць 14 тон 864 кілаграмы. Такога яшчэ ніхто нідзе не рабіў. Індывідуальным пераможцам стаў зусім яшчэ малады атлет — дваццацігадовы Дзмітрый Баркан. Ён адначасова штурхаў дзве 16-кілаграмовыя гіры, прычым выкінуў іх ажно 63 разы. У агульнай колькасці падняў 2 тоны 16 кілаграмаў. І гэта за адну хвіліну!

Так ужо атрымалася, што пасля выступлення асілкі ўселіся побач са мною. А за суседнім столікам апынуўся Уладзімір Савельеў. Вядома ж, не ўтрымаўся, узяў у яго бліц-інтэрв'ю.

*— Як узнікла ідэя гіравога марафону?*

— Гірамі пачаў займацца яшчэ ў школе, — зазначае атлет. — Потым, калі вучыўся ў інстытуце, працаваў, не прыпыняў заняткаў любімым спортам. А наконт гіравога марафону... Неяк даведаўся, што існуюць супермарафоны, дзе спартсмены бягуць на працягу сутак і больш. Вось і вырашыў заняцца гіравым марафонам. Спярша падымаў гіры на працягу 6 гадзін, пасля 12... Летась на свяце горада бесперапынна выступаў з гірамі на працягу сутак. Потым вырашыў давесці гэты рэкорд да 36 гадзін. І як ведаеце, атрымалася.

*— У друку паведамлялася, што з вамі працаваў вядомы экстрасенс Васіль Конанцаў. І быццам бы дапамог. А як вы адчувалі гэта?*

— Ён дапамагаў мне рыхтавацца да штурму гэтага рэкорду, з яго ўдзелам распрацоўваўся своеасаблівы графік выступленняў. Зазначу, што недзе пасля 24-гадзіннага выступлення я адчуў, што сілы паступова пакідаюць мяне. І раптам быццам адкрылася другое дыханне: знікла стома, сіл яўна прыбавілася. Я зразумеў, што са мною на адлегласці пачаў працаваць Васіль Іванавіч. Больш таго, пасля 36-гадзіннага выступлення мяне запрасілі на вялікі святочны банкет. Стомы не адчуваў. Там жа мне прысудзілі прыз як лепшаму танцору.

*— Адкуль у вас гэтулькі сіл, энергіі?*

— Мабыць, ад продкаў. Бацька, цяпер ужо нябожчык, у маладосці штурман далёкай авіяцыі, быў чэмпіёнам Крыма па боксу, а дзед некалі падымаў на спіне каня.

*— І трывіяльнае пытанне: якіх новых рэкордаў можна чакаць ад вас?*

— Веру, што некалі гіравы спорт уключаць у Алімпійскія гульні. Ва ўсякім разе, папулярнасць гэтага віду спорту расце з кожным днём. Што датычыцца мяне, то ў свае 37 гадоў я яшчэ адчуваю: сіл і энергіі хапае. А, значыць, будуць і новыя рэкорды.

Імяніннікам адчуваў сябе ў гэты вечар і вядучы перадачы «Асілак» Уладзімір Даўжэнка. І было ад чаго. Сто сорак чацвёрты раз яго перадача выходзіць у эфір. Папулярнасць яе нязменна высокая. А для тэлежурналіста гэта — найлепшая ўзнагарода. Мне ж успамінаецца, як семнаццаць гадоў назад тады яшчэ малады тэлежурналіст Уладзімір Даўжэнка прынёс першую сваю заметку ў «Звязду». Потым другую, трэцюю... Цяпер гэта ўжо прызнаны майстар тэлежурналістыкі. А яшчэ дабіўся прызнання і ў грамадскай рабоце, стаў дэпутатам Мінскага гарсавета, старшынёй пастаяннай камісіі па галоснасці, сувязях з грамадскімі арганізацыямі і правапарадку. І ў тым, што спорт у рэспубліцы набывае ўсё большую папулярнасць, асабліва яго сілавыя віды, безумоўна, немалая заслуга Уладзіміра Даўжэнкі і яго папулярнага «Асілка».

**Уладзімір ГОЙТАН.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 7.06 | 18.54 | 11.47 |
| Віцебск – | 6.57 | 18.43 | 11.46 |
| Магілёў – | 6.56 | 18.42 | 11.46 |
| Гомель – | 6.54 | 18.38 | 11.44 |
| Гродна – | 7.23 | 19.06 | 11.43 |
| Брэст – | 7.22 | 19.09 | 11.47 |

***З 0.58 — 26-ыя месяцавыя суткі. Месяц — у сузор'і Казярога***

### МЕСЯЦ

**Першая квадра 28 верасня.**

### ІМЯНІНЫ

***Пр.* Людмілы, Віктара, Кіпрыяна, Дарафея, Ісака, Яфіміі**

***К.* Міхаіла, Габрыеля, Міхаліны**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае надвор'е, на большай частцы тэрыторыі дажджы. Вецер пераменных напрамкаў, 5—10 м/сек. Тэмпература паветра ў Гродне — 12—14, Мінску — 13—15, Брэсце — 14—16, Віцебску — 15—17, Магілёве і Гомелі — 16—18 градусаў вышэй нуля.

У наступныя двое сутак воблачна з праясненнямі, 30-га на большай частцы тэрыторыі дажджы; 1 кастрычніка па ўсходняй палавіне рэспублікі кароткачасовыя дажджы. Вецер паўночна-заходні, 5—10 м/сек. Тэмпература 30-га ўначы — 7—12, удзень — 12—17; 1-га ўначы 2—7, па захаду месцамі замаразкі да 0 — мінус 2, удзень — 10—15 градусаў цяпла.

*ХОЧАЦЕ — ВЕРЦЕ...*

# ЛЁС НА ДАЛОНІ

**Якая маці адмовіцца заглянуць у будучыню свайго дзіцяці? Тым больш, калі для гэтага трэба ўсяго толькі зайсці на прыём да спецыяліста-хіролага. Няхай ён па лініях рукі даведаецца, як складзецца лёс малога гадоў праз дзесяць—пятнаццаць і што будзе з ім потым на працягу ўсяго жыцця.**

**Вось і на гэты раз хлопчык-дашкольнік даверліва раскрыў далоньку перад Мікалаем Барысавічам ГАНІНЫМ. Мама прыціхла ў чаканні прагнозу, тайком спадзеючыся пачуць аб фенаменальных поспехах ці будучым багацці сына. Але Мікалай Барысавіч заціх, не маючы сілы вымавіць ні слова. Яшчэ б, на дзіцячай руцэ ён убачыў знак бамжа. Небяспечны, каварны знак, які сведчыў, што хлапчуку пагражае рэальная небяспека скаціцца на дно жыцця і стаць адным з насельнікаў вакзалаў.**

ПАМЫЛКА? Яна выключалася. Гэтая метка была вельмі добра знаёма Ганіну. Для таго, каб вызначыць знакі, якія адказваюць за беднасць і за багацце, ён спецыяльна прааналізаваў адбіткі рук бамжоў і вельмі багатых людзей. «Я папярэдзіў маму, што ў сына аслаблена пачуццё ўласнай годнасці, а значыць, ёсць усе шанцы трапіць у разрад няўдачнікаў, — успамінае Мікалай Пятровіч. — Растлумачыў ёй, што людзі з недастаткова развітой сілай волі, сутыкнуўшыся з цяжкасцямі, схільныя апускаць рукі і адмаўляюцца процістаяць акалічнасцям, а гэта — прамая дарога да скочвання ўніз. І, вы ведаеце, яна мяне вельмі добра зразумела».

Не буду ўтойваць, аб хіралогіі я ўпершыню пачула ад Ганіна. А ён адразу ж папрасіў не блытаць хіралогію з хіромантыяй — бо «мантыя» ў перакладзе з грэчаскай мовы азначае «гаданне, а «логас» — веды, вучэнне. Розніца, самі разумеце, велізарная. Хірамантыя — значыць звычайнае прадказанне, а хіралогія — навука, якая вывучае лініі і знакі рукі. І вельмі дакладная, як высветлілася, навука.

— У гаданні вельмі вялікая спакуса разлічваць на інтуіцыю. У хіралогіі руку трэба проста чытаць, — тлумачыць Мікалай Пятровіч. — Тут няма ніякай містыкі і не патрэбны звышнатуральныя здольнасці. Любы можа вывучыць знакі, як літары звычайнага алфавіту, а затым прымяніць іх на практыцы. Хочаце паспрабаваць?

Ёсць, напрыклад, людзі, якія літаральна асуджаны на шчасце. Што б яны ні рабілі — усё ў іх атрымліваецца, з любых непрыемнасцяў могуць выбрацца, у сям'і парадак, сяброў многа. Дык вось, адшукаць улюбёнцаў лёсу, аказваецца, прасцей простага. У іх асаблівая адмеціна на руцэ: выразная прамая лінія, якая выходзіць з цэнтра далоні, перасякае лініі розуму і сэрца і амаль пад прамым вуглом выходзіць туды, адкуль пачынаецца безыменны палец. Прычым лепш, калі такі малюнак будзе на правай руцэ. Калі ж яго ўвогуле няма, гэта зусім не азначае, што чалавеку пагражаюць няўдачы, проста радавацца жыццю, атрымліваць ад яго задавальненне ён «умее» значна менш, чым шчаслівчык.

Паверыць у хіралогію няпроста. Гадоў дзесяць таму і самому Ганіну, кандыдату тэхнічных навук, які прысвяціў дысертацыю метадам матэматычнага планавання эксперыменту, усё гэта здавалася глупствам. Але прасядзеўшы цэлы год у славутай Публічнай бібліятэцы Пецярбурга і прачытаўшы там ледзь не ўсе трактаты аб гаданні па руках, ён засумняваўся. І вырашыў праверыць старадаўнюю навуку з дапамогай... матэматычнага аналізу. Ідэя, прама скажам, не з банальных, але вынік быў ашаламляльным. Сухія лічбы пацвердзілі практычна ўсё, чаму вучылі і аб чым здагадваліся вялікія вучоныя старажытнасці. Ганіну ўдалося ўстанавіць дакладную сувязь паміж наяўнасцю на руцэ таго ці іншага знака і падзеямі ў жыцці чалавека. Ну а калі ён пачынаў чытаць па руках чужыя лёсы, то па рэакцыі людзей зразумеў — усё сходзіцца. Самы незвычайны выпадак адбыўся з ім у Стакгольме.

Непадалёк ад станцыі метро «Цэнтраль» Мікалай Барысавіч заўважыў маладую жанчыну — жабрачку. Варта ёй было звярнуцца па міласціну, як Ганін, паабяцаўшы пяць крон, папрасіў руку для аналізу. Як жа ён быў здзіўлены, калі на далоні шведскай папрашайкі хіролаг убачыў да болю знаёмы знак бамжа. Такі ж самы, як у няшчасных у яго родным Пецярбургу. І хоць знешне стакгольмская жабрачка выглядала больш прыстойна, чым нашы насельнікі падвалаў, а апранута была больш акуратна, сутнасць яе жыцця была дакладна такой жа — знявага, беспрасветнасць. Знак беднасці, як і іншыя літары ў «алфавіце» хіралогіі, аказаўся інтэрнацыянальным. Інакш і быць не магло.

*— Атрымліваецца, кожная хвароба здлюстроўваецца на руцэ?*

— Напэўна, так. Проста мы яшчэ не ўсе знакі расшыфравалі. З поўнай упэўненасцю можна сцвярджаць, што малюнак на далоні паказвае адхіленні ў рабоце сэрца і галаўнога мозгу.

Ёсць прыметы, якія сведчаць аб добрым стане здароўя. Гляньце на лінію жыцця. Калі яна выразная, ясная, раўнамерна афарбаваная і плаўна абыходзіць вялікі палец, значыць са здароўем усё ў парадку. Астраўкі альбо разрывы сведчаць аб наяўнасці захворванняў. Жанчыны, якіх хвалюе сфера гінекалогіі, павінны звярнуць увагу на так званы бранзалет Венеры — паралельныя лініі на запясці. Калі верхнія з іх выгінаюцца, бы лук, і «заязджае» на далонь, то ёсць падставы хвалявацца. У ідэале гэтая лінія павінна быць амаль роўнай, без усякай арачнай канструкцыі. Аднак лёгкае выгінанне ўласціва ўсім, не варта марна панікаваць. Разарваны бранзалет папярэджвае, што ў час родаў могуць узнікнуць вельмі сур'ёзныя праблемы.

Сёння, напрыклад, многія бацькі, імкнучыся не адстаць ад часу, «пад завязку» нагружаюць дзяцей дадатковымі заняткамі ў гуртках, у секцыях, з рэпетытарамі. Каб не распыляцца і не траціць марна энергію, паглядзіце на лінію галавы (ці, як яе яшчэ называюць розуму) на далоні сына ці дачкі. Калі лінія складаецца з астраўкоў альбо мае выгляд ланцужка, значыць не трэба штурхаць дзіця да дакладных навук. Гэтыя людзі не могуць засяродзіцца, ім цяжка сканцэнтраваць сваю ўвагу і доўга ўтрымліваць яе на адной якой-небудзь праблеме. Не патрабуйце «пяцёрак» па матэматыцы, фізіцы ці па іншых дысцыплінах, дзе неабходны карпатлівы аналіз. І не старайцеся ў далейшым супраць волі дзіцяці накіраваць яго, скажам, у тэхнічную вышэйшую навучальную ўстанову: усё роўна нічога не атрымаецца, а вучоба стане для яго сапраўдным пеклам.

Праўда, у рабоце з дзецьмі ёсць адна асаблівасць, якую цяжка растлумачыць: аналізаваць руку можна толькі ў хлопчыкаў і дзяўчынак старэй пяці гадоў. Да гэтага ўзросту лініі абазначаны невыразна і часта мяняюцца. Як тут не ўспомніць выдатных педагогаў! Яны заўсёды гаварылі, што фарміраванне характару адбываецца ў раннім дзяцінстве, а затым чалавек толькі рэалізуе тую праграму, якая была закладзена яго бацькамі. Прааналізаваўшы не адзін дзесятак сямейных пар, Ганін выявіў сувязь паміж лініямі рукі і сумяшчальнасцю ў шлюбе. Ёсць людзі, у якіх лінія жыцця і лінія галавы выходзяць з аднаго пункту і нейкі час ідуць як бы зліўшыся разам. З другога боку, нямала і тых, у каго яны з самага пачатку раздзелены і рухаюцца асобна адзін ад аднаго, што, дарэчы, лічыцца жаночай формулай. Дык вось, для шлюбу характэрна якраз адзінства процілегласцяў. Гэта значыць, калі ў аднаго з будучых мужа ці жонкі лініі пераплецены, то ў другога абавязкова павінны ісці незалежна. Гэта першая прымета. Другая датычыць адлегласці паміж лініямі галавы і сэрца. Калі ў жанчыны прасвет паміж імі невялікі, значыць у мужчыны ён павінен быць значна большы. І наадварот.

*— Вашы веды дапамагаюць ці перашкаджаюць вам у жыцці?*

— Гадоў пяць таму я карыстаўся хіралогіяй для адбору супрацоўнікаў у сваю лабараторыю. І, трэба сказаць, у нас склаўся зладжаны, добразычлівы калектыў. Выключна дзякуючы хіралогіі мне ўдалося захаваць сям'ю. Астролагі, напрыклад, у адзін голас прадказвалі мне два шлюбы. І сапраўды, у нас у доме нейкі час былі вельмі вялікія складанасці, і справа ўжо ішла да разводу. Магчыма, так бы і атрымалася. Але, заняўшыся сакрэтамі ліній і вывучыўшы сябе, я, натуральна, не мог не прааналізаваць руку жонкі. І быў здзіўлены, узрушаны. Аказваецца, я ўсё жыццё няправільна абыходзіўся з ёй. Ад чалавека нельга патрабаваць больш, чым ён можа даць, а я, як высветлілася, трымаў яе ў пастаянным напружанні. Варта мне было зразумець гэта і рэзка перамяніць адносіны да яе, як справы адразу пайшлі на папраўку. З таго часу мінула ўжо больш за дзесяць гадоў, і, паклаўшы руку на сэрца, магу сказаць, што ў нас добрая сям'я і пра другі шлюб няма і гаворкі.

*— А ці былі ў вашым жыцці такія сітуацыі, пра якія вы з болем успамінаеце сёння?*

— Так, у самым пачатку работы. Я чытаў руку адной жанчыны... Словам, не трэба было ёй гаварыць пра смерць... Гэтую дату не павінен ведаць ніхто. Але я быў нявопытным, і мяне падкупіла імкненне так разлічыць свае сілы, каб своечасова закончыць усе справы. Я тады адкрыта сказаў: вы памраце праз два гады. Потым мы доўга не бачыліся. А за паўгода да смерці яна зноў прыйшла да мяне і папрасіла паглядзець, ці не змянілася што-небудзь у яе лёсе. На жаль, усё засталося без змен. «Я вас ні ў чым не абвінавачваю, але веданне тэрміну, які вы мне пакінулі, было самым страшным і цяжкім выпрабаваннем».

*— Што ж атрымліваецца: усё ў нашым жыцці загадзя прадвызначана?*

— Цяжка адказаць адназначна. У кожнага, хто прыходзіць у жыццё, ёсць мэта. І чалавек выконвае сваё прадвызначэнне незалежна ад таго, разумее ён гэта ці не. У аднаго шлях вельмі кароткі, у другога — дзякуючы сіле волі — шырокі. Але ў любым выпадку граніцы нашых магчымасцяў строга акрэсленыя, таму пры жаданні можна лічыць, што жыццё прадвызначана.

Толькі вось парадокс: бязвольна пакарацца лёсу нявар та. На тое і дадзены розум, каб стрымліваць яго ўдары і накіроўваць ход падзей у патрэбным напрамку. Некаторыя лічаць, напрыклад, што лініі на руцэ могуць мяняцца з-за характару работы. Наіўная памылка! А вось ад перамены светапогляду — калі ласка. Неяк на Гульнях добрай волі да Ганіна падышоў амерыканец. Разгаварыліся, той працягнуў руку, а Мікалай Барысавіч усяго толькі і змог вымавіць: «Як вам удалося пазбегнуць смерці сем гадоў таму»? Амерыканец усміхнуўся. Аказваецца, роўна сем гадоў таму ён быў у хоспісе з безнадзейным дыягназам — рак. Але сіла волі і прага да жыцця прымусілі яго зрабіць апошнюю спробу. Ён пайшоў у індзейскае племя, дзе знахар паабяцаў вылечыць яго, паставіўшы адну ўмову: застацца ў племені з новым імем, новай жонкай, а галоўнае — з новымі поглядамі. Амерыканец згадзіўся, і малюнак на яго далоні змяніўся. Пасля знака смерці паявілася нібыта дадатковая лінія жыцця.

Штосьці падобнае адбылося і з самім Ганіным. Назіраючы ў дынаміцы уласную руку, ён выявіў у сябе знак адной вельмі небяспечнай хваробы. Спачатку, як усякі, спалохаўся, але потым змог перамагчы страх, сур'ёзна заняцца ёгай і... знімаючы чарговы кантрольны адбітак, убачыў, што страшны знак знік.

Атрымліваецца, лёс не толькі на руках, але і ў руках нашых.

**Алена КОСЦІНА.**

*«Семья».*

*АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ*

## ДЗЯЎЧЫНЕНЬКА, ШУМІЦЬ ГАЙ

***Светлую па настроі, агнявую па напружанасці пачуццяў песню «Дзяўчыненька, шуміць гай» Генадзь Цітовіч запісаў у 1948 годзе ў вёсцы Вялікае Падлессе Ляхавіцкага раёна ад удзельніц народнага хору М. Спаршчок і С. Шахмуць. (На той час фальклярыст працаваў у Баранавічах і прыязджаў у Вялікае Падлессе кіраваць хорам.) Пазней песня ўвайшла ў рэпертуар Дзяржаўнага народнага хору Беларусі. Цяпер яе выконваюць многія калектывы мастацкай самадзейнасці. Існуюць варыянты гэтай песні, адзін з іх занатаваў Рыгор Шырма. Спяваюць яе і ва Украіне.***

**Міхась ШАВЫРКІН.**




*БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ПЕСНЯ*

*— Дзяўчыненька, шуміць гай,**
*Каго верна любіш, не забывай.*

*— Няхай шуміць, хай гудзе:*
*Ды хто верна любіць —*
*той сам прыйдзе.*

*— Дзяўчыненька, адчыні,*
*Хаця ж маё сэрца развесялі.*

*— Ой, не буду адчыняць,*
*Бо захочаш ночаньку начаваць.*

*— Ой, не буду, не буду,*
*Толькі ўзыйдзе месячык,*
*я пайду.*

*Мы сядзелі да зары,*
*Пакуль стала відненька*
*на двары.*

*Зышоў месяц і зара,*
*Аставайся, мілая, здарова!*

* Кожны радок паўтараецца.

## ЖУРНАЛІСТЫ ВЫБРАЛІ ЛЕПШАЕ ПІВА СМІ-98

Напрыканцы мінулага тыдня «піўная» газета «Ячменный голос» адзначыла двухгоддзе. Спосаб заявіць пра чарговы дзень нараджэння свайго дзіцяці калектыў выдання выбраў даволі незвычайны і... правёў конкурс «Лепшае піва СМІ-98».

На дэгустацыю прадстаўнікам беларускіх сродкаў масавай інфармацыі выставілі свае лепшыя напоі (аж 12 гатункаў!) 6 айчынных прадпрыемстваў: мінскія «Крыніца», «Аліварыя», лідская, брэсцкая, слуцкая і полацкая піваварні. Конкурс праводзіўся па ўсіх канонах прафесійнай дэгустацыі.

Першыя месцы ў намінацыях лепшага светлага і лепшага цёмнага піва ўзяў завод «Аліварыя» з гатункамі «Лекерт-Люкс» і «Сябры» адпаведна. Лепшым рэпарцёрскім півам было прызнана «Лідскае алімпійскае».

Журналісты, чый «піўны» густ сапраўды заслугоўвае даверу, аддалі перавагу малавядомаму мінчанам брэсцкаму піву і некалькім гатункам сталічнай «Крыніцы».

**Сяргей ПРОТАС.**

## ШАХМАТЫ

***Пад рэдакцыяй майстра спорту Уладзіміра СЫЧОВА***

**ГАДАВЫ КОНКУРС РАШЭННЯЎ**

**Заданне № 33**

*Вадзім Іваноў (Мінск)*



**Белыя**: Кра2, Се7, Cf5, Ке1; пп: b3, c4, e2, e4, g5 (9). **Чорныя**: Кре5, Сс1; пп: b6, c3, g3 (5). **Мат за 3 хады.**

**Заданне № 34**

*Вадзім Жылко (г. Лунінец)*



**Белыя**: Kpf2, Лb3, Лg8 (3). **Чорныя:** Кра4; пп: b4, b5, b6 (4). **Мат за 4 хады.**

Блізня: б) Kpf2 е3.

**XXV ТЭМАТЫЧНЫ КОНКУРС**

Рэдакцыя газеты «Звязда» і рэспубліканская камісія па шахматнай кампазіцыі аб'яўляюць юбілейны, XXV тэматычны конкурс складання двухходовых задач. Сёлета ён прысвечаны памяці вядомага шахматнага кампазітара Віктара Ваўнейкі.

Суддзя конкурсу — Вадзім Іваноў (Мінск) прапанаваў наступную тэму: «Тэма Аянена, Флека, Кужаева з простай пераменай матаў». Прыклад — задача суддзі.



**Белыя**: Kph8, Фh4, Cd5, Cd8, Kd1; пп: g7, h3 (7). **Чорныя**: Кра3, Фb4; пп: a4, h5 (4).

Падманлівы след. 1. Фе7? цугванг. 1... Фс5, Фd6, Ф:е7 2. Ф:с5, Ф:d6, С:е7х. 1... h4!

Рашае. 1. Се7! ~2. С:b4, Ф:b4, Фg3х. 1... Фс5, Фd6, Ф:е7 2. С:с5, Cd6, Ф:е7х.

Запрашаем усіх аматараў шахмат прыняць удзел у конкурсе складання.

Пераможца — аўтар задачы, якая зойме першае месца, будзе судзіць чарговы конкурс складання.

Задачы на дыяграмах з поўным рашэннем трэба дасылаць да 1 студзеня 1999 года на адрас: 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10А, рэдакцыя газеты «Звязда». З паметкай — «Шахматы».

**ШАХМАТНАЯ НАВІНКА**

Выйшла ў свет кніга па шахматнай кампазіцыі К. К. Сухарава «Матчы гарадоў-герояў і іншыя спаборніцтвы па шахматнай кампазіцыі».

Кошт кнігі — 10 рублёў расійскімі.

Заяўкі дасылайце на адрас аўтара: 630091, Новосибирск-91, ул. Крылова, д. 2, кв. 11, Сухареву Константину Константиновичу.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by* «ДЛЯ ВАС» — 32-44-12.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі. Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі. Матэрыялы, пазначаныя значком носяць рэкламны характар. Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Агульны тыраж 92.132.
Індэкс 63850.
Зак. № 5738.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12